Н. І. Здановіч
А. К. Краўцэвіч
А. А. Трусаў

# МАТЭРЫЯЛЬНАЯ КУЛЬТУРА МІРА І МІРСКАГА ЗАМКА



Н.І.Здановіч
А.К.Краўцэвіч
А.А.Трусаў

# МАТЭРЫЯЛЬНАЯ КУЛЬТУРА

## МІРА І МІРСКАГА ЗАМКА



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1994

ББК 63.4 (4 Беи)
З-46
УДК 904 (476.6)

Рэдактар
кандыдат гістарычных навук
М. М. Чарняўскі

Рэцэнзенты:
кандыдаты гістарычных навук
А. М. Кушнярэвіч, В. Е. Собаль

**Здановіч Н. І., Краўцэвіч А. К., Трусаў А. А.**
З-46 Матэрыяльная культура Міра і Мірскага замка.— Мн.: Навука і тэхніка, 1994.— 152 с.: іл.

ISBN 5-343-01618-9.

Гэтая праца — вынік шматгадовых археалагічных даследаванняў унікальнага сярэднявечнага паселішча, знакамітага праз свой замак. Горад і замак разглядаюцца як неадлучныя часткі аднаго комплексу.
Разлічана на навукоўцаў, краязнаўцаў і ўсіх аматараў гісторыі.

З $\frac{9040000000—002}{М 316(03)—94}$ 7—95

ББК 63.4(4 Беи)

ISBN 5-343-01618-9

# Уступ

Мірскі замак і гарадскі пасёлак Мір уяўляюць сабой архітэктурны комплекс, які ў асноўных рысах сфарміраваўся на працягу 16—17 стст. Гэты комплекс — спалучэнне феадальнай сядзібы з прыватнаўласніцкім паселішчам — дастаткова тыповы і адначасова унікальны. Тыповы, бо на Беларусі, асабліва ў заходняй яе частцы, такое спалучэнне не рэдкасць (Нясвіж, Любча, Гальшаны, Геранёны, Бярозавец і інш.). Унікальны, бо ў нас больш няма падобных па захаванасці і мастацкіх вартасцях замкаў. Мірскі замак — адзін з нямногіх добра даследаваных беларускіх замкаў, ды і сам пасёлак таксама адносна няблага вывучаны археолагамі.

Варта адзначыць, што амаль усе даследчыкі разглядалі часткі комплексу — замак (больш) або мястэчка (менш). У аснову нашай працы пакладзены комплексны падыход, калі замак і горад разглядаюцца як дзве часткі аднаго цэлага.

Галоўнай мэтай яе з'яўляецца асвятленне гісторыі матэрыяльнай культуры замка і паселішча ў параўнанні між сабой. Гэта стала магчымым у выніку шматгадовых археалагічных даследаванняў у замку і мястэчку, якія правяла экспедыцыя Беларускага рэстаўрацыйна-праектнага інстытута.

На існуючы момант Мір мае статус пасёлка гарадскога тыпу, налічвае каля 5 тыс. жыхароў і з'яўляецца цэнтрам сельскага Савета. З сярэднявечных мураваных пабудоў акрамя замка захаваліся толькі Мікалаеўскі касцёл, Троіцкая царква, што неаднаразова перабудоўваліся і страцілі пачатковы выгляд. Застаўся таксама будынак талмудысцкай акадэміі 18 ст. У сучасным горадабудаўнічым вобліку пасёлка значнае месца займае мураваная забудова канца 19 — пачатку 20 ст., якая найлепш захавалася каля паўднёвага краю плошчы.

Замак знаходзіцца ў 500 м на паўднёвы ўсход ад пасёлка. З усходняга, паўночнага і заходняга бакоў захаваліся рэшткі земляных умацаванняў 16—17 стст. З поўдня размешчаны стаў, створаны ў 19 ст. загачанай ручаінай. За ўсходнім валам у старым парку ў 1904 г. была збудавана капліца-пахавальня апошніх уладальнікаў замка князёў Святаполк-Мірскіх.

У цяперашні час у замку поўным ходам ідуць рэстаўрацыйныя работы. У адной з вежаў з восені 1992 г. пачала працаваць філія Дзяржаўнага мастацкага музея Беларусі.

Буйныя археалагічныя раскопкі ў замку выкліканы пачаткам яго аднаўлення. Вялікія па аб'ёме рэстаўрацыйныя працы пагражалі цэласнасці культурных напластаванняў у двары замка і вакол яго сценаў. Неабходна было сабраць інфармацыю для распрацоўкі праекта рэстаўрацыі

помніка. Гэтыя дзве прычыны вымусілі правесці максімальна магчымае навуковае даследаванне культурнага слою.

Археалагічныя раскопкі на тэрыторыі пасёлка звязаны як з рэстаўрацыяй Мікалаеўскага касцёла, так і з вырашэннем чыста навуковых задач па вывучэнні сярэднявечнага горада. У выніку мы маем адзіны на Беларусі прыклад параўнальна добрага археалагічнага даследавання адразу дзвюх частак комплексу (паселішча — замак). Каштоўнасць для археалагічнай навукі гэтых даследаванняў яшчэ і ў тым, што сам пасёлак і замак — «чыстыя» познесярэднявечныя помнікі, на іх няма культурных наслаенняў, ранейшых за канец 14 — пачатак 15 ст. Гэта дазваляе даследчыкам дакладней датаваць знаходкі і не блытаць іх з больш раннімі, як бывае на шматслойных помніках. Матэрыялы раскопак Міра і замка павінны стаць важкім укладам у стварэнне храналагічнай шкалы беларускіх старажытнасцяў.

На сённяшні дзень склаўся даволі доўгі гістарыяграфічны спіс прац аб Мірскім замку і паселішчы Мір. Пачатак гэтага спіса выходзіць з 16—17 стст., калі розныя падарожнікі, праязджаючы праз Мір, запісвалі свае ўражанні ў дарожныя нататнікі.

Шматлікія працы, у якіх змяшчаецца інфармацыя гістарычнага і краязнаўчага характару, называліся і аналізаваліся ў манаграфічных выданнях апошніх часоў [1]. Каб не паўтарацца, мы засяродзім увагу на працах, звязаных непасрэдна з тэматыкай гэтай манаграфіі, а менавіта з матэрыяльнай культурай Міра і Мірскага замка.

З дарожных нататак найбольшую цікавасць выклікае апісанне места і замка, пакінутае расійскім дыпламатам-стольнікам П. А. Талстым. Праязджаючы праз Мір у 1697 г. у накірунку Варшавы, ён даволі дэталёва апісаў горад і замак. Адчуваецца, што жыхару Масковіі цікавыя нашы мясціны з непрывычным для расійскага вока архітэктурным воблікам. Адсюль відавочна, такая падрабязнасць апісання: «Город Мир — маетность князя Радивила с Несвижа, подканцлера литовского. Тот город земляной, в нем есть церковь униатцкая да костел римской каменные, служат попы белые. В тот город четверы ворота проезжие каменные, в том городе домы мещанские богатые и жидов много. Место не велико, а домов изрядного строения много. И стоит тот город зело изрядно, а реки под ним никакой нет. От того города блиско замок зделан земляной; в том замке зделан дом великой каменный, по углам башни круглые, и ворота в том доме зделаны башнею круглою, зело высокие, а дом зделан четвероугольной. В той помяненной башне над воротами зделан костел римской изрядным строением; а между башен вместо стен поделаны все полаты зело изрядные и с двух сторон высокие, в три жилья вверх. Тот дом вымощен каменем и вокруг того дому пропущена вода.

От того же города Миру с полверсты место великое сосновой рощи огорожено — то суть того ж помяненнаго Радивила зверинец. В том зверинце много оленей, лосей, байгаков, коз диких и иных тому подобных зверей.

В вышепомяненном Радивилове каменном доме стоит варта, то есть караул, салдаты на ево плате. На том помяненном дворе всех ево Радивиловых полат 80 жилей и кругом полат построены каменные переходы» [2].

А вось англічаніну Коксу, які праязджаў Мір у 1779 г., места здалося вёсачкай, дзе немагчыма здабыць ежу [3].

Вобразнае і адначасова дастаткова інфармацыйнае апісанне замка і места склаў у сярэдзіне 19 ст. Уладзіслаў Сыракомля: «З боку Жукавага Барка ўязджаеш у Мір, у вёску: усе больш арыстакратычныя будынкі недзе пахаваліся, перад намі ж — вуліца мяшчанскіх дамоў і хлявоў, што нагадваюць вёску. Толькі карчма пры самым уездзе — гэтая пастка для сялян, якія прыязджаюць у горад, і купкі бруднага і лянівага яўрэйства напамінаюць мястэчка. Вязнучы ў гразі, якой Мір славіцца сярод іншых тутэйшых гарадоў, потым патрэсваючыся па выкладзеным нячастымі камянямі бруку, які, мусіць, помніць яшчэ паганскія часы — такі мае варварскі выгляд,— едзем на рынак, рухаемся міма ранейшай ба-

---

[1] Гурин М. Ф. Мир. Мн., 1985; Калнин В. В. Мирский замок. Мн., 1986; Трусов О. А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв. Мн., 1988; Краўцэвіч А. К., Якшук Г. М. Стары Мір. Мн., 1993.

[2] Путешествие стольника П. А. Толстого по Европе 1697—1699. М., 1992. С. 20.

[3] Кокс В. Путевые заметки англичанина (1779—1785 гг.) // Русская старина. Спб., 1907. № 7—9.

зыльянскай, а цяпер грэчаскай царквы і паміж крам, змураваных у два рады, наглядных знадворку, але пустых усярэдзіне, уцякаючы ад чарады крыклівых яўрэяў абодвага полу, якія расхвальваюць свае рэдкія тавары, сунімаемся нарэшце перад старасвецкім мураваным касцёлам са званіцай, таксама мураванай, толькі ўжо новай, у нейкім няпэўным архітэктурным стылі»[4]. І далей пра замак: «Брама ў форме паловы вала, над ёй і па кутах замка пяць прыгожай архітэктуры вежаў з пашкоджанымі байніцамі, яшчэ мураваныя сцены — вось і ўсё, што засталося ад велічнага гмаху»[5]. У цытуемай працы У. Сыракомля ўпершыню апублікаваў малюнак замка са збораў Яўстафа Тышкевіча, выкананы К. Русецкім як «вельмі дакладны від Мірскага замка».

Юльян Барташэвіч у сваёй працы «Бельскі замак» (выдадзена ў 1881 г.) памылкова назваў умацаванні вакол Міра «мурамі»[6], што ўводзіла ў зман наступных даследчыкаў.

Грунтоўнае архітэктурнае апісанне Мірскага замка ажыццявіў А. Я. Міцянін. Ён выдзеліў тры этапы будаўніцтва замкавага комплексу: I — пачатковы, 1-е дзесяцігоддзе 16 ст.; II — 20—30-я гады 16 ст.; III — другая палова 16 — першая палова 17 ст.[7]

Кніга В. В. Калніна (ёй папярэднічалі буклет і сумесны з Л. В. Трэпет артыкул) прысвечана гісторыі Мірскага замка і яго рэстаўрацыі[8]. На падставе грунтоўных архіўных (апрацавана значная колькасць інвентароў) і натурных даследаванняў тут распавядаецца пра асноўныя этапы будаўніцтва замка, яго мастацкія вартасці, звязаныя з ім паданні. Публікуюцца малюнкі К. Русецкага, Н. Орды, малюнак 1849 г. і фотаздымак 1882 г., прыводзяцца апісанні дэталяў інтэр'ераў 17—18 стст. Значная частка ілюстрацый — рэканструкцыі знешняга выгляду замка і праект рэстаўрацыі фасадаў і інтэр'ераў. Пра развіццё паселішча Мір як матэрыяльнага аб'екта пісала ў 30-я гады 20 ст. В. Рэвеньска[9], спецыяльны артыкул прысвяціў гісторыі горадабудаўнічага развіцця Міра Д. С. Бубноўскі[10].

У канцы 19 — першай палове 20 ст. на гісторыю Мірскага замка як помніка «літоўскай гісторыі і культуры» звяртаюць увагу і некаторыя літоўскія даследчыкі.

У 20—30-я гады 20 ст. Мірскі замак фатаграфуюць розныя вядомыя фатографы, у тым ліку і Ян Булгак. У Польшчы была нават выдадзена паштовая марка з выявай замка.

Пачатак гістарыяграфіі матэрыяльнай культуры замка і места звязаны з арганізацыяй буйных археалагічных раскопак на замку (пачаліся ў 1980 г.) і з'яўленнем першых публікацый гэтых раскопак. Аднак самыя першыя археалагічныя даследаванні былі праведзены на замку яшчэ ў 1912 г. Ю. Ядкоўскім. Даследчык зрабіў падрабязнае гістарычна-архітэктурнае апісанне і замалёўкі замкавага комплексу, а заадно правёў невялікія раскопкі на яго тэрыторыі. На падставе знаходак Ю. Ядкоўскі

[4] Сыракомля У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах: Успаміны, даследаванні гісторыі і звычаяў. Мн., 1992. С. 27.

[5] Там жа.

[6] Bartaszewicz Y. Zamek Bialski. Lwów, 1881. S. 44.

[7] Митянин А. Я. Замок в Мире. Автореф. дис. ... канд. архитектуры. Мн., 1954. С. 13.

[8] Калнин В. В. Мирский замок; Калнін В., Трэпет Л. Мірскі замак // ПГКБ. 1975. № 1. С. 26—32.

[9] Rewieńska W. Miasta i miasteczka w północno-wschodniej Polsce. Wilno, 1938. S. 43.

[10] Бубноўскі Д. С. Гісторыя горадабудаўнічага развіцця г. п. Мір // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Мн., 1989. С. 136—141.

выказаў некаторыя меркаванні, якія ў асноўным пацвердзіліся ў наш час пасля буйнамаштабных раскопак. Так, ён знайшоў фрагменты каляровага шкла таўшчынёй да 5 мм і датаваў іх 16 ст. У 17 ст., піша даследчык, звычай рабіць вітражныя вокны змяніўся «новым шклeннем вокнаў»[11]. Печы, на яго думку, напачатку былі вельмі цікавымі, кафлянымі «з каляровай глазурай» (паліхромныя) — з малюнкам. У 17 ці пачатку 18 ст. старыя печы пасля шведскіх нашэсцяў разабралі і склалі новыя з зялёных кафлін. Толькі два каміны зрабілі з «залачонымі кафлінамі». Яшчэ Ю. Ядкоўскі піша, што раней увесь замак быў пакрыты лусковай дахоўкай[12]. У артыкуле разам з вынікамі натурных даследаванняў і раскопак вучоны апублікаваў інвентар Мірскага замка 1681 г.

Праз 60 гадоў у 1972 г. археалагічныя даследаванні на Мірскім замку праводзіў М. А. Ткачоў. Ён раскрыў рэшткі перадбрамнага ўмацавання, якое яшчэ ў 19 ст. захоўвалася на паверхні зямлі[13] і вядома праз апісанні і малюнкі. У сваіх працах М. А. Ткачоў прыводзіць кароткі нарыс гісторыі замка і яго ўмацаванняў[14]. Гэты нарыс ілюструюць малюнкі замка, выкананыя ў 19 ст., фотаздымкі пачатку і другой паловы 20 ст., рэканструкцыя знешняга выгляду замка ў 17 ст. Другое выданне працы «Замкі Беларусі» (1987 г., на рускай мове) дапоўнена інфармацыяй аб гісторыі ўмацаванняў самога пасёлка. У кнізе «Замкі і людзі» прыводзіцца план-схема ўмацаванняў пасёлка. Выклікае пярэчанне размяшчэнне на ёй пятага бастыёна непадалёк ад Нясвіжскай брамы. Ніякіх звестак аб наяўнасці тут бастыёна навукоўцы не маюць.

У 1975—1979 гг. архітэктарам В. В. Калніным распачаліся сістэматычныя працы па абследаванні замкавых муроў і пабудоў. У межах даследавання ў праездзе пад аркаю ўязной вежы, а таксама ў двары ўздоўж заходняй сцяны замка былі закладзены 7 інжынерных шурфоў. Магутнасць выяўленага ў іх культурнага слою складала 1,6—2 м. Пад аркаю на глыбіні 0,35 м, а ўздоўж заходняй сцяны — на глыбіні 1 і 1,2 м выяўлены рэшткі брукова́к. Атрыманыя археалагічныя матэрыялы (бытавы посуд, будаўнічыя матэрыялы, кафля, манеты) адносяцца пераважна да пачатку 16—17 ст., хоць самыя позні́я рэчы датуюцца пачаткам 20 ст.

З 1980 г. пачаліся грунтоўныя археалагічныя раскопкі на тэрыторыі замка (мал. 2), якія з перапынкам (1985—1987 гг.) працягваліся да 1991 г. Адначасова ў 1982—1984 і 1988—1989 гг. архітэктурна-археалагічнымі экспедыцыямі пад кіраўніцтвам А. К. Краўцэвіча вывучаліся культурныя напластаванні ў пасёлку. У 1987 г. даследаванні Мірскага Мікалаеўскага касцёла 17 ст. правёў А. М. Кушнярэвіч.

Археалагічныя раскопкі ў замку мелі на мэце максімальна магчымае даследаванне культурнага слою, які мог быць знішчаны пад час рэстаўрацыйных прац, а таксама вывучэнне ўсіх страчаных пры перабудове і варожых навалах архітэктурных збудаванняў замка; класіфікацыю і датаванне будаўнічай, архітэктурна-дэкаратыўнай керамікі, побытавых рэчаў усіх катэгорый — зыходных даных для рэканструкцыі старажытных інтэр'ераў палаца, канструкцыі дахаў вежаў і сцен.

Працы ў пасёлку (мал. 1) праводзіліся галоўным чынам з чыста на-

---

[11] Иодковский И. Замок в Мире // Древности. М., 1915. С. LIV—LXXII.

[12] Там жа. С. LXX.

[13] Ткачев М. А. Исследования в Гродненской и Витебской областях // АО 1972 года. М., 1973. С. 369.

[14] Ткачоў М. А. Замкі Беларусі. Мн., 1977; Ён жа. Замки Белоруссии. М., 1987; Ён жа. Замкі і людзі. Мн., 1991.

вуковымі мэтамі. Мір з'яўляецца прадстаўніком беларускага сярэднявечнага паселішча местачковага тыпу, дакладней, гэта мястэчка, якое вырасла ў невялікі горад. Такія аб'екты раней археолагамі не вывучаліся. Таму актуальным быў цэлы комплекс праблем: характар культурнага слою, межы яго распаўсюджання, глыбіня залягання, характар археалагічнага матэрыялу, тапаграфічнае развіццё (месцазнаходжанне старажытнага ядра паселішча, засяленне асобных раёнаў і г. д.). Да гэтага дадаліся археалагічныя раскопкі, звязаныя з рэстаўрацыяй Мікалаеўскага касцёла 17 ст.

Спачатку, летам 1980 г., на тэрыторыі замкавага двара і вакол Мірскага замка было распрацавана 5 раскопаў і 6 шурфоў (агульная іх плошча каля 330 кв. м).

Раскопам 1, закладзеным у прамежку заходняга вала бастыёна, на мацерыку выяўлена брукоўка. Слядоў мяркуемай уязной брамы пасярод земляных валоў не выяўлена. Знаходкі ў раскопе розныя — ад 16 да пачатку 20 ст.

Раскопам 2, што распрацоўваўся ўпрытык да выяўленага М. А. Ткачовым падковападобнага перадбрам'я з мэтай яго далейшага вывучэння, выяўлены культурны слой магутнасцю да 2 м. Разнастайныя і шматлікія археалагічныя знаходкі (кераміка, шкло, металічныя вырабы) адносяцца да перыяду ад пачатку 16 ст. і больш позніх часоў. Найбольш цікавыя з іх — 6 фрагментаў рэйнскай керамікі з манаграмай 16 ст. Тут, як і ў раскопе 1, на глыбіні 0,15—0,2 м выяўлены рэшткі брукоўкі.

Раскопам 3, што размяшчаўся каля вонкавага боку паўночнай сцяны замка, удакладнены ўзроўні залягання верху і падэшвы яе падмурка (адпаведна 2,7 і каля 4 м ад дзённай паверхні). Ля падмурка выяўлены нівеліровачны слой суглінку (1,2—1,6 м). У раскопе даследаваны рэшткі цаглянага слупа 17 ст. на бутавым падмурку. Гэта была адна з апор мастка, які вёў з палаца ў парк. Аналіз знаходак 16—17 стст. паказаў значную колькасную перавагу сярод іх фрагментаў кафлі.

Раскоп 4 плошчаю каля 48 кв. м, закладзены з мэтай даследавання рэшткаў аднапавярховай пабудовы каля паўднёвай сцяны замка, паказаў амаль поўную адсутнасць культурнага слою раней 18 ст. (быў зняты пад час будаўнічых прац пачатку 20 ст.).

Раскопам 5 (32 кв. м) у паўднёва-заходняй частцы замкавага двара вывучаўся культурны слой і элементы добраўпарадкавання двара. Тут, як і ў раскопе 3, быў выяўлены нівеліровачны слой суглінку (ён пачынаўся пад каменнай вымасткай у пласце 1 іназіраўся да ўзроўню пласта 4).

Пад суглінкам прасочаны культурны слой дазамкавага паселішча з керамікай другой паловы 15 — пачатку 16 ст. і з рэшткамі печы з гаршковай кафлі гэтага часу.

Адначасова было вырашана закласці 6 разведачных шурфоў на бастыёнах і тэрыторыі каля замка.

Шурф 1, на перамычцы ля возера з захаду ад яго, меў на мэце пошукі месца старажытнага млына. Культурны пласт з матэрыяламі 18 — пачатку 20 ст. быў насыпаны, перанесены сюды з іншых частак замкавай тэрыторыі.

Для даследавання часу ўзвядзення заходняга вала на яго схіле і ля падэшвы распрацоўваліся шурфы 2 і 5. У культурным слоі да 1,1 м знойдзены матэрыялы 16—17 стст. Высветлілася, што з гэтага боку вал быў насыпаны ў 17 ст. з культурнага слою, перанесенага сюды ад сцяны замка.

Мяркуючы па матэрыялах з шурфа 4, усходні бастыён быў утвораны аналагічным чынам недзе ў першай палове 17 ст.

Шурф 3 месціўся на ўсход ад замка, паблізу яго ўсходняй сцяны. Ён паказаў амаль поўную адсутнасць культурнага слою 16 — першай паловы 17 ст. на гэтай тэрыторыі, тым самым вызначыў месца, з якога бралі зямлю для ўзвядзення бастыёнаў.

Шурфом 6 даследаваліся падмуркі паўночна-заходняй вежы замка і культурны слой каля яго. У культурным слоі магутнасцю да 1 м знаходзіліся рэчы не раней 19 ст. (пераважна будаўнічае смецце).

У 1981 г. А. А. Трусавым і І. М. Чарняўскім працягваліся даследаванні падмуркаў замкавых вежаў і палаца 17 ст., пабудоў 17 ст. у двары каля паўднёвай замкавай сцяны і культурных напластаванняў вакол замка.

Раскоп 6 каля паўночнай сцяны замка прымыкаў да раскопу 3. У слоі магутнасцю ад 0,6 да 0,9 м выбіраліся пераважна знаходкі, звязаныя з перабудовай палаца ў 17 ст. і частковага разбурэння пры гэтым сцяны 16 ст. (кавалкі цэглы, дахоўкі, плітак падлогі). Разам з тым у квадратах 4—6 выявілася вялікая колькасць кафлі і посуду канца 19 — пачатку 20 ст. і рэшткі ямы 20 ст. у квадраце 9.

Раскоп 7 каля ўсходняй сцяны ўсходняга корпуса плошчаю 24 кв. м пацвердзіў выснову аб нівеліроўцы культурнага слою раней канца 19—20 ст. з усходу ад замка.

Такія ж вынікі далі і матэрыялы з раскопу 8, разбітага каля паўднёвай замкавай сцяны. Толькі ў квадратах 4—9 выяўлены рэшткі цаглянай вежачкі 17 ст. для захавання сена. Сведчаннем апошняга рамонту замка з'яўляюцца выяўленыя рэшткі каналізацыйных труб 20-х гадоў 20 ст.

Шурфамі 7 і 8 І. М. Чарняўскі даследаваў стан і глыбіню залягання падмурка паўночна-ўсходняй замкавай вежы і ўсходняга корпуса палаца. Падэшва вежавага падмурка залягае на глыбіні 203 см ад дзённай паверхні. З узроўню 9-га пласта назіраўся нівеліровачны слой гліны магутнасцю 0,6—1 м.

Замкавы двор да канца 19 ст. старанна прыбіраўся, пра што сведчыць амаль поўная адсутнасць знаходак раней гэтага часу ў шурфе 8.

У шурфе 9, што знаходзіўся на пляцоўцы на поўнач ад замка ў слоі магутнасцю ўсяго 20—40 см, выяўлена значная колькасць посуду, кафлі і будаўнічых матэрыялаў канца 16 — пачатку 17 ст. (сляды рамонту палаца).

На заходняй тарцовай сцяне паўночнага корпуса І. М. Чарняўскім і Д. С. Бубноўскім даследаваўся ўчастак баявой галерэі 16 ст. і быў выяўлены праход з галерэі ў вежу, закладзены пры будаўніцтве палаца ў 17 ст.

Мэтай даследаванняў 1982 г. былі распрацоўка культурнага слою ў месцы правядзення рэстаўрацыйных работ, вывучэнне першапачатковых бруковак на замкавым двары і рэштак замкавай кухні. Агульная плошча 7 раскопаў (іх нумары 9—15) і 10 шурфоў (нумары 10—19) склала 227 кв. м.

У рабоце экспедыцыі ўдзельнічалі А. А. Трусаў (агульнае кіраўніцтва і вядзенне дзённіка па раскопе 14), І. М. Чарняўскі (вядзенне дзённіка і кіраўніцтва ўсімі астатнімі працамі). На замкавым двары, на месцы былой кухні, апошнімі былі закладзены раскопы 9—11 і 13. Ва ўсіх раскопах пад смеццем 18 і 19 стст. была адкрыта брукоўка. У раскопе 9 пад

суглінкам выявіўся слой пахаванай глебы, а на глыбіні 2 м — яшчэ адзін такі ж слой ад часоў першапачатковага паселішча.

У раскопе 10 знойдзены рэшткі сцен на невялікім бутавым падмурку, а таксама фрагмент падлогі на вапнавай рошчыне.

У раскопе 11 пад слоем смецця расчысцілі рэшткі падмурка з вялікіх камянёў і брукоўку ў квадраце 3. У квадратах 4 і 5 выбіраўся перамешаны слой 17 ст.

Паўночная сцяна кухні расчышчана ў раскопе 13 (закладзены паміж раскопамі 10 і 11). На частцы тэрыторыі раскопу ў брукоўцы знайшлі сцёкавы жолаб. Да глыбіні 0,8 м у слоі пераважалі рэчы другой паловы 17 — пачатку 18 ст., а ніжэй да ўзроўню 1,6—1,8 м — пачатку — першай паловы 17 ст. Самыя раннія знаходкі датуюцца 16 ст.

Для далейшага даследавання адкрытай сцяны кухні паміж раскопамі 11 і 13 выбіралі перамычкі. Сценка ў гэтым месцы моцна пашкоджаная. Працяг жолаба выяўлены ў брукоўцы.

На поўнач ад кухні распрацоўваўся раскоп 12. Ён часткова ўключыў у сябе раскоп 5 і меў аналагічную стратыграфію (тут выяўлена брукоўка, нівеліровачны слой гліны і слой першапачатковага паселішча з нешматлікімі знаходкамі пачатку 16 ст. пад ім).

Каля паўднёвага вадасцёка ўпрытык да заходняй сцяны і надбрамнай вежы быў закладзены раскоп 15. Тут таксама прасочаны фрагмент брукоўкі з камянёў, а ў нішы сцяны — цагляны жалабок. Знаходак у раскопе не было.

На поўнач ад замка А. А. Трусавым распрацоўваўся раскоп 14 плошчаю 40 кв. м. У ім выяўлены культурны пласт магутнасцю 60—80 см, моцна насычаны знаходкамі пераважна канца 16 — першай паловы 17 ст. Сярод найбольш важных — паліхромная (карычневая на жоўтым) кафля з выяваю геральдычнага радзівілаўскага арла, паліхромныя талеркі ці кавалкі талерак з роспісам па эмалі, кавалак галандскай люлькі і геральдычная кафля-медальён. У пласце 3 знайшлі фрагмент алавянай талеркі з гербам Радзівілаў на борціку і паліхромную кафлю-каронку з датай 1583 г. У перадмацерыковым пласце 4 акрамя кавалкаў пляскатай гатычнай дахоўкі знайшлі двухзубы відэлец. У квадраце 6 выявілі рэшткі бутавай муроўкі на вапнавай рошчыне.

Пасярод двара распрацоўваліся шурфы 12 і 13. Выяўлены фрагменты брукоўкі. У шурфе 12 яна пакладзена на мацярык, а ў шурфе 13 прасочаны тонкі культурны слой з рэчамі канца 15—17 ст.

Тры шурфы месціліся ўздоўж сцен замка і палацаў. Шурф 16 (у 2 метрах ад заходняга фасада ўсходняга корпуса) не даў ніякіх знаходак, акрамя бітай цэглы і вапны (магчыма, тут была пляцоўка па вырабе цэглы пад час рамонту палаца).

У шурфе 18, што знаходзіўся каля паўночнага корпуса, акрамя выяўленых пад гумусам вялікіх камянёў на вапне з пяском нічога не было.

У шурфе 19, размешчаным упрытык да заходняй сцяны, знайшлі рэчы розных часоў, аднак большасць з іх прыпадае на 16 ст.

Шурфы 10 і 17, закладзеныя звонку ўздоўж усходняй сцяны палаца і паўднёва-ўсходняй вежы, яшчэ раз пацвердзілі, што культурны слой на гэтай частцы замкавай тэрыторыі змяшчае ў сабе будаўнічы матэрыял 16—17 стст. і кафлю канца 19 — пачатку 20 ст.

Тры шурфы (11, 14 і 15) распрацоўваліся побач з заходнім валам. Нешматлікія знаходкі рубяжа 16—17 стст. адклаліся тут пад час падсыпкі валоў.

У 1982 г. пад кіраўніцтвам А. К. Краўцэвіча пачалося археалагічнае

даследаванне пасёлка. Усяго на цэнтральнай плошчы і ў яе наваколлі было закладзена 12 шурфоў з мэтай разведкі культурнага слою і пошукаў рэшткаў Мірскай ратушы. На плошчы ў шурфе 1 выяўлены слой 17—20 стст. Каля паўднёвага ўскрайку плошчы (шурф 6) раскапаны рэшткі мураванага будынка 17 ст., які мог быць ратушай. Самы старажытны культурны слой (15 ст.) выяўлены ў шурфе 7 за будынкам пасялковага Савета. У гэтым шурфе на глыбіні 1,45 м знойдзены скарб — медныя соліды 60-х гадоў 17 ст.

У 1983 г. праведзена буйное даследаванне культурнага слою за паўночнай і часткова за паўднёвай сценамі замка. Акрамя таго, было працягнута вывучэнне бастыёнаў і прылеглай да іх тэрыторыі. Заклалі 23 раскопы (16—38) і 8 шурфоў агульнай плошчай 2160 кв. м. Для гэтага была сфарміравана вялікая экспедыцыя ў складзе А. А. Трусава (кіраўнік), І. М. Чарняўскага, А. М. Кушнярэвіча, А. К. Краўцэвіча, Н. І. Здановіч, А. Б. Ляшкевіч, Г. М. Сагановіча, а таксама групы тэхнікаў.

Раскопы 16—18 месціліся ўздоўж паўднёвай сцяны і паўднёва-заходняй вежы. У раскопе 16 выяўлена частка паўднёвай сцяны ад стайні шырынёй 1, 2 м, якая прымыкала да паўднёва-заходняга кута вежы, і рэшткі іншых муровак. Знаходкі датуюцца 16—18 стст., магутнасць культурнага слою да 1 м. Матэрыялы з раскопу 17 (мал. 5), які меў глыбіню да 1,4 м, адносіліся да 16—19 стст. У пласце 4 знойдзена манета 1777 г. Станіслава Аўгуста.

У раскопе 18, што ахопліваў паўднёва-заходнюю вежу, знойдзены рэшткі брукоўкі з каменю і выяўлены след ад стайні, якая знаходзілася на поўдзень ад замка. Магутнасць культурнага слою ў раскопе да 1,2 м, рэчы, знойдзеныя тут, датуюцца як 16, так і 17—19 стст.

У раскопе 19 з захаду ад паўднёва-заходняй вежы выяўлены ўчастак цаглянай муроўкі, расчышчаныя рэшткі цаглянай падлогі 17 ст. У квадраце 4 знойдзена срэбная манета 17 ст. Магутнасць слою да 1 м.

У раскопе 20, які прылягаў да заходняй абарончай сцяны замка, раскапана частка цаглянай муроўкі (мал. 6, 7). Самыя раннія знаходкі адносяцца да 16 ст. (з квадрата 13), самыя познія — да 19 ст. Магутнасць слою 1—1,4 м.

Раскопы 21—24 распрацоўваліся ўздоўж заходняй абарончай сцяны ад надбрамнай вежы і да паўночна-заходняй.

У раскопе 21 у пласце 1 амаль на ўсёй плошчы раскрыты брукоўка і рэшткі цаглянай муроўкі. У квадраце 5 расчышчаны фрагмент падлогі з плітак памерам 15×15×4 см, а ў пласце 2 прасочаны жолаб шырынёй 0,8 і глыбінёй 0,3 м з цэглы 16—17 стст. Знаходкі пераважна 17 ст., але ёсць і 19 ст. Культурны слой ад 80 да 120 см.

У раскопе 23 брукоўка 17—18 стст. месцілася адразу пад слоем смецця таўшчынёй 40—60 см.

У раскопах 22 і 24 выбіралі перамешаны слой, насычаны знаходкамі 16 — пачатку 20 ст. У пласце 3 (квадрат 19) раскопу 24 знайшлі манету 17 ст.

Раскоп 25 ахоплівае паўночную і ўсходнюю сцены вежы і частку паўночнай сцяны замка. Культурны слой, вельмі нераўнамерны па таўшчыні (ад 20 да 120 см) і насычанасці знаходкамі, уяўляе сабой будаўнічы развал 16—17 стст. і 19 — пачатку 20 ст. Асабліва шмат знаходак сабрана ў цэнтры раскопу.

У частцы квадратаў слой перамешаны да самага мацерыка. Найбольш цікавымі былі квадраты 5, 14—16, 20—23.

З усходу да раскопу 25 прымыкае раскоп 31. Культурны слой у ім

уяўляе сабой суцэльны развал будаўнічых матэрыялаў 16 — пачатку 20 ст. Асабліва шмат кавалкаў кафлі, крыху менш посуду, максімальная колькасць знаходак прыпадае на пласт 3. Самы цікавы і насычаны знаходкамі квадрат 5. На ўзроўні пласта 5 у квадратах 26 і 27 выяўлена сметніца канца 16 — пачатку 17 ст., літаральна «забітая» посудам і кафляй. Некалі яна ў верхняй частцы была абшыта дошкамі, а ніжэй абкладзена камянямі. Яна выбіралася да глыбіні 2,6 м (магутнасць слою на астатняй плошчы раскопу 0,6—0,8 м).

Будаўнічы развал 16—17 стст. працягваецца і ў суседнім, 33-м раскопе. Інтэнсіўнасць слою тут узрастае па меры набліжэння да замкавых сцен (ад 0,4 да 1 м). У квадратах 62 і 62А знайшлі падмуркі слупоў, зробленых з цэглы першай паловы 17 ст.

Слой будаўнічага развалу 16 і 17 стст. з фрагментамі тэракотавай, паліванай і паліхромнай кафлі, пляскатай дахоўкі, керамічнага і шкляннога посуду выбіраўся і ў раскопе 30, закладзеным каля паўночна-ўсходняй вежы замка. З захаду ён далучаецца да раскопу 3. Як і ў раскопе 33, павелічэнне інтэнсіўнасці развалу назіралася бліжэй да сцен. У пласце 1 была знойдзена медная манета 1660 г.

Некалькі раскопаў (34, 37) распрацоўваліся ля падэшвы і на грэбені паўночнай курціны бастыёна з мэтаю пошуку слядоў апорных слупоў моста, які вёў некалі ў італьянскі сад.

У раскопе 34 у квадратах 4 і 6 знайшлі рэшткі падмуркаў слупоў. У раскопе 37 прасочаны толькі інтэнсіўны след цаглянага развалу, саміх слупоў не выяўлена.

Мэтаю закладкі раскопу 38 было даследаванне бастыённага рова. Высветлілася, што ён засыпаны зусім нядаўна.

На рагу, у месцы злучэння ўсходняга і паўночнага бастыёнаў, распрацоўваўся раскоп 29 для даследавання структуры бастыёна. У раскопе выяўлены знаходкі 16—17 стст. і пачатку 15 ст. (бліжэй да падэшвы бастыёна). Раскоп распрацоўваўся да глыбіні 3,2 м.

Для вывучэння культурнага слою, а таксама для пошукаў слядоў уязной брамы ў разрыве заходніх валоў былі закладзены раскопы 35 і 36 на некаторай адлегласці адзін ад аднаго. Высветлілася, што культурны слой у гэтай частцы амаль адсутнічае, знаходак вельмі мала. Слядоў брамы не выяўлена. Адкрыты толькі яшчэ адзін фрагмент каменнай брукоўкі.

Такі ж малюнак назіраўся і пад час прац у раскопе 32, закладзеным каля паўднёва-ўсходняй вежы, што ў чарговы раз пацвердзіла выснову аб зніверліраваным культурным слоі ў гэтай частцы замкавай тэрыторыі.

У гэтым жа годзе працягвалася вывучэнне архітэктурных збудаванняў і культурнага слою ў двары (кіраўнік І. М. Чарняўскі).

Раскоп 26 размясціўся ўздоўж паўднёвага фасада паўночнага корпуса палаца. У ім выяўлены сляды брукоўкі двара, расчышчаны рэшткі двух палацавых ганкаў — вялікага і малога.

Раскопамі 27 і 28 працягвалася вывучэнне рэшткаў замкавай кухні. Калі ў 27-м выяўлены толькі падмурак з вялікіх камянёў і кавалак брукоўкі, то ў раскопе 28 знайшлі рэшткі паўднёвай яе сцяны. Падмурак кухні пакладзены з камянёў на рошчыне, падлога была зроблена з цэглы. Частка тэрыторыі паміж заходняй сцяною кухні і заходняй абарончай сцяною забрукавана. Кухня была пабудавана ці адначасова з палацам, ці адразу пасля яго.

Даследаванні земляных умацаванняў тэрыторыі замка праводзіліся і з дапамогай шурфоў.

Шурф 20 распрацоўваўся недалёка ад раскопу 29, каля падэшвы паўночнай курціны з мэтаю пошуку пачатку замкавага рова. Знайшлі толькі некалькі непаліваных сценак керамічнага посуду і кавалкі кафлі 17 ст.

Шурф 21 капаўся на поўнач ад замка, каб адшукаць сляды апорных слупоў моста. Выяўлены слуп меў падмурак каля 1 м глыбінёй і складаўся з цэглы памерам 26,5—27(29)×13,5×6—6,5 см.

Шурфы 22 і 25 былі закладзены са знешняга боку заходняй курціны замка. Культурнага слою ў іх не выяўлена. Высветлена, што за межамі бастыёна дарога ў замак не брукавалася.

У шурфах 26 і 27, што месціліся на схіле і наверсе ўсходняй курціны, амаль пасярэдзіне яе, культурны слой складаўся з рэшткаў будаўнічага смецця ў асноўным 16—17 стст., але траляліся матэрыялы 19 ст. Гэта быў перамешчаны сюды культурны слой з-пад усходняй сцяны палаца.

На тэрыторыі пасёлка даследаваліся 12 шурфоў (13—24) і 2 раскопы ў месцах, вызначаных на падставе інфармацыі з раскопак 1982 г.

Раскоп 1 уключыў у сябе шурф 7 1982 г. У раскопе выяўлены насычаны знаходкамі культурны слой 15 — пачатку 20 ст. таўшчынёй каля 2 м. У ніжнім пласце знойдзены фрагменты венцаў непаліваных гаршкоў канца 14 — пачатку 15 ст. Гэта самыя старажытныя знаходкі з тэрыторыі пасёлка, і такім чынам выяўлена яго старажытнае гістарычнае ядро.

На адлегласці 1,8 м ад месца знаходжання скарба медных солідаў выяўлены другі, з білонавых манет. Магчыма, гэта дзве часткі аднаго скарба.

Раскопам 2 даследаваліся рэшткі керамічнага горна другой паловы 17 ст., выяўленага папярэдне шурфом 18.

Шурфом 13 было прадоўжана вывучэнне падмуркаў будынка 17 ст. каля паўднёвага ўскрайку плошчы (шурф 6).

Шурфамі 14—17, 19—24 здабыта каштоўная інфармацыя па тапаграфіі паселішча і аб культурным слоі ў розных частках пасёлка Мір.

У 1984 г. даследавалася тэрыторыя на захад ад замка, раскопы гэтага года ўшчыльную прылягаюць да раскопаў 1983 г.

Усяго было распрацавана 9 раскопаў (39—47), траншэя 1 і 14 шурфоў (28—41). Агульная плошча даследаванняў 1984 г. склала 1316 кв. м.

Таксама, як і ў 1983 г., працавала вялікая экспедыцыя, у склад якой акрамя аўтараў увайшлі І. М. Чарняўскі, А. М. Кушнярэвіч, І. У. Ганецкая, А. Б. Сташкевіч, Г. М. Сагановіч, В. У. Сямашка, вялікая група тэхнікаў і студэнтаў.

Раскоп 39 прымыкае з захаду да раскопу 24, а з поўдня да раскопу 22. Плошча яго 352 кв. м, не лічачы прырэзкі ў 8 квадратаў да паўднёва-ўсходняй часткі раскопу. Культурны слой у ім складаў 0,6—0,8 м, ён быў моцна насычаны разнастайнымі археалагічнымі знаходкамі 16 — пачатку 20 ст. (кафля, посуд, будаўнічы матэрыял і металічныя вырабы).

Раскоп 40 злучаўся з усходу з раскопам 21 і меў плошчу 84 кв. м. Магутнасць слою тут вагалася ад 1 да 1,8 м. Знаходак таксама вельмі шмат, як і ў раскопе 39. Адносяцца яны да канца 15 — пачатку 20 ст.

Раскоп 41 закладзены ўпрытык да раскопу 22. Магутнасць слою да 2 м. Склад знаходак той жа, што і ў папярэдніх раскопах.

Раскоп 42 з'яўляецца як бы працягам раскопу 41. Да ўзроўню 5-га пласта пераважаюць матэрыялы 18—20 стст. Ніжэй трапляюцца матэрыялы 16—17 і 15 стст.

Раскоп 43 з паўднёвага боку прымыкае да папярэдняга. Выбіраўся культурны слой са знаходкамі пераважна 16—17 стст. (бытавы посуд, кафля, шкло, вырабы з металу, шмат будаўнічага матэрыялу).

Раскоп 44 знаходзіўся з унутранага боку каля заходняга бастыёна ў разрыве валоў. У 1-м пласце пераважалі матэрыялы 18—20 стст., ніжэй — 17—18 стст. На большай плошчы раскопу выяўлена каменная брукоўка з няроўнай паверхняй. Максімальная магутнасць слою ў раскопе 0,6 м.

Раскоп 45 распрацоўваўся са знешняга боку паўночна-заходняга кута курціны з мэтаю даследавання вала і рова. Частка квадратаў увогуле не ўтрымлівала знаходак. Толькі ў квадратах бліжэй да вала і на самім вале знойдзены матэрыялы 16—17 стст.

Раскоп 46 месціўся на захад ад раскопу 39, часткова прымыкаў да яго. Мэта раскопак — далейшае даследаванне культурнага слою. Тры пласты на плошчы 160 кв. м былі насычаны знаходкамі 16—18 стст. Слядоў архітэктурных збудаванняў ці бруковак не выяўлена.

Траншэяй 1, што на захад ад надбрамнай вежы, на некаторай адлегласці ад раскопаў 40 і 41, меркавалася прасачыць межы брукоўкі, што вяла да замка. Аднак брукоўка тут не выяўлена. У трох пластах культурнага слою знойдзены рэчы 18—19 стст.

У двары для далейшага вывучэння рэшткаў кухні быў закладзены раскоп 47 (прырэзаны да раскопу 27). Выяўлены падмурак сцяны шырынёю 1,7 м, магчыма, ад першапачатковай пабудовы на замкавым двары, а таксама штабель нарыхтаванай цэглы другой паловы 17 ст. Культурны слой магутнасцю да 1 м змяшчаў фрагменты 16—19 стст.

Акрамя раскопаў быў распрацаваны шэраг шурфоў, пераважна для даследавання бастыёнаў і прылеглай да іх тэрыторыі.

Шурфы 28—34 знаходзіліся на ўсходняй курціне ў розных яе месцах. Асабліва шмат знаходак выяўлена ў шурфах 29—31 на заходнім схіле.

У шурфе 28, даследаваным на глыбіню 2,4 м, знойдзены рэчы 16—19 стст. У шурфах 32 і 33 знаходак амаль не было.

У шурфе 34, таксама на заходнім схіле ўсходняй курціны, у культурным слоі магутнасцю 2,8 м сабраны матэрыялы 16 ст.

У шурфе 35, закладзеным з паўднёвага боку паўночнага бастыёна, былі выяўлены знаходкі канца 15 і 16—17 стст.

На заходнім бастыёне з двух бакоў распрацоўваліся шурфы 36 і 37. На заходнім схіле знаходак увогуле не выяўлена, а на ўсходнім ёсць будаўнічае смецце і знаходкі 16—17 стст.

Шурфамі 39—41 вызначаліся межы забрукаванай часткі калязамкавай тэрыторыі побач з заходнім бастыёнам. Ні ў адным з шурфоў яна не выяўлена. Знаходак амаль няма, за выключэннем некалькіх кавалкаў кафлі 17 ст. у шурфе 41.

Шурф 38 закладзены ўнутры паўночнага корпуса палаца з мэтаю даследавання яго падмуркаў. Культурны слой там не выяўлены.

На тэрыторыі пасёлка ў 1984 г. распрацоўваўся раскоп 3, прырэзаны да раскопу 2. У раскопе ўскрыта частка жылога дома другой паловы 17 ст. з рэшткамі кафлянай печкі, якая захавалася на вышыню 1,1 м. Гэта пакуль адзіная на Беларусі знаходка кафлянай печы 17 ст. такой захаванасці.

З агульнага шэрагу сярэднявечных знаходак выпадае венца керамічнага начыння бронзавага веку.

Даследаванні каля Мікалаеўскага касцёла ў 1987 г. правёў А. М. Кушнярэвіч. Задачай іх быў збор інфармацыі для складання праекта рэстаўрацыі помніка. Археалагічная калекцыя з гэтых раскопак адметная вялікай колькасцю шкляных начынняў, у тым ліку цэлых формаў 16—17 стст.

У 1988 г. на тэрыторыі мястэчка А. К. Краўцэвічам распрацоўваліся 4 траншэі і 8 шурфоў.

Траншэя 1 прарэзала частку вала і рова 16—17 стст. Быў даследаваны характар насыпу, пацверджана адсутнасць на вале мураванай сцяны.

Траншэя 2 мела на мэце пошук рэшткаў Менскай брамы і выніку не прынесла. Брама знойдзена і даследавана ў іншым месцы з дапамогай траншэі 4.

Траншэяй 3 вывучаліся рэшткі Віленскай брамы.

У 1989 г. працягваліся даследаванні замка з мэтай збору археалагічных знаходак шляхам распрацоўкі культурнага слою на ўсход ад замка. Былі закладзены 2 раскопы, 4 шурфы і траншэя (агульная плошча 270 кв. м).

У працы экспедыцыі прымалі ўдзел А. А. Трусаў (кіраўнік), А. І. Дзярновіч (вядзенне дзённіка), А. М. Ліпніцкая (першапачатковая апрацоўка матэрыялаў).

У камеральнай апрацоўцы знаходак удзельнічалі М. У. Угрыновіч (вывучэнне кафлі і посуду), А. Б. Сташкевіч (даследаванне калекцыі шкла), І. І. Сінчук (вызначэнне знойдзеных манет).

Раскоп 48 каля ўсходняй замкавай сцяны меў плошчу 136 кв. м. Магутнасць слою складала прыкладна два пласты. Найбольш цікавая знаходка — скарб медных манет 17—18 стст. Было знойдзена шмат кафлі пачатку 20 ст., крыху кафлі 16—17 стст., а таксама посуд 17—18 стст. У квадратах 21 і 26 выяўлены фрагменты паліхромнага керамічнага шчыта з гербам Радзівілаў і кавалкі кафлі-дахоўкі. Высветлілася, што большая частка культурнага слою ад усходняй замкавай сцяны ў 20-я гады 20 ст. перамешчана на схілы ўсходняй курціны бастыённай сістэмы.

Раскоп 49 распрацоўваўся на поўдзень ад раскопу 48, каля ўсходняй замкавай сцяны, бліжэй да возера. Мэтаю былі пошукі слядоў калектара пачатку 20 ст. Культурны слой магутнасцю каля 1 м уяўляў сабою будаўнічы друз 20—50-х гадоў 20 ст. Ад папярэдніх часоў у ім засталіся толькі асобныя знаходкі. У раскопе знайшлі рэшткі калодзежа калектара 20—30-х гадоў 20 ст.

Шурфы 42—44 месціліся на ўсходнім схіле ўсходняй курціны бастыёна для даследавання культурнага слою і збору археалагічных матэрыялаў. Мінімальная магутнасць культурнага слою 0,4 м (шурф 42), максімальная — 1,7 м (шурф 44). Пераважная частка матэрыялаў — посуд і кафля канца 16 — першай паловы 17 ст., а таксама дахоўка, кавалкі шклянога посуду гэтага ж часу. Металічныя вырабы знойдзены ў абмежаванай колькасці. Гэта найперш абутковая падкоўка і трохкутны замок 17 ст.

Адначасова выбіралася траншэя пад электракабель, якая перасякала ўсходнюю курціну з усходу на захад. Глыбіня трншэі 0,52—0,6 м, у слоі знойдзены кавалкі кафлі і посуду 16—17 стст., дахоўка 16 ст. таўшчынёй 2,5—2,6 см, а таксама кафля канца 18 ст.

У пасёлку прадоўжаны даследаванні наваколля Мікалаеўскага касцёла (кіраўнік А. К. Краўцэвіч). На гэты раз вывучаліся падмуркі плябані каля касцёла.

Вывучэнне ўсходняй курціны бастыёна працягвалася і ў 1990 г. Было закладзена 11 шурфоў агульнай плошчай 60 кв. м. Распрацоўка іх праводзілася не па пластах, а па праслойках будаўнічага друзу. Навуковае кіраўніцтва экспедыцыяй акрамя А. А. Трусава здзяйснялася А. М. Ліпніцкай (вядзенне дзённіка і апрацоўка матэрыялаў). Апрацоўку шкля-

ных вырабаў праводзіла А. Б. Сташкевіч, а манеты вызначаў І. І. Сінчук. Сярэдняя магутнасць выяўленага слою 1—1,2 м (шурфы 45в, 45д). Найбольш інтэнсіўны культурны слой назіраўся ў шурфе 45 г (2,6 м), даволі магутны ён і ў шурфе 48 (1,7 м). У шурфе 46а ў слоі будаўнічага смецця таўшчынёй ад 5 да 40 см знаходак не было.

Найбольш цікавымі і шматлікімі знаходкамі з'яўляюцца фрагменты тэракотавай, паліванай і асабліва паліхромнай кафлі канца 16 — пачатку 17 ст., а таксама паліваны посуд гэтага ж часу. Сустракаліся фрагменты кафлі і посуду другой паловы 18 ст. Найбольшая колькасць знаходак выяўлена ў шурфе 45.

Пад час раскопак 1990 г. мы змаглі выявіць структуру насыпнога вала ўсходняй курціны: яе шырыня склала 21 м, вышыня — ад 0,9 да 1,9 м.

У 1991 г. побач з вышэйапісанымі шурфамі былі закладзены яшчэ 3 шурфы (50, 50а, 51) агульнай плошчай 20 кв. м, што таксама далі шматлікія матэрыялы 16—17 стст.

Але галоўнай мэтаю даследаванняў 1991 г. было дэталёвае вывучэнне перадбрам'я. У рабоце экспедыцыі, што працавала пад кіраўніцтвам А. А. Трусава, удзельнічала Д. Ю. Марухіна (вядзенне дзённіка, апрацоўка матэрыялаў, напісанне тэксту справаздачы).

Раскоп 50 плошчаю 300 кв. м захопліваў усё перадбрам'е. Распрацоўка культурнага слою вялася па сектарах. Быў выяўлены слой першапачатковага паселішча са знаходкамі другой паловы 15 — пачатку 16 ст. Ён знаходзіцца на глыбіні 1,5—1,8 м ад сучаснай дзённай паверхні. Вышыня падмурка перадбрам'я, зробленага ў канцы 16 ст., ад цокаля да пяты падмурка — 2,03 м. Сцены пабудовы складзены з чырвонай цэглы, у сістэме муроўкі два тычкі — лажок. Выяўлены сляды магчымага пад'ёмнага моста, прыбудовы 17 ст. да заходняй замкавай сцяны. Сярод знаходак вельмі шмат кафлі, ёсць цэлы гаршчок канца 15 — пачатку 16 ст., гаршковая кафля з квадрыфольным вусцем.

Разнастайныя археалагічныя матэрыялы з раскопак, а таксама вынікі даследаванняў і абагульненні публікаваліся ў шматлікіх артыкулах і некалькіх манаграфіях.

Вынікі першага года даследаванняў у замку падсумаваў у спецыяльным артыкуле А. А. Трусаў [15]. Ход даследаванняў на замку і ў пасёлку асвятляўся ў штогадовых выпусках зборніка «Археологические открытия», выданне якога спынілася пасля 1986 г. (выходзіў у Маскве).

Даныя па вывучэнні будаўнічых матэрыялаў з раскопак на тэрыторыі Мірскага замка шырока выкарыстаны ў артыкулах А. А. Трусава аб беларускай дахоўцы, вялікапамернай цэгле і ў спецыяльных манаграфіях [16].

Некалькі артыкулаў розных аўтараў прысвечаны кафлі, шкляным вырабам і керамічнаму посуду з Мірскага замка [17]. Металічныя вырабы,

---

[15] Трусаў А. А. Археалагічнае даследаванне Мірскага замка // ПГКБ. 1980. № 4. С. 33—34.

[16] Трусов О. А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв. Мн., 1988; Ён жа. Старонкі мураванай кнігі. Мн., 1990; Ён жа. Беларуская чарапіца // ПГКБ. 1983. № 1. С. 30—32; Ён жа. Вялікапамерная цэгла // ПГКБ. 1984. № 1. С. 33—34.

[17] Трусаў А., Угрыновіч У. Паліхромная кафля Мірскага замка // Мастацтва Беларусі. 1983. № 3. С. 38—39; Яны ж. Беларуская паліхромная кафля // ПГКБ. 1983. № 4. С. 21—22; Трусаў А., Ляшкевіч А. Шкло Мірскага замка // ПГКБ. 1984. № 3. С. 42—43; Здановіч Н. І. Мірская бытавая кераміка // ПГКБ. 1983. № 3. С. 43—44; Яна ж. Гармонія пластыкі і дэкору // Мастацтва Беларусі. 1986. № 1. С. 57—60; Яна ж. Неполивная посуда Мирского замка // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. С. 145—149.

здабытыя з раскопаў у замку, публікаваліся ў спецыяльным артыкуле ў комплексе з лідскімі знаходкамі [18].

Буйны артыкул некалькіх навукоўцаў, а таксама шэраг раздзелаў манаграфіі А. К. Краўцэвіча прысвечаны агульным вынікам археалагічных даследаванняў замка і мястэчка [19]. Некалькі артыкулаў і адна манаграфія надрукаваны на грунце знаходак на тэрыторыі пасёлка [20]. Акрамя навуковых прац супрацоўнікі мірскай экспедыцыі публікавалі навукова-папулярныя артыкулы ў беларускіх газетах, часопісах, энцыклапедычных выданнях [21].

---

[18] Трусаў А. А., Краўцэвіч А. К., Сагановіч Г. М. Металічныя вырабы з раскопак Лідскага і Мірскага замкаў // Весці АН БССР: Сер. грамад. навук. 1987. № 4. С. 73—83.

[19] Трусов О. А., Чернявский И. М., Кравцевич А. К. Архитектурно-археологическое изучение Мирского замка и городского поселка Мир Гродненской области // СА. 1986. № 4. С. 216—235; Краўцэвіч А. К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння: Планіроўка, культурны слой. Мн., 1991; Чарняўскі І. М. Развіццё палацава-замкавых комплексаў Беларусі ў канцы XV—XVII ст. // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі. Мн., 1993. С. 66—73.

[20] Кравцевич А. К. Исследования в г. п. Мир Гродненской области // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. С. 141—144; Кравцевич А. К., Синчук И. И. Клады монет из городского поселка Мир Гродненской области (Белоруссия) // КСИА. Вып. 205. С. 117—126; Краўцэвіч А. К., Якшук Г. М. Стары Мір.

[21] Бубноўскі Д., Краўцэвіч А. Якім ты быў, старадаўні Мір? // Літ. і мастацтва. 1983. 22 ліп. С. 14; Бубновский Д., Трусов О., Кравцевич А. Мир // Неман. 1985. № 8. С. 141—146; Трусаў А., Краўцэвіч А. Мірскі замак // Звязда. 1984. 8 студз.; Трусаў А. А., Сташкевіч А. Б. Мірскае шкло // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Мн., 1986. Т. 3. С. 638—639; Трусаў А., Угрыновіч У. Мірская кафля // Там жа. С. 639—640; Здановіч Н. І., Сахута Я. М. Мірская кераміка // Там жа. С. 640; Ганецкая І. У., Трусаў А. А. Мірскі фаянс // Там жа. С. 642; Грыцкевіч А. П., Самбук С. Ф., Краўцэвіч А. К. Мір // Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гродзенская вобласць. Мн., 1986. С. 215; Міцянін А. Я., Самбук С. Ф., Трусаў А. А., Краўцэвіч А. К. Палацава-замкавы комплекс // Там жа. С. 216—218.

Выдатнейшым помнікам архітэктуры, вядомым не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі, з'яўляецца Мірскі замак. Ён быў закінуты пасля апошняй вайны і ніяк не выкарыстоўваўся, аднак ацалелі галоўныя аб'ёмы збудавання: сцены, вежы, перакрыцці некаторых паверхаў. Археалагічныя даследаванні акрамя каштоўных звестак па побытавай матэрыяльнай культуры дазволілі сабраць разнастайную інфармацыю архітэктурнага характару. Часта гэтая інфармацыя з'яўлялася унікальнай, бо не магла быць здабытай праз вывучэнне інвентароў і іншых пісьмовых крыніц, напрыклад месцазнаходжанне незахаваных прыбудоў, канструкцыя і стан падмуркаў, апораў мастка, які вёў ад паўночнага палаца да парку, і г. д.

Збудавалі Мірскі замак на месцы ранейшага паселішча, якое існавала тут у 15 ст. і загінула на пачатку 16 ст. у выніку вялікага пажару. Ад гэтага паселішча прасочана праслойка цёмна-шэрага колеру таўшчынёю 20—60 см, якая мае знаходкі (кераміку, гаршковую кафлю і кавалак шпоры) другой паловы 15 — пачатку 16 ст. М. А. Ткачоў лічыў, што гэта рэшткі «двора Мирского», які апошні раз згадваўся ў Метрыцы Вялікага княства Літоўскага каля 1506 г. Даследчык звязвае гібель мірскага паселішча з набегамі крымскіх татар, загоны якіх былі тут у 1503—1505 гг., або з іх вядомым рэйдам у 1506 г. пад Наваградак, Ліду, Слуцк і Менск [1].

Будаўніцтва Мірскага замка, як паказалі археалагічныя раскопкі, распачалося на глінянай падсыпцы. Такія падсыпкі з гліны, пяску ці гравію былі звычайнай з'явай у сярэдневечным замкавым дойлідстве Беларусі. Яны дазвалялі зрабіць узвышаныя пляцоўкі ў забалочаных, цяжкадаступных месцах.

У пачатку 16 ст. на месцы былога паселішча будаўнікі насыпалі з гліны і пяску пляцоўку вышынёю ад 20 см да 1 м і на ёй узвялі мураваны замак. Будаўнічы слой таўшчынёй 10—25 см залягае непасрэдна на падсыпцы і складаецца з акамянелай рошчыны, камянёў і гліны. У ім шмат бітай вялікапамернай цэглы (яе асноўны фармат 28—28,5×14,5×9—9,5 (да 10 см)) і тоўстай пляскатай дахоўкі пачатку 16 ст. На захад ад замка, недалёка ад галоўнай вежы-брамы, быў знойдзены развал печы, у якой абпальвалі цэглу, магчыма дахоўку.

Пад час раскопак былі даследаваны падмуркі замка каля паўночнай грані паўночна-ўсходняй вежы і побач з усходняй сцяной. Высветлілася, што падмурак вежы залягае на глыбіні 4,5 м, а сцяны — 3,5 м. У абодвух выпадках падмуркі складзены з цэглы-пальчаткі памерам 29—30×14,5×8,5—9,5 см і камянёў на вапнавай рошчыне. У тэхніцы змешанай муроўкі выведзены і замкавыя сцены на вышыню да 10 м (мал. 8 : *1*). Вышэй пачынаецца чыста гатычная муроўка (тычок-лажок) з цэглы чырвонага колеру. Адзначым, што муроўка сцен мае ўключэнне клінкернай цэглы, якая ў гатычных збудаваннях служыла для аздаблення фасадаў (мал. 8 : *2*). Але ў Мірскім замку клінкерны дэкор прысутнічае толькі на ўнутранай паверхні заходняй сцяны паміж надбрамнай і паўночна-заходняй вежамі. З цэглы тут выкладзены ромбападобныя кампазіцыі.

Зараз гэты кавалак замкавай сцяны прыкрыты дабудаваным пазней паўночным корпусам палаца. Наяўнасць дэкору невыпадковая. Гэта сведчыць аб тым, што першапачаткова тут не планавалі ўзводзіць жылыя пабудовы.

---

[1] Ткачоў М. А. Замкі і людзі. Мн., 1991. С. 36.

Па версе замкавых муроў, паміж вежамі, праходзіла баявая галерэя. Частка яе пад час будаўніцтва трохпавярховага жылога палаца была страчана. Сцены, зробленыя ў пачатку 16 ст., крыху надбудавалі і прабілі ў іх аконныя праёмы. Адтуліны байніц заклалі цэглай.

На заходняй сцяне каля паўночна-заходняй вежы намі зроблена зачыстка невялікага ўчастка галерэі пачатку 16 ст. да ўзроўню яе падлогі. З боку памяшкання да ўзроўню аснавання аконнай нішы сцяна надмуравана ў адзін рад цэглы. Паміж гэтай закладкай і вонкавай сцяной зроблена забутоўка з вапны і бітай цэглы, у якой знойдзены патрушчаны гліняны гаршчок другой паловы 16 ст. Пасля разборкі забутоўкі ў цаглянай падлозе галерэі прасочаны прамакутны паз памерам 0,34×0,45 см. У пазе захавалася старая сасновая бэлька на даўжыню да 2,03 м. Яе таўшчыня 27 см, шырыня — 20 см. Бэлька была закладзена ў знешнюю частку замкавага мура на глыбіню 83 см. Падлога галерэі была цагляная, але, магчыма, зверху на яе насцілалі дошкі.

Пры даследаваннях замка намі таксама быў выяўлены арачны праход з галерэі ў паўночна-ўсходнюю вежу, які паварочвае налева. Пад час будаўніцтва палаца частка яго была разабрана, а большая частка замуравана цэглай (мал. 9 : *IV*).

У адной з ніш байніцы 16 ст. на паўночнай сцяне выяўлена добра захаваная пабеленая вапнавая тынкоўка (мал. 9 : *III*). Гэтая знаходка абвяргае меркаванні некаторых даследчыкаў наконт таго, што на фасадах гатычных збудаванняў на Беларусі тынкоўка з'явілася не раней 19 ст.

У жніўні 1991 г. намі цалкам было ўскрыта перадбрам'е, прыбудаванае да цэнтральнай вежы-брамы замка ў канцы 16 ст.

Цікавая стратыграфія была прасочана ў траншэі Б (мал. 10), што ўшчыльную падыходзіла да падмурка вежы пачатку 16 ст. і зроблена ў накірунку з захаду на ўсход. На глыбіні 1,6 м ад тагачаснай дзённай паверхні выйшлі на слой вапнавай рошчыны таўшынёй 13—15 см, які паступова знікае ў заходнім накірунку. У гэтым слоі знойдзены два кавалкі цаглін таўшчынёй 9 см і фрагмент дахоўкі пачатку 16 ст. Такім чынам, мы маем справу са слоем часоў будаўніцтва замка. Пасля зачысткі ўсходняга профілю была раскрыта суцэльная сцяна вежы-брамы, зробленая з цэглы і камянёў у тэхніцы мешанай муроўкі. Высветлілася, што спачатку будаўнікі заклалі суцэльны падмурак для вежы-брамы, а потым у галоўным фасадзе вежы быў выкладзены вялікі праём для ўваходу ў замак. Усходні падмурак вежы стаў своеасаблівым ганкам, на які абапіраліся вароты брамы. Далей у профілі прасочваецца цёмна-шэры слой канца 15 ст., дзе знойдзены венцы гаршкоў гэтага часу. На глыбіні 2,17 м ад дзённай паверхні выйшлі на мацярык — жоўты пясок.

Цікавая стратыграфія прасочана ў паўночным і паўднёвым профілях траншэі 5. Тут таксама слой паселішча канца 15 ст. перакрыты праслойкай чырвонай гліны і буравper слоем з кавалачкамі вапны і цэглы (перыяд будаўніцтва замка).

Над гэтым слоем знаходзіўся цёмна-шэры слой са знаходкамі першай паловы—сярэдзіны 16 ст. (гаршчок поўнага профілю, кавалкі гаршковай кафлі з квадрыфольным вусцем і фрагменты пляскатай дахоўкі). Ён змяняецца слоем жаўтавата-чырвонага суглінку, у якім маецца тонкая праслойка спарахнелага дрэва (гэта перыяд будаўніцтва перадбрам'я). Такім чынам, рова перад вежай-брамай не было і ўваход туды праходзіў па звычайнай грунтавой дарозе.

Нашы даследаванні дапамаглі канчаткова высветліць, што будаў-

ніцтва Мірскага замка прыпадае на пачатак 16 ст. і было распачата пасля 1506 г., калі на месцы былога «Мірскага двара» ўзнікла адна з мацнейшых абарончых пабудоў у тагачаснай Беларусі. Гэта квадратны ў плане замак з выступнымі вежамі па вуглах і пятай вежай-брамай. Яна мела пад'ёмны мост і кавaную рашотку-герсу. Муры мелі рады байніц, а вежы былі разлічаны на стральбу з цяжкіх гарматаў.

Аснову аб'ёмнай кампазіцыі замка складаюць высокія вежы, якія выступаюць за лінію сцен. Усе яны маюць аднолькавыя абрысы, уласцівыя для беларускіх замкавых вежаў 16 ст.,— чатырохгранная асноўная частка з васьміграннным верхам. Аб'ёмная прастора і аздабленне кожнай з іх вырашаны па-свойму і гэта надае замку непаўторнае дэкаратыўнае багацце і хараство.

Архітэктурная аздоба фасадаў кожнай вежы грунтуецца на розных па форме і велічыні дэкаратыўных нішах і арнаментальных паясах. Арнаментальны пояс маюць і замкавыя муры. Па ўсім перыметры праходзіць дэкаратыўны пояс, зроблены з цэглы. Некаторыя цагліны маюць клеймы.

Атынкаваныя ў бела-ружовы колер нішы, цягі, паясы вежаў і сцен, якія спалучаліся з цёмна-чырвонай фактурай цаглянай паверхні сцен, звязваліся ў цэласную архітэктурную кампазіцыю, нібы адсоўваючы магутнасць замкавых муроў на другі план.

Як бачна, у пластычным афармленні Мірскага замка выкарыстаны самыя простыя, але характэрныя для беларускай готыкі /выяўленчыя сродкі: гатычная муроўка (чаргаванне тычка і лажка) з умураванымі камянямі, падзел сцен разнастайнымі па форме атынкаванымі нішамі, арнаментальныя цагляныя паясы.

Пасля 1568 г. Мір і Мірскі замак ад Іллінічаў перайшоў у валоданне Радзівілаў. Неўзабаве Мікалай Радзівіл, які даў у 1579 г. прывілею г. Міру, пачаў перабудову Мірскага замка.

У выніку нашых даследаванняў высветлілася, што будаўнічыя працы ў замку пачаліся ў 70—80-х гадах 16 ст. і працягваліся да пачатку 17 ст. За гэты час былі змураваны ўсходні і паўночны карпусы палаца, дабудавана паўночна-заходняя вежа. Фасады паўночна- і паўднёва-ўсходняй вежаў былі перароблены ў рэнесансавым стылі. Вакол замка насыпаны бастыёны. Для іх будаўніцтва быў часткова скарыстаны культурны слой 15—першай паловы 16 ст. Трохпавярховыя карпусы замкавага палаца пабудаваны з цэглы-пальчаткі чырвонага колеру памерам 27—27,5×12—12,2×6—6,5 см.

Даследаванні падмуркаў усходняга корпуса паказалі, што яны складзены ў тэхніцы змешанай муроўкі, аднак у параўнанні з падмуркамі абарончых сцен і вежаў тут значна менш скарыстана камянёў (мал. 8 : *5*). А ў муроўцы палаца іх увогуле няма (мал. 8 : *3*).

Аблямоўка аконных і дзвярных праёмаў, крыжавіны вокнаў рэнесансавага палаца былі зроблены з вапняковых блокаў і маюць складаную знешнюю прафілёўку (мал. 12, 13).

Варта дадаць, што шмат якія блокі пад час чарговай пераробкі палаца ў перыяд барока ў 17 ст. былі выбіты са сваіх месцаў і скарыстаны для ўзвядзення ніжніх частак сцен і ганкаў у дзвярах гаспадарчых пабудоў.

Аконныя рамы, пра што сведчаць інвентарныя запісы, выраблялiся з дрэва і мацаваліся з дапамогай жалезнай кованай скабянкі. Знойдзена аконнае шкло прамакутнай і круглай формы, у асноўным асветленае. Яно мае таўшчыню 0,1 см. Патоўшчаны валік па краях аконных шыбак

дасягае таўшчыні 0,2 см. Шыбы ўстаўляліся ў двухтаўровыя свінцовыя палосы пераплётаў. Аналагічныя свінцовыя абкладкі для аконнага шкла былі знойдзены намі пад час раскопак на Старым замку ў Гродне[2]. Яны ўжываліся там у канцы 16 ст. пры перабудове замкавага палаца С. Баторыем.

Ад выпадання з рамаў шкляныя шыбкі засцерагаліся спецыяльнымі вятроўніцамі, што былі зроблены з жалезных палосак шырынёй да 1 см і таўшчынёй да 0,2 см. На загібах па краях вятроўніцы мелі адтуліны для мацавання іх да рамы акна.

Акрамя аконных і дзвярных аблямаванняў з аналагічнага каменю выкананы кансолі балкона, які знаходзіўся на другім паверсе (на дваровым фасадзе) палаца, на стыку двух карнізаў, а таксама балясіны балконнай загародкі (мал. 14 : *3*). У час раскопак замкавага двара знойдзены кавалак аблямоўкі, зроблены з мармуру (мал. 14 : *2*). Перад уездам у замак было збудавана дадатковае абарончае ўмацаванне — перадбрам'е. Ад яго захаваўся падмурак, які складзены ў тэхніцы бутавай муроўкі з камянёў на вапнавай рошчыне. Над падмуркам захаваўся цокаль вышынёй да 0,3 м, які выступае на даўжыню цагліны, і некалькі радоў тычковай муроўкі сцяны (мал. 15).

Цалкам рэшткі перадбрам'я былі ўскрыты намі ў 1991 г. Падмурак гэтага абарончага збудавання ўяўляе сабой паўкруг з радыусам 7 м па ўнутраным дыяметры і 8 м па знешнім. Падэшва падмурка ляжыць на глыбіні каля 2 м ад дзённай паверхні і 1,7—1,8 м ад цокаля. Па характарыстыцы муроўкі і памерах цэглы перадбрам'е можна датаваць канцом 16 ст. Гэтыя працы супадаюць з часам узвядзення палаца ў замку.

Цокаль падмурка перадбрам'я прасочаны па знешім і ўнутраным баках сцяны збудавання. Шырыня яго вагаецца ад 25 да 30 см. Паўднёвая частка падмурка спецыяльна выраўноўвалася пры дапамозе спецыяльнай забутоўкі.

У цэнтральнай частцы сцяны падмурка адкрыты тры нішы, магчыма, ад упораў пад'ёмнага моста, а ў стратыграфічнай траншэі А, на мяжы з траншэяй Б, выяўлена ямка ад слупка пад гэты мост (мал. 10).

Таўшчыня сцен перадбрам'я 56—67 см. Муроўка складзена з добра абпаленай цэглы-пальчаткі чырвонага колеру памерамі 27,5—24×13,5—12,5×6 см. Таўшчыня швоў паміж цэглай 2—3 см. Тэхніка муроўкі — паўнарадавая, але тычкі па фасадзе мура пераважаюць (мал. 8 : *6*).

На поўнач ад замка Радзівілы пасадзілі шыкоўны італьянскі сад, сход у які быў зроблены з узроўню другога паверха палаца ў выглядзе драўлянага мастка на цагляных слупах з ухілам у бок саду.

Пад час раскопак прасочаны фрагменты падмуркаў дзвюх пар слупоў ад вышэйзгаданага мастка (мал. 11). У плане яны чатырохкутныя (0,8×0,9 м). Падмуркі слупоў складзены з палявых камянёў (у дыяметры 20—30 см), знешнія грані іх выкладзены з рэнесансавай цэглы. Унутраная частка падмуркаў забудавана бітай цэглай і невялікімі камянямі на вапне. Адлегласць паміж слупамі адной пары каля 1,7 см, паміж парамі слупоў — каля 8 м. Пераходны масток таксама абапіраўся на вымастку з патрушчанай цэглы, якой запоўнена выемка ў курціне бастыёна.

У 17 ст. у замку побач з паўднёвай сцяной была пабудавана кухня, а з вонкавага боку — стайня. Да заходняй сцяны звонку паміж вежамі былі прыбудаваны аднапавярховыя гаспадарчыя пабудовы. ~~Яны ўзводзі-~~

---

[2] Трусаў А. А., Собаль В. Е., Здановіч Н. І. Стары замак у Гродне XI—XVIII стст. // Гіст.-археалаг. нарыс. Мн., 1993. С. 57. Мал. 117.

ліся з цэглы памерам 27,5×12,5×6,5 см. Іх падмуркі складаліся з камянёў на вапнавай рошчыне. Усе гаспадарчыя пабудовы, прыбудаваныя звонку да замкавых муроў, былі аднапавярховымі, з аднасхільнымі дахамі, якія абапіраліся адным бокам на замкавыя сцены. Іх падмуркі складзены з камянёў на вапнавай рошчыне з нязначнымі дамешкамі бітай цэглы (мал. 8 : *4*) і залягаюць неглыбока. Так, напрыклад, цокаль падмурка аднапавярховай прыбудовы да заходняй замкавай сцяны залягае на глыбіні 94 см ад дзённай паверхні. Адзначым, што падмурак кухні, збудаванай на тэрыторыі замкавага двара, складзены з вялікіх камянёў, а яго падэшва ляжыць на глыбіні больш чым 2 м. Магчыма, кухня пабудавана на месцы, дзе меркавалася ўзвесці нейкі замкавы корпус, але паспелі збудаваць толькі яго падмурак, і калі планы змяніліся, то вырашылі зрабіць тут кухню.

З поўдня да замка была прыбудавана цагляная стайня, у цэнтральнай частцы якой знаходзілася, як сведчыць інвентар Мірскага замка ад 15 кастрычніка 1688 г., цагляная вежачка, дзе захоўвалі авёс і сена [3]. Знойдзены намі яе падмурак складзены з камянёў і цэглы на вапнавай рошчыне, як і падмурак кухні. Над каменным падмуркам знешняй сцяны стайні захавалася некалькі радоў цэглы (мал. 16). Таўшчыня сцяны 1,2 м.

У раскопах і шурфах на замкавым двары расчышчаны брук, які ў асобных месцах неаднаразова перакладваўся. Уздоўж паўночнай сцяны кухні і заходняй сцяны замка выяўлены жолаб, выкладзены з камянёў. Ён зроблены для адводу дажджавой вады праз водаправодныя нішы за межы замка. Вадасцёкі прасочаны і з вонкавага боку на поўдзень ад уязной вежы.

Каля паўночнай сцяны замкавага палаца захаваўся позні вадасцёк, зроблены ў 20—30-я гады 20 ст. (мал. 11 : *3*), старажытны смеццезборнік, які функцыянераваў у канцы 16—першай палове 17 ст. (мал. 11 : *2*; 17 : *2, 3*).

У час археалагічных раскопак у 1984 г. былі раскрыты рэшткі брукаванай дарогі канца 16—першай паловы 17 ст., якая вяла да замка з захаду (мал. 11 : *16*). Адразу пад старажытным брукам былі знойдзены гаршковыя кафлі пачатку 16 ст. з круглым вусцем і развал печы для абпалу цэглы, з якой будаваўся Мірскі замак.

Высветлілася, што ва ўсіх памяшканнях Мірскага замка падлога мела розны характар пакрыцця. Першапачатковае пакрыццё падлогі ў палацы корпуса не знойдзена. Толькі на першым паверсе ўсходняга корпуса і ў паўднёва-ўсходняй вежы захавалася падлога з квадратных і шасцігранных керамічных плітак.

У гаспадарчых пабудовах падлога рабілася або з цэглы (кухня), або з камянёў, як у памяшканнях пабудоў паміж надбрамнай і паўночна-заходняй вежамі.

Замкавыя пабудовы ў 16—17 стст. былі пакрыты пляскатай дахоўкай з паўкруглым наскам і прамакутнай пяткай, на якой мясціліся мацавальныя шыпы. У 18 ст. некаторыя замкавыя пабудовы былі перакрыты хвалістай, або «галандскай», дахоўкай.

Пасля вайны 1812 г., калі Мірскі замак быў спалены і закінуты, ніякіх рамонтных прац тут не вялося. І толькі ў 20—30-я гады 20 ст. пад кіраўніцтвам князя Святаполк-Мірскага пачаліся рэстаўрацыйныя работы. Для рэстаўрацыі выраблялася спецыяльная цэгла, часам з надпісам

---

[3] Архіў СНРВМ, аб'ект 5/68, інв. № 29. Інвентарны вопіс Мірскага замка. С. 7.

«Мір» на пасцелі, а таксама цэментныя блокі, падобныя да цэглы. Адзін з карнізаў палаца быў пакрыты тонкай чырвонай пляскатай дахоўкай машыннай вытворчасці (мал. 18, 19).

У пасёлку з найстаражытнейшых мураваных пабудоў захаваліся Мікалаеўскі касцёл і Троіцкая царква. Паводле пісьмовых крыніц, драўляны касцёл у Міры збудавалі ў 1587 г. Яго фундатарам стаў Мікалай Радзівіл (Сіротка). Пазней, у 1599—1605 гг., замест яго быў узведзены мураваны касцёл. Ён уяўляе сабой трохнефавую базіліку. На фасадзе сярэдні неф завершаны чатырох'яруснай вежай (захаваліся два ярусы). Па баках галоўнай вежы размешчаны дзве невялікія круглыя вежачкі [4]. Такім чынам, на касцёле маюцца тры вежы, аднак у Зборы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі храм названы «трохнефавай аднавежавай базілікай» [5].

Касцёл перажыў некалькі сур'ёзных рамонтаў і перабудоў. У 1710 г. яго аднаўлялі, у 1865 г. у сувязі з узмацненнем русіфікацыі перарабілі пад царкву. Пад час знаходжання Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы пабудова зноў была прыстасавана пад касцёл. Побач з касцёлам захаваўся двухпавярховы мураваны будынак плябані. Яго ўзвялі ў пачатку 17 ст., апошняя перабудова плябані была ў 1880 г.

Некалькі апошніх дзесяцігоддзяў касцёл стаяў закінуты, былі раскіданы пахаванні, размешчаныя ў яго сутарэннях, парушаны алтар і ўнутраная аздоба храма. У канцы 80-х гадоў быў распрацаваны праект рэстаўрацыі помніка. Зараз ён перададзены вернікам, якія арганізавалі рамонтныя работы з мэтай прыстасавання храма да правядзення богаслужэнняў.

Даследаваннямі А. М. Кушнярэвіча ў 1987 г. высветлена, што глыбіня залягання падмуркаў касцёла 2,8 м. Падмуркі складзены з бутавага каменю, гэтаксама як і падмуркі плябані, званіцы, шпіталю пры касцёле.

Элементы добраўпарадкавання — брукаваныя дарожкі, выяўленыя А. К. Краўцэвічам у 1989 г.

Троіцкая царква ў Міры была збудавана з цэглы паміж 1533 і 1550 гг. Несумненна, яе першапачатковы выгляд моцна адрозніваўся ад сённяшняга. Значныя перабудовы царква перанесла ў другой палове 19 ст. і набыла воблік «мураўёўкі». Пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг. у ходзе праграмы русіфікацыі краю ўлады тэрмінова перараблялі цэрквы і некаторыя касцёлы ў так званым псеўдарускім стылі. Спачатку храм быў перабудаваны пасля пажару ў 1865 г. Затым у 1870-я гады над бабінцам узвялі трох'ярусную вежу-званіцу і пяць фальшывых купалаў над асноўным аб'ёмам будынка. Храм дзейнічае і сёння [6].

Да нашых дзён захаваўся ў пасёлку мураваны будынак талмудысцкай акадэміі, узведзены ў канцы 18—першай палове 19 ст. Вакол гандлёвай плошчы ў другой палове 19—пачатку 20 ст. утварылася вельмі шчыльная забудова з адна-, двухпавярховых дамоў, у якіх размяшчаліся майстэрні, лаўкі, а таксама жыллё гандляроў і рамеснікаў. Найбольшыя страты гэтая забудова панесла, як апавядаюць мясцовыя жыхары, пад час бамбёжак у другую сусветную вайну і захавалася фрагментарна. На

---

[4] Габрусь Т. В. Мірскі Мікалаеўскі касцёл // Архітэктура Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1993. С. 348.

[5] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гродзенская вобласць. Мн., 1986. С. 216.

[6] Чарнатаў В. М. Мірская Троіцкая царква // Архітэктура Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1993. С. 347.

месцы некаторых разбураных дамоў сёння віднеюцца толькі рэшткі ганкаў. У 1983 г. непадалёк ад шурфа 20 мы выпадкова выявілі напаўзасыпаны падвал з цэлымі перакрыццямі, які застаўся ад аднаго з такіх дамоў. У шурфе 21 каля краю вул. Чырвонаармейскай выяўлены падмуркі мураванага дома канца 19—пачатку 20 ст. Пляцы на месцы разбураных дамоў зараз пустуюць. Відавочна, праект рэгенерацыі гістарычнага вобліку пасёлка павінен прадугледзець і аднаўленне страчаных частак гэтай забудовы, вельмі характэрнай для беларускіх гарадоў і мястэчак.

Пад час археалагічных раскопак на тэрыторыі пасёлка (кіраўнік А. К. Краўцэвіч) было выяўлена некалькі цікавых архітэктурных помнікаў. Яны даволі падрабязна апісаны ў адпаведнай частцы манаграфіі, прысвечанай пасёлку [7]. Археалагічныя апісанні дапоўнены інфармацыяй з інвентароў і ілюстраваны графічнымі малюнкамі. Каб не паўтарацца, мы ў гэтай працы размяшчаем толькі фотаздымкі знойдзеных пабудоў.

На тэрыторыі Міра ў многіх месцах, асабліва ў цэнтры пасёлка, у культурным слоі захаваліся рэшткі добраўпарадкавання гарадской тэрыторыі. Гэта каменныя брукоўкі. Самыя старажытныя з іх адносяцца да 17 ст., самыя познія — да пачатку 30-х гадоў 20 ст. (мал. 20). Найбольш дбайна сачылі за станам бруку на гандлёвай плошчы. Тут пад час шурфоўкі ў 1982 г. выяўлены чатыры слоі каменных бруковак плошчы (мал. 21). Ніжні слой датаваўся 17 ст., верхні — канцом 19—пачаткам 20 ст. Акрамя плошчы вымошчваліся брукам вуліцы, сцежкі і падворкі.

У 1982 г. каля паўднёвага ўскрайку плошчы на глыбіні 0,8 і 1,4 м ад дзённай паверхні выяўлены рэшткі вялікага мураванага будынка 17 ст. Захаваліся падмуркі сутарэнняў, якія мелі паўцыліндрычныя скляпенні. Апошнія абваліліся, ад іх засталіся толькі пяты. Над падмуркамі ў двух месцах прасочана некалькі радоў цаглянай муроўкі сценаў. Відавочна, гэты будынак выкарыстоўваўся працяглы час, бо над рэшткамі драўлянай падлогі, на глыбіні 2,97 м ад дзённай паверхні, прасочана каменная вымастка.

Пасля працягу раскопак будынка ў 1983 г. (мал. 22, квадрат 2, шурфы 6, 13) высветлілася, што сутарэнні мелі не менш чым дзве секцыі. У першай, выяўленай у 1982 г., рэшткі драўлянай падлогі размешчаны на глыбіні 3,85 м ад дзённай паверхні, на адной з дошак знойдзены цэлы (адсутнічаюць толькі ручкі) паліваны керамічны кубак 17 ст. У другой секцыі (квадрат 2, шурфы 6, 13) рэшткі падлогі прасочаны на глыбіні 3,22 м, а ніжні край падмурка сцяны залягае на глыбіню 3,3 м. Вышэй падлогі насыпаны слой жоўтага пяску, на якім і пакладзена брукоўка. Першапачатковая версія адносна прызначэння пабудовы звязана з ідэнтыфікацыяй яе з ратушай [8]. Гэтаму садзейнічаюць памеры будынка, кампазіцыйнае размяшчэнне — пасярэдзіне паміж касцёлам і царквой. Пісьмовыя крыніцы не пацвярджаюць гэтую версію, але і не выключаюць яе. Таму пытанне аб месцазнаходжанні Мірскай ратушы, як і ідэнтыфікацыя выяўленага будынка, застаецца адкрытым.

Да ліку важных адкрыццяў належыць выяўленне пры раскопках горна для абпалу керамічных вырабаў (шурф 18, раскоп 2) і побач з ім падмуркаў жылога дома, які меў кафляную печ (1984 г., раскоп 3). Блізкае размяшчэнне двух аб'ектаў, іх храналагічная тоеснасць дазволілі выказаць меркаванне аб тым, што гэта была сядзіба рамесніка-ганчара другой паловы 17 ст.

---

[7] Краўцэвіч А. К., Якшук Г. М. Стары Мір. С. 34—46.

[8] Кравцевич А. К. Исследования в г. п. Мир Гродненской области // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. С. 141—144.

Горан выяўлены выпадкова ў шурфе 18, які быў закладзены на незабудаванай, зарослай травой пляцоўцы непадалёк ад будынка плябані. Пасля таго як на глыбіні 2,2 м ад дзённай паверхні выйшлі проста на слупок (дзед), які трымаў перакрыцце горна, выбарку шурфа спынілі і разбілі на гэтым месцы раскоп 2. У выніку ўдалося цалкам адкрыць рэшткі горна і адначасова атрымаць разрэз культурнага слою ў запаўненні ямы, у якой размяшчаўся горан (мал. 9 : *I*; 23). Дэталёвае апісанне горна апублікавана ў кнізе «Стары Мір»[9], фотаздымкі і замалёўкі раскопу друкаваліся і ў іншых выданнях[10]. Варта толькі дадаць, што ў ходзе выбаркі культурнага слою на раскопе над горнам, пачынаючы з глыбіні 0,4—0,6 м ад дзённай паверхні, траплялiся шматлікія фрагменты цэглы, несумненна, ад разабранага верху горна. Верхняя частка горнаў такой канструкцыі пасля загрузкі начыння, прызначанага на абпал, закладвалася, а пасля абпалу разбіралася.

Таксама А. К. Краўцэвічам дэталёва апісана і жылая пабудова (мал. 9 : *II*), знойдзеная ў пяці метрах ад горна (раскоп 3). Найбольш каштоўнай часткай пабудовы з'яўляецца кафляная печ другой паловы 17 ст.— адзіная такая знаходка на Беларусі (мал. 9 : *II*; 24; 25).

У 1988 г. А. К. Краўцэвічам былі праведзены спецыяльныя даследаванні абарончых умацаванняў пасёлка. Ім папярэднічала выпадковае выяўленне ў 1987 г. пад час праводкі водаправоднай траншэі рэштках цагляных і каменных муровак на вуліцах Першамайскай (былая Слонімская) і Чырвонаармейскай (былая Віленская). Паколькі муроўкі былі знойдзены на ўзбочыне вуліц, стала зразумелым, што гэта рэшткі сярэднявечных мураваных брамаў — адпаведна Слонімскай і Віленскай. Па пісьмовых крыніцах вядома, што ўсяго ў горадзе было чатыры брамы. Археолагі даследавалі Віленскую браму, акрамя таго, быў арганізаваны пошук брамы, якая стаяла на выездзе да Менска (Менская). Месцазнаходжанне Нясвіжскай брамы можна было акрэсліць даволі дакладна і без раскопак, бо з усходняга боку паселішча абмежавана ракой. Праз нейкі час каля ракі перад мостам камунікацыйнай траншэяй і былі выяўлены руіны Нясвіжскай брамы.

Віленская (мал. 26) і Менская (мал. 27) брамы вывучаліся з дапамогай траншэй 3 і 4, закладзеных на ўзбочынах вуліц уздоўж праезджай часткі. Даўжыня бакавой сцяны Віленскай брамы 10,9 м, шырыня — 1,9 м; даўжыня сцяны Менскай брамы 8,7 м. Атрымана каштоўная інфармацыя аб глыбіні залягання падмуркаў, шырыні сцен і агульнай шырыні пабудоў. Дакладна акрэсліць памеры брамаў не ўдалося, бо асноўныя іх аб'ёмы залягаюць пад праезджай часткай. Асобная траншэя 1 была закладзена з мэтай прарэзкі рэштках гарадскога вала, які на сённяшні дзень на паверхні зямлі амаль не прасочваецца. Траншэя прарэзала частку асновы вала і частку абарончага рова[11]. Не знойдзена ніякіх слядоў муроўкі, што яшчэ раз пацвердзіла памылковасць версіі аб наяўнасці ў Міры мураванай абарончай сцяны, якая ўзнікла з-за недакладнага сказу ў працы Ю. Барташэвіча[12].

У выніку археалагічных раскопак стала магчымым зразумець і пра-

---

[9] Краўцэвіч А. К., Якшук Г. М. Стары Мір. С. 38—40.

[10] Трусов О. А., Чернявский И. М., Кравцевич А. К. Архитектурно-археологические исследования Мирского замка и городского поселка Мир Гродненской области. С. 219; Краўцэвіч А. Майстар — наш продак. Мн., 1990. С. 23; Ён жа. Гарады і замкі Беларускага Панямоння. С. 121.

[11] Краўцэвіч А. К., Якшук Г. М. Стары Мір. С. 44—46.

[12] Bartaszewicz I. Zamek Bialski. Lwów, 1881. S. 44.

сачыць некаторыя асаблівасці фарміравання культурнага слою і адпаведна заканамернасці тапаграфічнага развіцця сярэднявечнага Міра. У першую чаргу гаворка ідзе аб прынцыпах размяшчэння шэраговай драўлянай забудовы і кампаноўкі гарадскіх сядзібаў. Так, высветлена, што каля гарадскога вала ў сярэднявеччы не ставілі будынкаў — тут размяшчаліся агароды. Зараз, калі валоў ужо няма, на іх месцы стаяць дамы. Сядзібы гараджан даўней мелі форму, блізкую да выцягнутага прамакутніка, і вузкім канцом былі звернуты да вуліцы. Сядзіба складалася з жылой і некалькіх гаспадарчых пабудоў. Да вуліцы выходзілі жылыя дамы, за імі размяшчаўся двор, яшчэ глыбей ставілі гаспадарчыя пабудовы, а за імі агароды.

Мы спадзяёмся, што праз пэўны час, калі справа дойдзе да рэгенерацыі гістарычнай планіроўкі Міра, спатрэбіцца здабытая намі інфармацыя і будуць арганізаваны новыя даследаванні.


Стратыграфія
культурнага слою

На працягу пяці стагоддзяў існавання замка і шасціста гадоў інтэнсіўнага жыцця пасёлка сфарміраваўся значны культурны слой. За час шматгадовых археалагічных даследаванняў удалося атрымаць даволі дакладнае ўяўленне аб культурных напластаваннях пасёлка і замка: плошчы, глыбіні залягання, характары, наяўнасці археалагічнага матэрыялу, датаванні асобных праслоек. На сённяшні дзень ступень даследаванасці такая, што можна рабіць высновы аб асаблівасцях фарміравання культурных наслаенняў у асобных частках пасёлка і замкавай тэрыторыі.

Культурны пласт як комплексная з'ява жыцця паселішча характарызуецца адначасова тыповасцю фарміравання і спецыфікай, уласцівай для розных часоў і розных відаў помнікаў. Так, напрыклад, маюцца даволі істотныя асаблівасці ў фарміраванні культурнага слою ў Мірскім замку і самім пасёлку, хоць працэс і тут і там адбываўся практычна адначасова. Асаблівасці абумоўлены ў першую чаргу розным сацыяльным і маёмасным становішчам гаспадароў замка і жыхароў горада, а таксама рознымі памерамі помнікаў, умовамі жыцця і заняткамі насельнікаў і г. д.

Аднак мы лічым неабходным разглядаць замак і пасёлак, нягледзячы на ўсе іх адрозненні, як дзве часткі адзінага комплексу, бо такі падыход больш адэкватна адлюстроўвае рэаліі жыцця сярэднявечнага грамадства.

Культурныя пласты замка і горада адрозніваюцца ў першую чаргу афарбоўкай. Асноўным кампанентам культурнага слою з'яўляецца светла-шэрая зямля, аднак у замку яна насычаная фрагментамі цэглы, дахоўкі праслойкі гліны, пяску, вапны — слядамі неаднаразовых рамонтаў і перабудоў. Гэтыя яркія праслойкі надаюць слою стракатасць. У пасёлку слой значна больш аднастайны па колеры, за выключэннем самых верхніх пластоў. Горад у сярэднявеччы быў амаль цалкам драўляным, мураваная забудова цэнтра паўстала ў канцы 19—пачатку 20 ст. Яна моцна парадзела ў часы апошняй вайны і ў верхніх пластах культурнага слою адклаліся праслойкі будаўнічага развалу. Па-рознаму адбываўся і працэс фарміравання культурнага слою. У горадзе ён найбольш інтэнсіўна адкладаўся на падворках гараджан, у замку, які фактычна быў адной вялікай сядзібай, найбольш магутныя напластаванні скла́ліся звонку пад самымі сценамі палаца, каля брамнай вежы і ў паўднёва-заходнім вугле двара, дзе ў 17 ст. дзейнічала кухня.

Назіраецца заўважная розніца і ў комплексах рэчаў, знойдзеных пад час раскопак. Многія знаходкі з замка належаць да элітнай матэрыяльнай культуры, даступнай толькі вельмі багатым людзям. Гэта вялікая колькасць паліванай пячной кафлі, у тым ліку мноства асабліва дарагой паліхромнай кафлі, зробленай па спецыяльным заказе (на частцы кафлін змешчаны выявы родавага знака гаспадароў (радзівілаўскія арлы)). Да той жа катэгорыі адносяцца знаходкі сталовага керамічнага посуду, упрыгожанага паліхромным роспісам, вырабы з венецыянскага шкла (сапраўдны атрыбут раскошы), відэльцы і інш.

У той жа час раскопкі ў пасёлку далі магчымасць атрымаць уяўленне пра матэрыяльную культуру невялікага сярэднявечнага горада. Знаходкі паліхромнай кафлі тут налічваюцца адзінкамі, сталовы посуд хоць паліваны, але без ангобнага ці паліхромнага роспісу, шкляныя начынні зроблены з мясцовага зеленаватага шкла, шмат дымленай керамікі. Трэба адзначыць, што і ў замку нямала такіх жа, як у пасёлку, рэчаў, бо там акрамя гаспадароў і шляхты месцілася шматлікая абслуга. Многія

формы керамічных начынняў з замка і пасёлка аналагічныя між сабой, выяўлена шмат аднатыпных кафлін, зробленых па адной форме, але калі ў замку больш паліваных, то ў горадзе — тэракотавых.

## ЗАМАК

Фарміраванне культурнага слою Мірскага замка мела сваю спецыфіку, выкліканую характарам збудавання як умацаванай рэзідэнцыі феадала. Гэтая спецыфіка выявілася ў нераўнамернасці адкладання слою (а менавіта ў канцэнтрацыі найбольш значных наслаенняў у пэўных месцах) і ў характары матэрыялаў, якія змяшчае культурны слой.

Культурны слой Мірскага замка мае галоўным чынам светла-шэры колер. Ён насычаны як асобнымі фрагментамі, так і праслойкамі будаўнічых матэрыялаў: цэглы, дахоўкі, вапны, гліны, пяску. Слой сухі, дрэнна захоўвае арганічныя матэрыялы і жалеза. Таўшчыня вагаецца ад 30 см каля валоў да 2 м каля сценаў і ў паўднёва-заходняй частцы двара.

Некаторыя высновы аб культурным слоі замка прыводзіліся ў папярэдніх публікацыях [1]. Найбольш грунтоўна культурны пласт аналізаваўся ў сумесным артыкуле А. А. Трусава, І. М. Чарняўскага і А. К. Краўцэвіча, дзе апублікаваны профілі раскопаў 5 (у двары), 14 (каля паўночнай сцяны), 39 (каля заходняй сцяны).

Раскопкамі ўстаноўлена, што да пабудовы замка на яго месцы існавала паселішча другой паловы 15 ст., магчыма, феадальны двор. Такую інтэрпрэтацыю ўпершыню прапанаваў Д. С. Бубноўскі [2]. Як пацвярджэнне гэтай версіі можна расцаніць наяўнасць сярод знаходак са слою гэтага паселішча шпоры — атрыбута коннага воіна-феадала, фрагмента аконнага шкла — несумненнай прыналежнасці элітарнага жылля. Названае паселішча загінула, па ўсёй верагоднасці, ад пажару блізка да мяжы 15 і 16 стст. Аб гэтым сведчыць вялікая колькасць вуголляў у верхняй частцы пласта, пакінутага паселішчам.

Такім чынам, напластаванне, пакінутае згарэўшым паселішчам канца 15 ст., паклала пачатак фарміраванню культурнага слою на месцы размяшчэння Мірскага замка.

Дзесьці ў самым канцы 15—пачатку 16 ст. пачалося будаўніцтва мураванага замка. Спачатку навезлі пяску з глінай, затым разраўнялі і падрыхтавалі пляцоўку, на якой і пачалі ўзводзіць замкавыя муры. Стварэнне такіх падсыпак — з'ява характэрная для беларускага замкавага будаўніцтва. Насыпны пласт пяску і гліны мае розную таўшчыню (ад 0,2 да 1 м) у залежнасці ад перападу рэльефу і таксама добра прасочваецца. Выяўлена таксама і праслойка гэтага пачатковага будаўніцтва, якая залягае непасрэдна на гліняна-пясчанай падсыпцы ў выглядзе тонкіх лінзаў вапны і фрагментаў цэглы, дахоўкі, каменняў, гліны. Месцамі гэтая праслойка дасягае таўшчыні 0,1—0,25 м. Яе датаванне абгрунтавана знаходкамі вялікапамернай цэглы (асноўны фармат 28—28,5×14,5×9—9,5 см (да 10 см)), тоўстай пляскатай дахоўкі пачатку 16 ст.

У далейшым культурны слой фарміраваўся ва ўмовах, тыповых для падобных помнікаў: даробкі, разбурэнні, пераробкі, рамонты. Таму і

---

[1] Трусаў А. Археалагічнае даследаванне Мірскага замка // ПГКБ. 1980. № 4. С. 33—34. Трусов О. А., Чернявский И. М., Кравцевич А. К. Архитектурно-археологические исследования Мирского замка и городского поселка Мир Гродненской области // СА. 1986. № 4. С. 216—235; Краўцэвіч А. К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV—XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой. Мн., 1991. С. 50.

[2] Бубноўскі Д. С. Гісторыя горадабудаўнічага развіцця г. п. Мір // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Мн., 1989. С. 130—141.

культурны слой замка ў адрозненне ад аднačасовага яму гарадскога насычаны рознымі будаўнічымі матэрыяламі, праслойкамі гліны, вапны, пяску. У гэтым слоі ўдалося вычленіць праслойку разбурэння гатычнай галерэі і збудавання палаца ў канцы 16—пачатку 17 ст., а таксама праслойку рамонту палаца пасля ваенных дзеянняў другой паловы 17 ст. Асноўным датуючым матэрыялам сталі шматлікія фрагменты цэглы меншага фармату, чым у 16 ст. (27—27,5×13—13,5×7,5 см), тонкай пляскатай і хвалістай дахоўкі канца 17—пачатку 18 ст., кафля, бытавы посуд, люлькі, шкляныя і металічныя вырабы. На некалькіх паліхромных кафлінах-каронках стаіць дата 1583 г.

Верхнюю частку культурнага слою складаюць наслаенні 18—20 стст. У некаторых месцах прасочаны слой рамонту замка пачатку 20 ст. Побач з паўднёва-заходняй вежай гэты слой дасягае таўшчыні каля 40 см.

Найбольш інтэнсіўна фарміраванне культурных наслаенняў адбывалася звонку помніка каля яго сценаў, а не ў двары, як гэта было ў вялікіх дзяржаўных замках (Лідскім, Крэўскім, Гарадзенскім, Навагрудскім і інш.).

Асабліва значны культурны пласт (да 2 м) склаўся каля паўночнай сцяны, да якой прымыкала паўночнае крыло палаца. Відавочна, не меншай была таўшчыня слою і за ўсходняй сцяной, да якой прыбудавана ўсходняе крыло палаца. Аднак у часе рамонтаў першай паловы 20 ст. культурныя наслаенні тут былі зрэзаны і выкарыстаны для падсыпкі ўсходняй курціны, што і выявілі археалагічныя даследаванні апошняй.

Варта адзначыць адну цікавую асаблівасць фарміравання наслаенняў пад паўночнай сцяной. Раскопкі паказалі вельмі нераўнамернае размеркаванне кавалкаў кафлі на плошчы. У некаторых месцах траплялісся ледзь не суцэльныя «залежы» пячной кафлі канца 16 і 17 ст. Было заўважана, што гэтыя залежы знаходзяцца якраз пад вокнамі палаца. Гэта азначае, што ў ходзе рамонтаў палаца старую пабітую кафлю збіралі і выкідалі за муры праз бліжэйшае акно. Такім чынам, у даследчыкаў з'явілася магчымасць не толькі даволі дакладнай рэканструкцыі знешняга выгляду кафляных печаў, але і вызначэння прыблізнага месца размяшчэння печаў у палацы. Названыя рэканструкцыі знайшлі практычнае выкарыстанне ў часе стварэння праекта аднаўлення замка. Плануецца скласці печы на ранейшых месцах з кафлі, зробленай па ўзору 17 ст., а ў корпусе печы размясціць батарэі паравога ацяплення.

Тут жа каля паўночнай сцяны пад адтулінай смеццеправода знойдзена яма-сметніца 17 ст.

Каля паўднёвай сцяны замка культурны пласт не такі магутны (дасягае 1,5 м) і багаты на знаходкі. Ён часткова быў перамешаны пры будаўніцтве каля сцяны мураванай стайні 17—18 стст. Спецыфіка культурных наслаенняў каля заходняй сцяны звязана таксама з размяшчэннем тут не існуючых зараз пабудоў, якія прымыкалі да сцяны, а галоўнае, з наяўнасцю ўвахода ў замак. Якраз па абодва бакі дарогі, якая вядзе да ўвахода, зафіксаваны шчыльны, значны па таўшчыні, з добрай стратыграфіяй і са значнай канцэнтрацыяй знаходак слой. Прычына інтэнсіўнага нарастання слою менавіта ў гэтым месцы бачыцца ў клопаце гаспадароў аб чысціні замкавага двара. Біты керамічны посуд, іншыя сапсаваныя рэчы калі не выкідалі праз вокны за муры, то выносілі за брамную вежу. Культурны слой у двары нязначны, тут у 17 ст. паклалі брукоўку. Толькі каля паўднёвай сцяны ў двары, дзе з 17 ст. дзейнічала кухня, сфарміраваўся даволі значны культурны пласт (да 2 м) са шматлікімі знаходкамі.

# АРХЕАЛАГІЧНЫЯ КОМПЛЕКСЫ

У археалагічнай літаратуры акрамя тэрміна «культурны слой» ужываецца азначэнне «комплекс». Калі два ці больш археалагічных прадметаў аказаліся ў адным месцы і мы маем доказы, што яны трапілі сюды адначасова, лічыцца, што яны знаходзяцца ў сапраўдным, ці закрытым, комплексе. Класічным прыкладам закрытых комплексаў з'яўляюцца матэрыялы са слою катастрофаў (напрыклад, пажараў). Калі ж мы толькі мяркуем, што знойдзеныя ў адным месцы прадметы з'яўляюцца адначасовымі, але не маем доказаў гэтага, комплекс лічыцца адкрытым.

Археалагічныя комплексы абодвух відаў знойдзены ў Мірскім замку. Гэта паселішча другой паловы—канца 15 ст. і яма-сметніца.

## ПАСЕЛІШЧА 15 ст.

Слой паселішча, якое папярэднічала замку, найбольш выразна зафіксаваны ў раскопе 5 (1980 г., 32 кв. м), закладзеным у замкавым двары, і на частцы раскопу 39 (1984 г., 352 кв. м, квадраты 1—8 — прырэзка), размешчанага за заходняй замкавай сцяной. Паколькі над гэтым слоем у абодвух раскопах размешчаны непарушаныя пласты гліны і суглінку (замкавая падсыпка), а ў раскопе 39 яшчэ праслойка вапны ад пачатковага замкавага будаўніцтва (мал. 28), то можна казаць аб закрытым комплексе канца 15—пачатку 16 ст. (час утварэння замкавай падсыпкі).

У раскопе 5, дзе стратыграфія захавалася найлепш, выдзелена пяць стратыграфічных слаёў (мал. 29 : *II*).

1. Сляды разбурэння замка ў 20 ст. Колер слою светла-шэры з кавалкамі бітай цэглы і вапны. Гэты слой аддзяляецца ад астатніх брукоўкай 19—пачатку 20 ст.

2. Размешчаны адразу пад брукоўкай. Складаецца з шэрай глебы з бітай цэглай і вапнай. Магутнасць слою 0,2—0,25 м. Датуецца 17—пачаткам 18 ст. Знойдзены фрагмент дахоўкі 17 ст. з мацавальным шыпам, а таксама керамічны посуд тыпу VI.

3. Самы магутны — 0,6—0,7 м. Гэта суглінак — замкавая падсыпка. У самай ніжняй яе частцы выяўлены фрагменты керамічнага посуду 16 ст.: тыпы II, III (мал. 30 : *8, 9, 12*).

4. Мае таўшчыню ад 0,1 да 0,2 м, складаецца з глебы чорнага колеру з украпінамі вугалляў. У верхнім гарызонце гэтага слою выяўлены развал глінабітнай кафлянай печы канца 15—пачатку 16 ст. (фрагменты і цэлыя гаршковыя кафліны ў форме цыліндра — фотаздымак печы публікаваўся) [3], а таксама фрагменты непаліваных гаршкоў тыпаў II, III і цэлы гаршчок тыпу V (мал. 30 : *13—24*). Слой датуецца канцом 15—пачаткам 16 ст.

5. Таўшчыня — 0,2—0,35 м, колер шэры. Тут сабрана асноўная маса фрагментаў гаршкоў тыпу I (мал. 30 : *49—53*), знойдзена гаршковая кафліна 15 ст. Да гэтага слою адносіцца яма, выяўленая на асноўнай плошчы раскопу (пласты 9 і 10). У яе запаўненні прасочаны слой магутнага пажару. Сярод знаходак фрагменты венцаў непаліваных гаршкоў тыпу I, гаршкоў з s-падобным профілем, фрагмент тоўстага аконнага шкла і фрагмент рынкі са слядамі палівы. Утварэнне ямы датавана другой паловай—канцом 15 ст.

---

[3] Трусаў А. Археалагічнае даследаванне Мірскага замка // ПГКБ. 1980. № 4. С. 33—34.

У раскопе 39 найлепш прасочана стратыграфія ў квадратах 1—8 (прырэзка). Верхнія пласты тут утварыліся ў 19—20 стст., у тым ліку пад час разбурэння аднапавярховай прыбудовы да сцяны замка паміж цэнтральнай і паўночна-заходняй вежамі.

Ніжэй ідуць наслаенні 16—18 стст., пад якімі ў некалькіх месцах прасочана праслойка вапны пачатку 16 ст., утвораная на першым этапе будаўніцтва замка.

Пад вапнавай праслойкай залягае «падушка» з суглінку. Яна перакрывае светла-шэры слой (таўшчыня 0,2—0,4 м) паселішча 15 ст. Захаванню гэтай праслойкі спрыяла ўзвядзенне ў канцы 16—пачатку 17 ст. прыбудовы паміж вежамі звонку сцяны, падмуркі якой залягалі на нязначную глыбіню (адзін рад каменняў на рошчыне).

## ЯМА-СМЕТНІЦА

Выяўлена каля самай паўночнай сцяны замка пад адтулінай жолаба-смеццеправода, які выходзіць з пакояў палаца, у квадратах 26 і 27 раскопу 31 (1983 г., мал. 17 : *2, 3*). Пасля таго як выбралі культурны слой на ўсёй астатняй плошчы раскопу, працягвалі выбіраць яму-сметніцу па пластах (нумарацыя пластоў захоўвалася). Яма знаходзілася пад будаўнічым развалам, мела дыяметр 2,1 м. Запаўненне — слой чорнага колеру з вялікай колькасцю знаходак. Асабліва шмат птушыных костак. Час выкарыстання сметніцы — канец 16—першая палова 17 ст.

У пласце 5 (верхні пласт з ямы) сабрана вялікая колькасць сталовага посуду (гаршкі, рынкі, кубкі, друшлагі і інш.). Варта адзначыць фрагменты паліхромнага маёлікавага распіснога посуду, асабліва блюды і талеркі. Кафлі няшмат, што цалкам лагічна, бо ў яму скідвалі штодзённа смецце ў невялікіх аб'ёмах, а кафлю пад час рамонту печак выкідвалі, як мы ведаем, праз вокны. Знойдзены фрагмент паліхромнай кафлі-каронкі з лічбай 3 (частка даты 1583 г.), фрагменты зялёнапаліваных кафляў з геаметрычным і раслінным арнаментам. Цікавыя знаходкі шкляных вырабаў: ніжняя частка шкляніцы з цэлым паддонам, ножка ад келіха і ручка ад збана ці кубка.

Пласт 6 складае чорная зямля з будаўнічым смеццем, шмат касцей. Асноўная маса знаходак — гэта сталовы керамічны посуд: ёсць цэлыя профілі непаліваных і зялёнапаліваных начынняў, шмат фрагментаў паліхромных распісных начынняў (яўна з гаспадарскай княскай сервіроўкі), фрагменты вохрыстай, зялёнапаліванай, у тым ліку ручкі збаноў ці кубкаў, і непаліванай керамікі. Ёсць фрагменты шкляніц і іншых шкляных начынняў. Вельмі мала кафлі — усяго некалькі фрагментаў, пакрытых зялёнай палівай, з геаметрычным і раслінным арнаментам ды фрагмент паліхромнай каронкі з датай 1583 г. Сярод знаходак таксама шпора з колцам.

Пласт 7. Чорная зямля з будаўнічым смеццем, сустракаецца гнілое дрэва, відавочна, ад дошак, якім і была абшыта яма. Знойдзена некалькі фрагментаў паліхромнай кафлі з раслінным арнаментам, а таксама паліваная кераміка зялёнага, жоўтага колераў, дымленая і непаліваная кераміка канца 16—17 ст. Варта адзначыць вялікі фрагмент зялёнапаліванай патэльні-рынкі, зялёнапаліванай салонкі (поўны профіль) і некалькі фрагментаў распіснога посуду.

Пласт 8. Запаўненне аналагічнае папярэднім пластам. У сцяне расчышчаны прамакутны праём, абкладзены цэглай, вывад смеццеправода.

Гэта азначае, што з самага пачатку існавання смеццеправод быў выведзены на ўзровень, ніжэйшы за ўзровень мацерыка прыблізна на 0,6 м. Знаходкі: некалькі фрагментаў паліхромнай кафлі, шкляных начынняў (адзін з надпісам), фрагмент непаліванай кафлі з арнаментам «луска рыбы» і непаліваная кераміка канца 16—пачатку 17 ст.

Пласты 9—11. Чорны слой з будаўнічым смеццем. Знаходкі: некалькі фрагментаў паліхромнай кафлі (у тым ліку з выявай грыфона), фрагменты зялёнапаліванай кафлі з раслінным арнаментам, паліваная (жоўтая) і непаліваная кераміка канца 16—17 ст. У пласце 11 выяўлена касцяная ручка нажа.

Пласт 12. Чорны слой змешаны са смеццем. Шмат знаходак: фрагмент гзымсавай кафлі з выявай анёлаў і арлоў, фрагмент паліхромнай каронкі з датай, зялёнапаліваная кафля з раслінным арнаментам, гарлавіна шкляной бутлі, ручка шклянога начыння, фрагменты распісных місак, зялёна-жоўтапаліваная кераміка, непаліваная кераміка.

Каля вусця смеццеправода расчышчаны камяні, якія ляжалі паўкругам.

Пласт 13. Будаўнічае смецце. Яма паступова звужваецца і ніжняя частка яе абкладзена каменнямі. Знаходак мала: некалькі фрагментаў паліхромнай кафлі з раслінным арнаментам і непаліваны посуд 16—пачатку 17 ст. Глыбей 13-га пласта яму не выбіралі з-за аварыйнага стану мацаванняў сценак шурфа.

Вывучэнне стратыграфіі культурнага слою замка дазволіла зрабіць наступныя высновы.

1. Культурны слой Мірскага замка складаецца з наслаенняў пераважна светла-шэрага колеру, перамешаных з бітай цэглай, дахоўкай, вапнай, глінай, пяском, каменнямі і г. д. Розныя праслойкі адрозніваюцца між сабой ступенню насычанасці будаўнічымі рэшткамі. Даволі рэдка сустракаюцца адносна чыстыя лінзы зямлі светла-шэрага і цёмна-шэрага колеру. Выдзелены праслойкі пачатковага будаўніцтва (мяжа 15—16 стст.), узвядзення палаца ў канцы 16—пачатку 17 ст., рамонту палаца ў другой палове 17 ст.

2. Таўшчыня слою вагаецца ад 0,2—0,3 м каля валоў да 2 м каля сценаў замка і ў паўднёва-заходняй частцы двара. Замкавы двор пастаянна прыбіраўся, таму таўшчыня наслаенняў тут нязначная.

3. У стратыграфічных адносінах найбольш перспектыўнымі аказаліся раскопы каля паўночнай сцяны і ўязной вежы. Каля паўднёвай і заходняй сценаў у слоі шмат перакопаў, а каля ўсходняй сцяны наслаенні амаль цалкам зрэзаны ў пачатку 20 ст. і выкарыстаны для падсыпкі курціны.

4. У некалькіх месцах прасочаны слой, пакінуты паселішчам другой паловы—канца 15 ст., якое існавала да пабудовы замка і загінула пад час пажару.

5. Археалагічнымі даследаваннямі амаль поўнасцю вывучаны ўчасткі, што прылягаюць да замкавых сценаў звонку (каля 80% слою), а таксама валы і бастыёны земляных умацаванняў 16—17 стст.

## СЯРЭДНЯВЕЧНЫ ГОРАД

Археалагічныя даследаванні мястэчка Мір ахапілі амаль усю тэрыторыю гэтага сярэднявечнага горада і вяліся ў асноўным з дапамогай шурфоў. Гэта выклікана спецыфікай помніка, а менавіта інтэнсіўным

жыццём паселішча і наяўнасцю шчыльнай сучаснай забудовы. Усяго закладзена 32 шурфы, 3 раскопы і 4 траншэі агульнай плошчай каля 316 кв. м. У даследчыкаў узніклі цяжкасці з выбарам месцаў, акрамя таго, у культурным слоі маюцца шматлікія перакопы. Усё ж у выніку некалькіх гадоў даследаванняў удалося скласці агульнае ўяўленне аб культурным пласце паселішча: яго плошчы, магутнасці, стратыграфіі, характары археалагічнага матэрыялу. Высветлены таксама асаблівасці фарміравання культурнага слою ў асобных частках сярэднявечнага паселішча, сувязь гэтых асаблівасцяў з тапаграфіяй пасялення (размяшчэннем вуліц, абарончых умацаванняў).

Ведаючы ўласцівую ўсім беларускім гарадам заканамернасць у адкладанні культурнага слою, мы атрымалі магчымасць дакладна выбіраць аптымальныя месцы для раскопак, а таксама рабіць высновы аб планіроўцы сярэднявечнага горада.

Культурны слой гарадскога пасёлка Мір залягае нераўнамерна, ён мае таўшчыню ад 1 м (на агародах яшчэ менш) да 3,5 м і складаецца з трох асноўных напластаванняў.

1. Найстаражытнае, чорнага колеру таўшчынёй ад 0,4 да 0,9 м. Яно выяўлена ў цэнтры каля плошчы на поўнач і захад ад яе. Залягае на мацерыковым жоўтым пяску. Датуецца 15—16 стст. У раскопе I у ніжніх пластах гэтага слою знойдзена кераміка канца 14—пачатку 15 ст.

2. Над чорным слоем залягае цёмна-шэры пласт магутнасцю ад 0,15 да 1 м. У ім сустракаюцца праслойкі пяску і гліны. Асноўная маса знаходак належыць да 16—17 стст. Гэта вялікая колькасць бытавой керамікі, кафля, шкляныя, металічныя вырабы, дахоўка, цэгла-пальчатка. На ўчастках, аддаленых ад плошчы, гэты пласт залягае адразу на мацерыку.

3. Самы верхні пласт светла-шэрага колеру, прасочаны на глыбіню ад 0,6 да 1,45 м. У ім шмат праслоек гліны, пяску, бітай цэглы. На ўзроўні мяжы паміж светла- і цёмна-шэрым слаямі часта трапляюцца рэшткі каменных брукавак. Адразу пад дзірваном у многіх месцах выяўлена брукоўка канца 19—пачатку 20 ст. Знаходкі з гэтага пласта датуюцца другой паловай 17—20 ст. Гэта непаліваны і паліваны бытавы посуд, кафля, вырабы з металу, шкляны посуд.

Уяўляе цікавасць стратыграфія з шурфа 1, закладзенага на месцы былой гандлёвай плошчы. Тут выяўлена 4 слоі каменных брукавак розных часоў. Апішам стратыграфію шурфа падрабязней.

Вылучаны чатыры асноўныя пласты.

1. Светла-шэры слой таўшчынёй 0,4—0,6 м з бітай цэглай і каменнямі. Датуецца фрагментамі керамічнага посуду і цэглы 19—20 стст. На глыбіні 0,2—0,3 м прасочана праслойка бітай цэглы, вапны, змешаных са светла-шэрым слоем. Відавочна, гэта сляды развалу будынкаў канца 19—пачатку 20 ст. Кераміка з праслойкі датуецца 19—пачаткам 20 ст. Пад праслойкай залягае каменная брукоўка таго ж часу — на каменнях знойдзена кераміка 19 ст.

2. Цёмна-шэры слой з кавалкамі бітай цэглы, таўшчыня 0,2—0,4 м, па кераміцы і фрагментах цэглы датуецца 19 ст.

3. Слой бітай цэглы, вапны, жоўтага пяску таўшчынёй 0,05—0,15 см. Месцамі ён знікае, месцамі пад ім прасочаны светла-шэры слой. Ніжэй выяўлены рэшткі брукоўкі. Кераміка — 19 ст.

4. Цёмна-шэры культурны слой таўшчынёй 0,4—0,6 м з нязначнымі праслойкамі суглінку. У ім выяўлена яшчэ адна брукоўка (пласт 5), а ў пластах 6—7 зафіксавана група камянёў на адным узроўні, магчыма,

таксама рэшткі брукоўкі. Керамічны посуд з пласта датуецца 17—18 стст. Мур у паўночным профілі ўяўляе сабой развал будынка 19 ст.

У 1988 г. намі была праведзена прарэзка часткі вала, які акружаў паселішча з поўначы. Яго стратыграфія апублікавана [4].

Назіранні за стратыграфіяй культурных напластаванняў у замку і мястэчку паказваюць адначасовасць, амаль што сінхроннасць іх утварэння.

Агульныя заканамернасці назіраюцца не толькі ў паслядоўнасці змены пластоў, але і ў іх колеры.

Сам жа характар знаходак з выяўленых пластоў у замку і мястэчку пацвярджае толькі розны сацыяльны статус жыхароў замка і мястэчка.

Такім чынам, культурны слой гарадскога пасёлка Мір, паводле даных раскопак, пачаў фарміравацца з канца 14 ст. Матэрыялы гэтага часу знойдзены толькі ў адным месцы — побач з перакрыжаваннем асноўных вуліц — дарог за будынкам пасялковага Савета. У 15 ст. паселішча павялічылася — наслаенні гэтага часу акрамя тэрыторыі замка выяўлены яшчэ на паўночны ўсход ад касцёла. Найбольш інтэнсіўна і на самай вялікай плошчы назапашванне культурнага слою адбывалася ў другой палове 16—першай палове 17 ст.

Гарадскія сядзібы 16—19 стст., якія мелі форму, блізкую да выцягнутага прамакутніка, вельмі шчыльна стаялі адна да другой і вузкім бокам выходзілі на лінію вуліцы. Каля самай вуліцы стаялі дамы, за імі знаходзіліся падворкі (месца адкладання асноўнага культурнага пласта), далей углыбіні знаходзіліся агароды, дзе слой амаль адсутнічае. Паколькі дамы і падворкі размяшчаліся амаль на адной лініі, сфарміравалася суцэльная паласа культурнага слою шырынёй каля 10—12 м (даўжыня падворка), якая залягае паралельна вуліцы на адлегласці 6—10 м ад яе. Каля самай вуліцы, дзе стаялі (і зараз стаяць) дамы, слой нязначны і моцна перамешаны ямамі пад падмуркі.

[4] Краўцэвіч А. К., Якшук Г. М. Стары Мір. С. 44—45.

3. Зак. 542

# КЕРАМІЧНЫ ПОСУД

Аб'ектам даследавання з'яўляецца бытавы посуд з тэрыторыі замка і мястэчка, атрыманы пад час археалагічных раскопак 1980—1991 гг. Храналагічна ён укладваецца ў рамкі другой паловы — канца 15—18 ст. Намі разглядаўся як непаліваны, так і паліваны і дымлены посуд (у апошнім вылучаецца невялікая колькасць глянцаванага посуду). Матэрыял класіфікаваны ў адпаведнасці з фармальна-тыпалагічным метадам. Пры вызначэнні тэхналогіі вытворчасці і характару фармовачнай масы, тэмпературнага рэжыму і якасці абпалу, характару апрацоўкі паверхняў, спосабу фармоўкі акрамя візуальных назіранняў часткова выкарыстоўваліся даныя петраграфічнага аналізу начыння.

Назвы відаў посуду падаюцца ў адпаведнасці з этнаграфічнымі даными і з ганчарнай тэрміналогіяй, характэрнай для тэрыторыі Беларусі.

Усяго апрацавана каля 20 тысяч фрагментаў венцаў, сценак і донцаў начыння. Суадносіцца колькасць донцаў, венцаў і сценак як 1:1, 5:3. Колькасць дымленага, паліванага і непаліванага посуду суадносіцца як 1:1, 1:1,8. Сярод непаліваных венцаў на матэрыял 16 ст. прыпадае каля 29%, 17 ст.— больш 38,5 і канца 17—18 ст.— каля 32,5% фрагментаў.

Па складу фармовачнай масы ўвесь непаліваны посуд падзяляецца на 5 груп (мал. 34).

**Група 1.** Гаршкі зроблены з фармовачнай масы з дамешкамі жарствы сярэдняй велічыні (0,2—0,3 см). Злом зярніста-порысты, кавалкі жарствы вытыркаюцца на паверхню. На частцы начыння добра бачныя сляды абточвання (абразання) паверхні драўляным нажом. Таўшчыня сценак гаршкоў ад 0,6 см у верхняй частцы да 1 см у прыдоннай. Донцы на падсыпцы жарствы той жа велічыні, дыяметр іх укладваецца ў інтэрвал пераважна ад 10 да 14 см. Мяркуючы па наяўнасці цёмнай сарцавіны і плямаў на паверхні, абпал нераўнамерны і недастатковы, што аб'ядноўвае начынне гэтай групы з гаршковай кафляй. Каля 3% фрагментаў маюць сляды абварвання знутры ці знутры і звонку. Вывучэнне слядоў на паверхні начыння, назіранні за таўшчынёй сценак на зломе на ўсім працягу начыння, а таксама слядоў на ўнутранай і вонкавай паверхні донца ўпэўніваюць у тым, што начынні гэтай групы фармаваліся на ручным крузе спіральна-стужкавым способам. Потым паверхня абточвалася з дапамогай драўлянага нажа і мокрай скуркі ці анучы. Па форме да групы 1 належаць гаршкі тыпу I.

*Тып I.* Да яго аднесены гаршкі, якія маюць нізкую (ад 0,2 да 0,4 см) шыйку і адагнуты пад вуглом 30—45° край доўгага венца. Падзяляецца на 3 варыянты.

Варыянт А. Начынні маюць закруглены край венца. Шыйка пераходзіць у плячук праз выразнае рабро (мал. 34).

Варыянт Б. Рабро ў месцы пераходу шыйкі ў плячук адсутнічае, але з унутранага боку па венцы праходзіць шырокі раўчук.

Варыянт В. У гаршкоў гэтага варыянта, нягледзячы на кароткае венца, прынцыпы формаўтварэння тыя ж.

Акрамя фрагментаў знойдзены два цэлыя гаршкі гэтага тыпу (мал. 36 : *1*, *2*). Абодва яны адносяцца да гаршкоў так званага адкрытага тыпу (гэта значыць, дыяметр венца іх большы за дыяметр донца). Вышыня аднаго з іх 17,5 см пры дыяметры венца 18 см і донца 14,5 см. Памеры другога — адпаведна 15, 15 і 12,5 см. Найбольшы дыяметр тулава знаходзіцца ў верхняй трэці вышыні гаршка.

Акрамя гаршкоў тыпу I да першай групы, згодна з характарам фар-

мовачнай масы, адносяцца фрагменты гаршкоў з S-падобным профілем, што былі знойдзены ў слоі дазамкавага паселішча ў раскопе 5 (мал. 30 : *68—70*), а таксама цэлы і амаль цэлы (мал. 36 : *3*) гаршкі з выразнымі плечукамі з раўчуком па ўнутраным краі венца, знойдзеныя разам з фрагментамі гаршкоў тыпу I.

**Група 2.** Да яе адносяцца начынні, якія таксама маюць дамешкі жарствы ў фармовачнай масе, але яна больш дробная. Сама маса добра вымешаная, на зломе шчыльная. Фрагментаў з цёмнай сарцавінай амаль не сустрэта, паверхня добра загладжаная. Па тэхніцы фармоўкі яны аналагічныя начынням групы 1. Па форме да іх адносяцца гаршкі тыпаў II—III.

*Тып II.* Гаршкі гэтага тыпу адрозніваюцца ад папярэдняга адсутнасцю рабра на плечуку, а таксама больш тонкім чарапком.

Варыянт А. Край венца крыху патончаны за кошт шырокага неглыбокага равочка знутры па краі венца дыяметрам 17—20 см.

Варыянт Б. Злёгку адхіленае венца мае закруглены край. Дыяметр яго ад 18 да 23 см.

Варыянт В. Край венца мае ледзь заўважныя равочкі з двух бакоў. Дыяметр венца ад 13 да 17 см, аднак пераважаюць начынні з дыяметрам 13—14 см.

*Тып III.* Асноўная рыса гаршкоў гэтага тыпу — поўная адсутнасць шыйкі і перамяшчэнне найбольшага дыяметра тулава амаль пад венца (мал. 34, тып III). Плечукі ў гаршкоў вузкія і пакатыя.

Варыянт А. Гаршкі маюць амаль гарызантальна адагнутае венца з коса зрэзаным краем (мал. 34). Пераважаюць начынні з дыяметрам венца 16—18 см.

Варыянт Б. Начынні не маюць шыйкі; моцна адагнуты край венца зрэзаны амаль вертыкальна. Край венца крыху танчэйшы за кошт раўчука знутры па ім. Мяркуючы па дыяметры венца (пераважна ад 12 да 15 см), гаршкі былі невялікімі па памеры.

Варыянт В. Да яго аднесены гаршкі з адхіленым коса зрэзаным венцам, знешні край якога патончаны і злёгку адцягнуты ўгару (мал. 34). Пераважаюць гаршкі з дыяметрам венца ад 14 да 17 см.

**Група 3.** Начынні, аб'яднаныя ў гэтую групу, маюць у фармовачнай масе дамешкі пераважна пяску, хоць не выключаны нязначныя дадаткі дробнай жарствы. На зломе чарапок зярністы, але шчыльны. Абпал раўнамерны, фрагменты з цёмнай сарцавінай сустракаюцца як выключэнне. Таўшчыня сценак пераважна 0,6—0,7 см. Па форме да гэтай групы адносяцца гаршкі тыпаў IV—VII і X (мал. 34).

*Тып IV.* Характэрная рыса гаршкоў гэтага тыпу — наяўнасць выразнага ўступа пры пераходзе вузкіх, пакатых плечукоў у тулава (мал. 34). Характэрная рыса апрацоўкі начынняў — наяўнасць плямаў абвары на трэці фрагментаў.

Варыянт А. Да яго аднесены гаршкі без шыйкі, з выразным рабром на палогім плечуку і гарызантальным зрэзам венца (мал. 34, тып IV-А). Дыяметр венца 12—15 см.

Варыянт Б. Адрозніваецца ад папярэдняга наяўнасцю невысокай плаўна загнутай шыйкі і закругленым краем венца дыяметрам 15—17 см.

Варыянт В. Адрозніваецца ад папярэдняга коса абрэзаным краем венца дыяметрам ад 14 да 17 см. Формай верхняй часткі нагадваюць гаршкі канца 15—16 ст., але чарапок больш тонкі і з іншай фармовачнай масы.

*Тып V.* Наяўнасць рабрыны пры пераходзе плечука ў тулава, а таксама форма саміх плечукоў нагадваюць гаршкі папярэдняга тыпу. Адрозніваюцца ж яны формай краю венца.

Варыянт А. Начынні ўяўляюць сабой патоўшчаны валік, рабрысты знутры. Знешні край яго вертыкальна прыўзняты. Дыяметр венца найчасцей ад 13 да 15 см, хоць крайнія зафіксаваныя памеры — 11 і 20 см.

Варыянт Б. Гаршкі адрозніваюцца больш масіўным закругленым венцам дыяметрам пераважна ад 14 да 16 см (максімальны дыяметр 18 см).

Варыянт В. Гаршкі маюць ледзь заўважную рабрынку на ўнутранай паверхні венца з дыяметрам, аналагічным папярэднім.

*Тып VI.* Начынні гэтага тыпу, асабліва яго варыянта А, афармленнем краю венца нагадваюць гаршкі папярэдняга тыпу, аднак іх пакатыя плечукі не маюць рабра (мал. 34). Разам з фрагментамі гаршкоў гэтага тыпу знойдзены загладжаныя звонку донцы дыяметрам 14—15 см. Амаль што ўсе фрагменты маюць плямы ад абвары на знешняй і ўнутранай паверхні.

Варыянт А. Начынні не маюць шыйкі, край венца аформлены ў выглядзе падвойнага рабра, а знешні борцік вертыкальна прыўзняты. Дыяметр венцаў укладваецца ў інтэрвал ад 10 да 15 см, аднак у асобных фрагментаў дасягае 20 см.

Варыянт Б. У гаршкоў гэтага варыянта шырокія палогія плечукі плаўна пераходзяць у тулава. Край венца крыху завостраны.

Варыянт В. У адрозненне ад начыння папярэдняга варыянта мае закруглены край венца. Дыяметр іх пераважна 16—18 см.

*Тып VII.* Характэрная асаблівасць формы гаршкоў гэтага тыпу — пакатыя плечукі і амаль прамакутны ў разрэзе край венца (мал. 34). На больш чым 2/3 фрагментаў добра бачныя сляды абвары. На плечуках некаторых з іх чытаецца ледзь заўважная рабрына.

Варыянт А. Невялікае прамакутнае венца пасаджана проста на плячук і коса зрэзана. Дыяметры венцаў гаршкоў 17—18 см.

Варыянт Б. Унутраная паверхня венцаў крыху скругленая, у астатнім гаршкі аналагічныя папярэднім. Дыяметры венцаў — ад 14 да 16 см, знойдзены венцы і дыяметрам 20 см.

Варыянт В. Да яго аднесены танкасценныя начынні з гарызантальна зрэзаным краем з дыяметрам венцаў 12—15 см.

*Тып X.* Да гэтага тыпу аднесены гаршкі з высокай (2—2,5 см) амаль цыліндрычнай шыйкай, што плаўна пераходзіць у крутыя плечукі. На частцы гаршкоў зафіксаваныя ручкі, якія мацаваліся да краю венца і найбольшага дыяметра тулава.

Варыянт А. Характэрная рыса начыння гэтага варыянта — наяўнасць равочкаў знутры і звонку крыху ніжэй краю венца.

Варыянт Б. Венца неаддзеленае, яно — прамы працяг шыйкі, край яго закруглены.

Варыянт В. Начынне гэтага варыянта мае злёгку адхіленае венца, часам ледзь заўважнае рабро на плечуку. Край венца таксама закруглены.

**Група 4.** Да яе аднесена начынне тыпу VIII з добра перамешанай тонкадысперснай масы. У ёй праглядваюцца дамешкі пяску, але ён можа быць і натуральным кампанентам прыроднай сыравіны. Амаль што на ўсіх фрагментах выяўлены плямы ад абвары. Характэрная асаблівасць гаршкоў гэтага тыпу — наяўнасць шырокай невялікай ручкі з раўчуком пасярэдзіне, што мацавалася да краю венца і найбольшага дыяметра тулава (мал. 38).

Варыянт А. Гаршкі гэтага варыянта завяршаюцца злёгку нахіленым унутры патоўшчаным венцам. Часам унутры па краі венца праходзіць шырокі неглыбокі раўчук.

Варыянт Б. Да яго аднесены гаршкі з высокай прамой шыйкай і трохкутным у разрэзе патаўшчэннем на венцы. Дыяметр венца ад 15 да 20 см.

Варыянт В. Начынні варыянта В маюць валікападобнае патаўшчэнне на венцы, дыяметр якога пераважна 18—22 см.

Варыянт Г. Па афармленні краю венца гаршкі гэтага варыянта аналагічныя варыянту Б, аднак шыйка ў іх значна меншая і плечукі крутыя. Мяркуючы па малым дыяметры венца (11—15 см), гаршкі былі невялікія.

Паводле фрагментаў донцаў, знойдзеных разам з венцамі тыпу VIII, яны мелі дыяметр 11 і 14 см, аднак сустракаліся донцы памерам 15 і 17 см. Таўшчыня сценак не перавышала 0,5 см. Як бачна па слядах зразання звонку на донцы, гаршкі цалкам выцягнуты на нажным крузе.

**Група 5.** У яе аб'яднаны гаршкі, зробленыя з чырвона-карычневай фармовачнай масы без дамешак. Чарапок на зломе аднародны, кампактны. Нязначная частка іх таксама мае сляды абвары на сценках.

Да гэтай групы аднесены гаршкі тыпу IX. Яны маюць крутыя плечукі і кароткае вертыкальнае ці адагнутае вонкі венца (мал. 34, тып IX).

Варыянт А. Гэта гаршкі з плаўна адагнутым венцам, край якога крыху патончаны. Дыяметр венца невялікі — 11—13 см.

Варыянт Б. Гаршкі гэтага варыянта адрозніваюцца злёгку адхіленым венцам, прамакутным у разрэзе. Дыяметр венца таксама невялікі — пераважна 12—13 см.

Варыянт В. Гаршкі па форме нагадваюць варыянт А, аднак маюць больш кароткае, злёгку адагнутае венца. Дыяметр гаршкоў па памерах аналагічны папярэднім.

Суадносіны паміж выдзеленымі тыпамі непаліваных гаршкоў у абсалютных лічбах у розныя гады адрозніваліся. Гэта залежала ад месцазнаходжання даследаванага ўчастка, насычанасці культурнага слою знаходкамі, ад перавагі матэрыялаў таго ці іншага часу ў раскопе. Аднак працэнтныя суадносіны паміж тыпамі захоўваліся прыкладна аднолькавыя. Уяўленне пра іх дае табліца, пабудаваная паводле матэрыялаў з раскопаў 1984 г.

Датаванне выдзеленых тыпаў гаршкоў базіруецца на назіраннях над размеркаваннем іх па пластах у раскопах. Улічваліся таксама матэрыялы з выяўленых комплексаў у раскопах 5, 33.

Матэрыялы канца 15 — пачатку 16 ст. добра вылучаліся па знаходках са слою дазамкавага паселішча.

Стратыграфічна самымі раннімі з'яўляюцца гаршкі з мацерыковай ямы, што побач з развалам печы ў раскопе 5. Яны мелі S-падобны профіль і коса зрэзаны край венца (мал. 30 : *68—70*). Падобнае начынне на тэрыторыі Польшчы ўжывалася ў 15 ст.[1] Верагодна, у нас гэтыя матэрыялы належаць да часу існавання выяўленай у раскопе 5 пабудовы, а кераміка з развалу печы (мал. 34: тып I; 36 : *3*) адпавядае моманту яе разбурэння (канец 15 — пачатак 16 ст.). Самыя раннія матэрыялы, што адносяцца да перыяду будаўніцтва і функцыянавання замка (працягваюць ужывацца гаршкі тыпу I, але пераважаюць начынні тыпу II, по-

[1] Historia kultury materialnej Polski w zarysie. Warszawa; Wrocław; Kraków; Gdańsk. 1978. T. II. S. 269. Z. 192e; Mikołajczyk A. Naczynia datowane skarbami monet XIV—XVIII w. na ziemiach Polskich. Warszawa; Wrocław; Kraków; Gdańsk. 1977. S. 181. Tabl. XXIV, 4.

| Тыпы | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X | Усяго венцаў гаршкоў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Кавалкі | 77 | 48 | 22 | 33 | 57 | 75 | 106 | 524 | 29 | 50 | 1021 |
| % | 7,5 | 4,7 | 2,2 | 3,2 | 5,6 | 7,4 | 10,4 | 51,3 | 2,8 | 4,9 | 100 |

бач з якімі знаходзім фрагменты гаршкоў тыпу III), лакалізуюцца ў раскопе 5 крыху вышэй слою развалу печы, у перадмацерыковых пластах, у шурфах і раскопах пад уязной брамай і на захад і поўнач ад замка.

Гаршкі тыпу III з'яўляюцца даволі частай знаходкай для слаёў 16 ст. з іншых беларускіх гарадоў, а таксама з акаляючай Беларусь тэрыторыі [2].

Гаршкі тыпаў IV—VII сустракаюцца ў адных і тых жа пластах, разам з рамачнай кафляй 17 ст. У заходнім рэгіёне Беларусі адметнай рысай большасці непаліваных гаршкоў гэтага часу з'яўляецца адсутнасць шыйкі, што добра пацвярджаецца на прыкладзе матэрыялаў з Мірскага замка.

Начынні тыпаў VIII і IX, што часам мелі петлепадобную ручку, з'яўляюцца не раней сярэдзіны — другой паловы 17 ст. і сустракаюцца яшчэ і ў 18 ст.

У самых верхніх пластах раскопаў і шурфоў пераважаюць гаршкі тыпу IX, што суіснуюць тут з гаршкамі тыпаў VIII і X.

Фрагменты гаршкоў усіх выдзеленых тыпаў, за выключэннем тыпу IX, знойдзены і на тэрыторыі мястэчка (мал. 37). Сярод матэрыялаў 16 ст. пераважаюць гаршкі тыпу II, а сярод гаршкоў 17 ст. найбольш фрагментаў тыпаў V і VII. Сярод гаршкоў тыпу VIII акрамя фрагментаў прысутнічае цэлае начынне з ручкай-вухам (мал. 36 : *4*). Яно мела вышыню 17,5 см. Другі цэлы гаршчок па форме і прафілёўцы верхняй часткі паўтарае шырока распаўсюджаныя ў мястэчку дымленыя гаршкі 17 ст. (мал. 36 : *5*). Мяркуючы па матэрыялах з розных шурфоў і раскопаў у мястэчку, працэнтныя суадносіны паміж асобнымі тэхналагічнымі групамі посуду неаднолькавыя. Прыкладам, колькасць непаліваных фрагментаў вагаецца ад 1/3 да амаль што 1/2 агульнай колькасці посуду. Назіранні паказваюць, што працэнт паліванага посуду пры гэтым застаецца стабільным (у межах 34—39% ад агульнага аб'ёму кавалкаў посуду). Моцныя ваганні (да 10%) мае і доля дымленых фрагментаў. Простае назіранне ўпэўнівае нас у тым, што яна найменшая ў пластах з матэрыяламі канца 16—17 ст. і найбольшая ў пластах 18—19 стст. Гэтая ж заканамернасць пацвярджаецца і на матэрыялах з замка.

Разам з гаршкамі тыпу I у раскопах сустракаюцца макотры з гарызантальна ці коса зрэзаным краем венца (мал. 40 : *1*, *2*; 39 : *1*). Начынні мелі цыліндрычную (мал. 40 : *1*, *2*) ці ўсечана-канічную форму (мал. 39 : *1*). Усе макотры мелі наляпны валік прамакутнай ці трохкутнай формы на адлегласці 2—4,5 см ад краю венца. Акрамя таго, тулава да самага донца ўпрыгожвалася глыбокімі рыфленымі стужкамі (мал. 39 : *7*; 40 : *1*).

Адначасова з такімі макотрамі ўжываюцца начынні ўсечана-канічнай формы з плаўна адагнутым краем у верхняй частцы (мал. 39 : *4*). Яны таксама ўпрыгожваліся наляпным валікам з рэльефным афармленнем

[2] Штыхов Г. В. Древний Полоцк. Мн., 1975. Рис. 40; Кирпичников А. Н. Древний Орешек. Л., 1980. С. 37. Рис. 30.

(мал. 41). Частка макотраў мела сляды абвары. Характэрная рыса ўсіх вышэйапісаных макотраў — масіўнасць. Яна дасягаецца як за кошт памераў (дыяметр венца пераважна ад 25 да 25—40 см пры вышыні звыш 15 см), так і за кошт таўшчыні сценак (як правіла, яна перавышае 1 см, а ў прыдоннай частцы дасягае 1,5 см).

Разам з матэрыяламі 16 ст. сустракаюцца макотры яшчэ двух тыпаў: са знешнеасіметрычным венцам і равочкам знутры па яго краі (мал. 39 : *3*) і з коса зрэзаным унутр краем (мал. 39 : *5*). Як і папярэднія начынні, яны ўпрыгожаны ці наляпным валікам, ці адначасова і валікам і рыфленнем.

Макотры 17 ст. губляюць сваю масіўнасць і амаль не арнаментуюцца (мал. 39 : *2*). На некаторых ёсць ледзь заўважныя хвалістыя стужкі (мал. 39 : *6*) ці тонкі рэльефны валік пад венцам (мал. 39 : *8*). Форма іх тулава, як правіла, авальная, а не канічная. Сярод матэрыялаў з мястэчка таксама ёсць фрагменты макотраў з авальным тулавам [3].

Яшчэ адным відам непаліванага кухоннага начыння з'яўляюцца латкі. Па форме тулава яны падзяляюцца на два тыпы. Латкі першага тыпу былі ўсечана-канічнай формы глыбінёй 3—3,5 см і мелі прымацаваную з аднаго боку полую ручку-дзяржальна (мал. 40 : *4*, *5*; 42). Гэты від посуду ў 16—17 стст. быў распаўсюджаны ў заходнім рэгіёне Беларусі. Вельмі шмат фрагментаў такіх латак знойдзена ў Крэўскім замку, ёсць яны ў Лідскім і Гродзенскім замках [4].

Латкі другога тыпу формай тулава нагадваюць гаршкі адкрытага тыпу ці міскі з піялападобным тулавам (мал. 40 : *6*, *7*). Самыя раннія фрагменты такіх латак, знойдзеныя разам з гаршкамі тыпаў I—II, мелі выразны плячук, упрыгожаны хвалістым арнаментам, невялікую плаўна выгнутую шыйку і коса зрэзанае венца. Латкі 17 ст. найчасцей маюць масіўнае знешнеасіметрычнае рабрыстае венца (мал. 40 : *7*) або злёгку адагнутае закругленае, што нагадвае венца гаршкоў (мал. 40 : *6*).

Аналагі латкам першага тыпу ёсць сярод матэрыялаў са Старога замка ў Гродне. А ў цэлым знаходкі непаліваных латак як усечана-канічнай формы, так і з піялападобным тулавам сярод матэрыялаў з замка — даволі рэдкая з'ява, а ў мястэчку іх знойдзены адзінкі.

Гэта датычыцца і непаліванага сталовага посуду, а таксама кубачкаў (начыння для піцва) як з замка, так і з мястэчка. Па форме яны паўтараюць адначаснае паліванае (мал. 40 : *3*, *8*, *10*, *11*) (мяркуючы па матэрыялах з замка) ці дымленае начынне (што добра бачна на прыкладзе местачковай керамікі).

Сярод тарнага посуду 19 — пачатку 20 ст. з замка ёсць чырвонагліняны гладыш з глянцаванай знешняй паверхняй. Местачковыя тарныя начынні 17—18 стст. (мал. 40 : *9*) паўтараюць форму дымленых. Гэта прысадзістыя гладышы вышынёй каля 25 см з дыяметрам венца 14—15 см.

Побач з фрагментамі непаліванай керамікі, прызначэнне якіх не выклікае сумненняў, у калекцыі ёсць кавалкі непаліванага начыння з не зусім зразумелымі функцыямі. У раскопе 31 разам з матэрыяламі канца 16 — пачатку 17 ст. знойдзены чатыры фрагменты ніжняй часткі начыння цыліндрычнай формы са шматлікімі адтулінамі дяметрам 2—4 мм у донцы (мал. 43). Адтуліны прароблены пад час фармоўкі па сырой глі-

---

[3] Краўцэвіч А. К., Якшук Г. М. Стары Мір. Мн., 1993. Мал. 12 : 10.

[4] Трусаў А. А., Собаль В. Е., Здановіч Н. І. Стары замак у Гродне XI—XVIII стст. Мн., 1993. Мал. 63 : 5.

не. Знешняя паверхня донца старанна адгладжаная, у той час як унутраная засталася шурпатай. На сценцы начыння звонку ёсць зацёк зялёнай палівы.

Другі керамічны выраб прадстаўлены двума фрагментамі. Гэта начынне амаль цыліндрычнай формы, разрэзанае пры фармоўцы ўздоўж на дзве роўныя часткі (мал. 44). Венца начыння адагнута пад прамым вуглом.

Паліваны посуд займае другое месца па колькасці фрагментаў сярод усіх груп посуду. Калі гаварыць пра колькасныя суадносіны відаў посуду ўнутры гэтай катэгорыі знаходак, то першае месца займаюць гаршкі, затым талеркі, рынкі, міскі, макотры, збаны і посуд для пітва (кубкі, куфлі, бакалы).

Паліваныя гаршкі па форме верхняй часткі падзяляюцца на 5 тыпаў (мал. 45).

Да тыпу І адносяцца гаршкі з амаль прамым ці злёгку адхіленым венцам з шырокім неглыбокім равочкам знутры (мал. 45, тып І). Начынні танкасценныя, іх знойдзена найменш.

Сярод матэрыялаў 16 — пачатку 17 ст. прысутнічаюць гаршкі са складанапрафіляваным венцам, адагнутым вонкі пад вуглом да 30—40° (тып II). Аналагічныя па прафілёўцы начынні бытавалі ў другой палове 16—17 ст. у Літве [5].

Другое месца па колькасці фрагментаў сярод паліваных гаршкоў належыць начынням тыпу III — з прамой шыйкай і адной-дзвюма пракрэсленымі стужкамі звонку пад венцам (мал. 45, тып III). Гаршкі аднаго з варыянтаў гэтага тыпу (варыянт Б) маюць рабрысты валік ля аснавання шыйкі. Акрамя фрагментаў знойдзены цэлы гаршчок гэтага тыпу. Яго памеры: дыяметр венца 11 см, донца 8 см пры вышыні 15 см. Найбольшы дыяметр тулава 14 см. Унутраная паверхня гаршка паліта тонкім слоем зялёнай палівы, звонку да плечукоў і па ручцы нанесена карычнева-вохрыстая паліва.

Аналогіі гаршкам тыпу III знаходзім сярод матэрыялаў 16—17 стст. са Смаленска [6], шырока вядомы яны і на гарадзішчы Пуня ў Літве [7], такі ж посуд да сярэдзіны 17 ст. бытаваў у Польшчы [8].

У другой палове 17—18 ст. шырока распаўсюдзіліся гаршкі з каленападобным выступам знутры пры пераходзе шыйкі ў плячук са злёгку загнутым унутр краем (мал. 45, тып IV). Гэта — самы шматлікі тып сярод паліваных гаршкоў з замка. Пра жывучасць менавіта такой формы венцаў сведчыць аднačасны выраб і ўжыванне аналагічных дымленых гаршкоў, што будзе паказана крыху ніжэй.

Дыяметры венцаў паліваных гаршкоў пераважна ўкладаюцца ў інтэрвал 15—20 см, хоць ёсць і гаршкі з дыяметрам венца 11—12 см. Начынні 16 — сярэдзіны 17 ст. часта арнаментаваліся па плечуку разнастайнымі відамі геаметрычнага арнаменту з дапамогай калёсіка-штампа (мал. 46 : *1—4*; 47), хоць частка начынняў упрыгожана шматрадковым рыфленнем (мал. 46 : *5*). Арнамент найчасцей уяўляў сабой сетку з ячэек ці сетку ромбаў розных памераў, шматрадковыя зігзагападобныя стужкі, ёлачкі ці складаныя геаметрычныя фігуры, што аддзяляліся адна ад другой вертыкальнымі стужкамі. Гэты арнамент на чырванагліняных

---

[5] Volkaite-Kulikauskiene R. Punios Piliakalnis. Vilnius, 1974. Pav. V: 12.

[6] Сергина Г. В. Поливная посуда из Смоленска // СА. 1981. № 2. Рис. 2—3.

[7] Volkaite-Kulikauskiene R. Punios Piliakalnis. Pav. V.

[8] Mikołajczyk A. Naczynia datowane skarbami monet XIV—XVIII w. na ziemiach Polskich. Tabl. XXV.

гаршках аналагічны арнаментацыі белагліняных начынняў, адначасных ім (мал. 48). У сучасных беларускіх ганчароў такі спосаб арнаментацыі начыння называецца карбоўкай. Інструмент для выканання такога арнаменту ўяўляе сабой цыліндрык вышынёй 1—2 см з прарэзаным па ім арнаментам. Цыліндрык надзяваўся на дрот і «каціўся» па плечуку, горлу ці іншай прызначанай для арнаментацыі частцы начыння.

Паліваныя гаршкі, арнаментаваныя карбоўкай, у 16 — першай палове 17 ст. ужываліся насельнікамі Лідскага замка, Старога замка ў Гродне, шырока распаўсюджаныя яны ў гэты час на тэрыторыі Літвы і Польшчы.

На гаршках другой паловы — канца 17 і 18 ст. арнамент найчасцей увогуле адсутнічае. Гэта добра бачна на прыкладзе начынняў тыпаў IV і V.

Паліваныя гаршкі 16 — першай паловы 17 ст. часта мелі ручку-вуха шырынёй 1,5—2 см з раўчуком пасярэдзіне (мал. 46 : *4*, *5*). Мацавалася яна да краю венца і пераважна да найбольшага дыяметра тулава.

Для 18 ст. характэрны гаршкі без шыйкі з венцам рознай формы (мал. 45, тып V): з S-падобнымі профілямі ці з плаўна выгнутаю невысокаю шыйкаю і закругленым венцам, а таксама з ужо ўзгаданым каленападобным выступам знутры пад венцам.

Памеры донцаў паліваных гаршкоў звычайна ўкладаюцца ў інтэрвал 8—12 см, сценкі ў прыдоннай частцы або раўнамерна пашыраюцца, або начынні маюць пліткавы паддон.

Паліваныя гаршкі 16—17 стст. з мястэчка шмат у чым толькі паўтараюць форму адначасных гаршкоў з замка (мал. 46 : *6*, *7*, *9*), але істотна дадаюць інфармацыю пра посуд гэтага віду 18—19 стст. (мал. 46 : *8*; 49). Мы бачым, што побач з посудам з S-падобным профілем ужываюцца гаршкі з каленападобным выступам знутры на мяжы шыйкі і плечука. Колер палівы — пераважна карычневы. На рабрыстым плечуку ўжываецца арнамент у выглядзе насечак ці некалькіх рыфленых стужак.

Наступны від паліванага кухоннага посуду — рынкі (патэльні на трох ножках з ручкамі). Сярод матэрыялаў з замка выяўлены плыткія і глыбокія рынкі. Плыткія па глыбіні не перавышаюць 5—5,5 см, маюць утулкавую ручку (мал. 50, 52 : *3*—*5*). Глыбокія рынкі формай тулава нагадваюць цыліндрычныя ці ўсечана-канічныя місы глыбінёй да 15 см і маюць дзве петлепадобныя ручкі (мал. 51, 52 : *1*, *2*).

Самы ранні фрагмент рынкі адносіцца да канца 15 ст. (утулкавая ручка з плямай палівы была знойдзена ў развале дазамкавай пабудовы) (мал. 30 : *11*). Перыяд найбольшага іх распаўсюджання на Беларусі прыпадае на 16—17 стст. Мір — яскравае таму пацвярджэнне.

Па форме венца плыткія рынкі падзяляюцца на 5 тыпаў.

Тып I. Гэта рынкі з піялападобным тулавам і равочкам па ўнутраным краі венца (мал. 45).

Тып II. Рынкі маюць равочак звонку каля краю скругленага венца.

Тып III. Да яго адносяцца рынкі з вертыкальным борцікам і скругленым краем венца.

Тып IV. Гэта рынкі з піялападобным тулавам і адхіленым пад вуглом выразным венцам.

Тып V. Рынкі гэтага тыпу ўяўляюць сабой піялападобныя начынні, часта таўстасценныя, з простым абрэзам краю.

У рынак усіх вышэйзгаданых тыпаў ножкі канічнай або ўсечана-канічнай формы. У большасці начынняў завяршэнні ножак — у выглядзе трохграннай пірамiды. Толькі некаторыя ножкі абрэзаныя гарызанталь-

на. Вышыня іх ад 4 да 6 см, мацуюцца да тулава пад вуглом 120—135°.

Даўжыня і форма ўтулкавых выцягнутых ручак таксама разнастайныя. Побач з ручкамі ў выглядзе раструба (мал. 53 : *2*) часта сустракаюцца ручкі з падвойным валікам (мал. 53 : *1*) або падпраўленыя шматрадковым грабеньчыкам. Мацаваліся яны на злёгку падсушаным вырабе да краю венца або крыху ніжэй. Аналагічны посуд характэрны для слаёў 16—18 стст. з іншых беларускіх гарадоў і мястэчак [9]. Мяркуючы па цэлых начыннях і іх фрагментах, найбольш распаўсюджаныя былі рынкі з дыяметрам венца ад 16 да 23 см пры глыбіні начыння ад 3,5 да 6 см. Адметнасць рынак тыпаў II і III — наяўнасць на знешняй паверхні пад венцам шматрадковага лінейнага або сеткавага арнаменту (мал. 54). Гэта датычыцца чырвонагліняных і асабліва белагліняных рынак 16 ст. Як вядома, белагліняны паліваны посуд у 16 ст. у вялікай колькасці выраблаўся ў майстэрнях Ілжы, што на тэрыторыі Польшчы, і развозіўся па тэрыторыі Рэчы Паспалітай і суседніх землях. На тэрыторыі сучаснай Беларусі фрагменты белаглінянага посуду (гаршкоў, кубачкаў, рынак, збаноў) знойдзены не толькі пры даследаванні замкаў, гарадскіх слаёў, але і сельскіх паселішчаў 16—18 стст. [10]

На тэрыторыі мястэчка Мір таксама былі знойдзены кавалкі плыткіх чырвона- і белагліняных рынак (значна менш), як кавалкі тулаваў, так і асобна ручкі і ножкі ад іх [11].

Глыбокія рынкі (мал. 52 : *1*, *2*) сустракаліся сярод матэрыялаў сярэдзіны — другой паловы 17 ст. не толькі ў Мірскім, але і ў Гальшанскім і Лідскім замках. Яны мелі венцы двух тыпаў.

Тып І. У выглядзе манжэты з шырокім раўчуком пасярэдзіне (мал. 52 : *1*, *2*).

Тып ІІ. Сярэднеадхіленае коса зрэзанае венца. Дзве ручкі мацаваліся або да краю венца (мал. 52 : *2*), або крыху ніжэй (мал. 52 : *1*). Ручкі — авальныя ў сячэнні, стужкападобныя ці рабрыстыя. Донцы — акруглыя.

Глыбіня начыння — ад 10 да 12 см пры дыяметры венца ад 22 да 34 см і вышыні ножак 8—10 см. Унутраная паверхня пакрытая зялёнаю палівою.

Найбольшая колькасць глыбокіх рынак знойдзена разам з матэрыяламі другой паловы 17 ст. (у замку 1/4 ад агульнай колькасці рынак гэтага часу). Хоць у мястэчку цэлых экземпляраў глыбокіх рынак не выяўлена, наяўнасць тоўстых ножак вышынёй 8—10 см сведчыць пра іх бытаванне і тут. Фрагменты глыбокіх рынак знойдзены пад час земляных прац у Ляхавічах [12]. Адсутнасць глыбокіх рынак сярод апублікаваных даследчыкамі познесярэднявечных матэрыялаў тлумачыцца недастатковай пільнасцю пры класіфікацыі керамікі, таму што глыбокія рынкі лёгка могуць быць прынятыя за міскі з ручкаю ці макотры, а ножкі — за ножкі плыткіх рынак з утулкаваю ручкаю.

Мяркуючы па этнаграфічных даных, на большасці тэрыторыі Беларусі выраб рынак спыніўся ў 18 ст. (што звязана са зменай канструкцыі

---

[9] Заяц Ю. А. Керамическая посуда Заславля X—XVIII вв. // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі. Мн., 1993. Рис. 34; Здановіч Н. Хараство старажытнага посуду // Мастацтва Беларусі. 1989. № 8. С. 70; Здановіч Н., Собаль В. Ляпілі мінскія ганчары // Мастацтва Беларусі. 1990. № 3.

[10] Шаблюк В. В. Феодальная усадьба XVI—XVIII вв. у д. Мочулино // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі. Мн., 1993. С. 35.

[11] Краўцэвіч А. К., Якшук Г. М. Стары Мір. Мал. 14 : 16, 19.

[12] Здановіч Н. Хараство старажытнага посуду. С. 70.

печаў), аднак у канцы 19 — пачатку 20 ст. рынкі рабіліся ганчарамі з Гарадной і Пружан, а майстры з Поразава выраблялі іх аж да сярэдзіны 20 ст.[13] Да нядаўняга часу рынкі рабілі ганчары Украіны[14]. На тэрыторыі Заходняй Еўропы ў 18 ст. бытавалі яшчэ глыбокія парцэлянавыя рынкі.

Традыцыйным відам кухоннага посуду, як вядома, з'яўляюцца макотры. Паліваныя макотры пачынаючы з 17 ст. маюць пераважна ўсечанаканічную форму, а венца аформлена ў выглядзе простага знешнеасіметрычнага патаўшчэння з гарызантальна абрэзаным краем. Яны набліжаюцца да формы місак, толькі адрозніваюцца больш масіўнымі сценкамі і дыяметрам венца (пераважна 25—30 см). Макотры 18—19 стст., захоўваючы форму тулава папярэдніх, маюць простае закругленне краю ці венца ў выглядзе валікападобнага знешнеасіметрычнага патаўшчэння.

Другая вялікая група посуду, што сваім знешнім выглядам прыкметна адрозніваецца ад кухоннага,— сталовы посуд.

Самым шматлікім відам сталовага посуду, згодна з колькасцю выяўленых фрагментаў і 17 цэлых начынняў (мал. 55), з'яўляюцца талеркі.

Да тыпу I аднесены талеркі, што маюць шырокі борцік, які завяршаецца венцам з унутрыасіметрычным патаўшчэннем і шырокім (1—1,5 см) раўчуком па краі (мал. 45).

Мяркуючы па аналогіях з Гродзенскага Старога замка[15], Лідскага замка, менавіта такія талеркі звычайна найлепш аздабляліся (не толькі рыфленнем, але і ангобным роспісам).

Талеркі тыпу II маюць у разрэзе венца трохкутнай формы, знешні край якога можа быць выцягнуты ўніз. У талеркі з Мірскага замка борцік упрыгожаны рыфленнем, зробленым пяціраадковым грабеньчыкам (мал. 56) або карбоўкаю (мал. 57).

Талеркі тыпу III маюць сіметрычнае патаўшчэнне краю венца і раўчук па яго знешнім баку (мал. 45).

У талерак тыпу IV край вертыкальна прыўзнятага борціка крыху патончаны.

Талеркі тыпу V — самыя шматлікія сярод матэрыялаў з замка. Венцы іх уяўляюць сабой сіметрычна ці асіметрычна патоўшчаны валік (мал. 55 : *5—7*, *15*). На знешнім баку адной з талерак ёсць ангобны надпіс (мал. 58). Сярод талерак тыпу V ёсць кавалкі з контурным роспісам чырвоным ангобам па белым ангобным фоне (мал. 59; 60). Унутры контура малюнак запаўняўся падфарбаваным зялёным ангобам.

У адрозненне ад талерак 16—17 стст., што часта арнаментаваліся па борціку, начынні 18 ст. амаль не ўпрыгожваліся (за выключэннем ангобнага роспісу). Шмат якія талеркі пакрытыя вельмі тонкім слоем палівы, праз які прасвечваецца пясок.

Уяўленне пра памеры і прапорцыі начыння даюць цэлыя рэчы. Самыя распаўсюджаныя ў 16—17 стст.— талеркі з дыяметрам венца ад 23—26 да 30—31 см, прычым дыяметр донца быў у 1,5—2,2 раза, а вышыня начыння — у 3,5—5 разоў меншыя за дыяметр венца.

Тыпалагічная класіфікацыя талерак з замка цалкам пацвярджаецца матэрыяламі з мястэчка. Для арнаментацыі талерак тут таксама ўжыва-

---

[13] Милюченков С. А. Белорусское народное гончарство. Мн., 1984. С. 112.

[14] Матейко К. І. Народна кераміка західних областей Української ФСР 19—20. Київ, 1959. С. 44—45.

[15] Трусаў А. А., Собаль В. Е., Здановіч Н. І. Стары замак у Гродне XI—XVIII стст. Мал. 71 : 1.

лі шматрадковы грабеньчык і ўпрыгожвалі асобныя талеркі ангобным роспісам [16].

Яшчэ адзін від сталовага посуду, што ўжываўся ў 16—18 стст. на Беларусі,— міскі. У параўнанні з талеркамі колькасць іх у 16 — першай палове 17 ст. нязначная, але найбольш распаўсюджаныя яны менавіта ў 17 ст. У 18 ст. колькасць простых паліваных місак памяншаецца за кошт з'яўлення ў гэты час у шырокім ужытку маёлікавых і фаянсавых, а ў 19 ст. і парцэлянавых вырабаў.

Акрамя кавалкаў талерак у замку знойдзены 10 цэлых місак 16—18 стст. (мал. 62).

Міскі 16 — пачатку 17 ст. маюць нешырокі гарызантальна адхілены борцік, край якога закруглены ці зрэзаны вертыкальна. Унутраная паверхня іх пакрыта шклопадобнай жоўта-карычневай палівай. Мяркуючы па цэлых начыннях, вышыня іх не перавышала 6—8,5 см, а дыяметр венцаў — 21—23 см. Знешні край адной з місак аформлены пальцавымі ўціскамі (мал. 62 : *5*).

Фрагменты місак наступнага тыпу з замка маюць часам даволі шырокі борцік, адхілены пад вуглом прыкладна ў 45°. Гэта датычыцца і двух цэлых начынняў (мал. 62 : *1*, *2*). Па борціку адной з місак шматрадковым грабеньчыкам нанесены хвалісты арнамент. Аналагічная форма ў аднаго з тыпаў місак са Смаленска. Гэтыя міскі маюць найбольшыя памеры (дыяметр венца дасягае 28—30 см).

Міскі трэцяга тыпу, характэрныя для канца 17—18 ст., маюць піялападобнае тулава і неаддзелены закруглены край венца (мал. 62 : *6*, *8*). Па памерах яны аналагічныя міскам тыпу II (дыяметр венца не перавышае 20—23 см). Вышыня начынняў розная — ад 5,5 да 8,5 см. Унутраная паверхня звычайна пакрытая тонкім слоем брудна-зялёнай палівы, што найчасцей не мае бляску, а скрозь яе праступаюць драбочкі пяску. Міскі аналагічнай формы, як паліваныя, так і непаліваныя, — даволі частая знаходка ў слаях канца 17—18 ст. у Полацку.

У 18 ст. побач з неглыбокімі (да 6 см) місачкамі з вузкім (да 2 см) амаль гарызантальна адагнутым венцам з'яўляюцца і колькасна пераважаюць у сталовай кераміцы міскі з вертыкальным борцікам (вышыня яго ад 2,5 да 3,5 см) (мал. 62 : *7*). Большасць начынняў мае дыяметр венца ад 23 да 26 і нават 30 см, пераход да прыдоннай часткі ажыццяўляецца праз каленападобны ўступ.

Паліваныя міскі з вертыкальным борцікам працягвалі ўжывацца і ў 19 ст., толькі каленападобны ўступ знікае, і яны маюць ужо цыліндрычна-канічную форму. Унутраная паверхня распісвалася часам з дапамогай ангобу ці вокіслаў металаў (мал. 61). Міскі, аналагічныя адначасным замкавым, ужывалі і местачкоўцы [17].

Сярод начыння для пітва пераважаюць найперш кубачкі. Формай верхняй часткі гэтыя начынні, як з замка, так і з мястэчка, паўтараюць адначасныя паліваныя гаршкі (мал. 63 : *3*, *4*, *6*), толькі значна меншых памераў (мал. 49 : *11—13*). Формай ніжняй часткі кубачкі адрозніваюцца ад гаршкоў: яны маюць выразны паддон, што ўтвараецца рэзкім пашырэннем сценак у прыдоннай частцы. Гэты від начыння мог ужывацца і для прыгатавання страў дзецям. Магчыма, таму мы знаходзім адпаведныя ім па памеры накрыўкі (мал. 63 : *2*).

Наступны від посуду для пітва, мяркуючы па стараннасці, з якой ён

---

[16] Краўцэвіч А. К., Якшук Г. М. Стары Мір. Мал. 13.
[17] **Там жа. Мал. 13 : 11, 12, 17.**

упрыгожваўся, а таксама нешматлікасці знаходак, можна прылічыць да параднага посуду. Гэта куфлі. Сярод матэрыялаў з замка зафіксаваны прыдонныя часткі цыліндрычнай формы і кавалкі прамакутных пляскатых ручак (мал. 63 : *1*). Сярод матэрыялаў з мястэчка ёсць начынні, што з-за невялікага памеру варта назваць куфлікамі (мал. 63 : *5*). Як у замку, так і ў мястэчку акрамя паліваных ужывалі распісныя кубкі і куфлі (мал. 63 : *6*, *8*; 64 : *3*, *4*). Часам цяжка аднесці канкрэтнае начынне да пэўнага віду посуду з-за нетрадыцыйнасці памераў, што не спалучаюцца з формай (мал. 63 : *7*).

Эвалюцыя формы куфля на працягу 18—19 стст. прывяла да памяншэння яго вышыні (да 10 см) і дыяметра тулава. Сама форма замест строга цыліндрычнай набывае абрысы авала ці ўсечана-канічную (мал. 66 : *2*, *4*, *6*). Таксама, як і кубкі, у канцы 16—17 ст. побач з паліванымі ўжываліся распісныя куфлі.

Адным з відаў посуду для захоўвання і транспартавання вадкасцяў з'яўляюцца збаны. У замку яны знойдзены разам з матэрыяламі 16—17 стст. Найбольшая колькасць фрагментаў належыць паліваным начынням, частка — дымленым і адзінкі — непаліваным збанам. Па форме верхняй часткі яны падзяляюцца на 3 тыпы (мал. 45).

Збаны тыпу I найбольш распаўсюджаныя ў слаях 16 — першай паловы 17 ст. Яны маюць прафіляванае горла: на вонкавай паверхні яго ёсць карнізік, а знутры — раўчук (мал. 66 : *1*). Край венца скруглены.

Збаны тыпу II маюць рабрыну ці карнізік толькі звонку па горлу (мал. 45; 66 : *5*).

Збаны тыпу III мелі горла-раструб і скругленае венца.

Паліваныя (як, дарэчы, і дымленыя) збаны 16 — першай паловы 17 ст. мелі ручкі пераважна трох тыпаў: круглыя; пляскатыя з шырокім равочкам пасярэдзіне; пляскатыя, рабрыстыя, з двума равочкамі. Ручкі першых двух тыпаў мелі шырыню да 3,5 см, а апошняга — да 4 см. У замку знойдзены два фрагменты адметных ручак: зверху па ручцы пакладзены 1 (на адной) і 2 (на другой) кручаныя гліняныя жгуты. Аналогіі ім невядомыя. Верхні край ручак мацаваўся да рабрын на горле ці арнаментальнага пояса на ім, а ніжні — да найбольшага дыяметра тулава.

Збаны канца 17—18 ст. мелі стужкападобныя ручкі. Мацаваліся яны, як правіла, крыху ніжэй венца.

Самыя раннія збаны пакрываліся зялёнаю ці карычневаю шклопадобнаю палівaю з абодвух бакоў (звонку да ніжняга краю ручкі). На начыннях 18—19 стст. паліва звонку наносілася толькі па венцы.

Збаны найчасцей упрыгожваліся арнаментам не толькі па горлу, але і па плечуку.

Сярод збаноў тыпаў I і II сустракаюцца адзінкавыя экземпляры, распісаныя па горлу і плечуках белым ці падфарбаваным зялёным ангобам пад бясколерную паліву (мал. 64 : *1*, *2*).

Дыяметр венца збаноў найчасцей 9,5—12 см, донцы — на пліткавым паддоне.

У якасці начынняў для транспартавання вадкасці ў 16—17 стст. на Беларусі выкарыстоўваліся біклагі (фляжкі). Сустракаюцца яны ў адзінкавых фрагментах амаль што ва ўсіх даследаваных гарадах і замках заходняга рэгіёна Беларусі (Крэўскі, Гальшанскі, Любчанскі замкі, гарады Гродна і Слонім). Сярод матэрыялаў з замка і мястэчка сустрэты пераважна кавалкі сценак (мал. 46 : *11*) і петлепадобныя ці круглыя ручкі з невялічкай адтулінай усярэдзіне (мал. 46 : *10*, *12*). Аднак сярод матэрыялаў з мястэчка знойдзена амаль цэлая біклага з авальным тула-

вам (мал. 65), пакрытая звонку тонкім слоем бледна-зялёнай палівы.

Ёсць яшчэ адзін від паліванага начыння для захоўвання і транспартавання вадкасцяў. Маюцца на ўвазе глякі (мал. 67 : *3*). Аднак яны фіксаваліся толькі па знаходках горлаў дыяметрам 3—5 см з носікамі-злівамі ці без іх. Між тым горлы такога маленькага дыяметра маглі належаць і біклагам. Часам горлы ад глякоў мелі валікападобнае завяршэнне. Паліваліся глякі зверху і крыху па горле знутры, мелі петлепадобную ручку, што мацавалася на плечуках і тулаве.

У Мірскім замку сярод матэрыялаў 17 ст. знойдзены два кавалкі верхніх частак начыння, што формаю нагадвалі гляк, але без горла. Рэзка звужанае тулава завяршалася валікападобным венцам, як на шкляных бутэльках (мал. 67 : *1*, *2*). Зверху начынне пакрыта зялёнаю палівакю. Такое горла было вельмі зручна затыкаць коркам. Як выглядалі дакладна гэтыя пасудзіны, сказаць цяжка. Магчыма, што яны нагадвалі формаю шкляныя бутлікі і прызначаліся для розных вадкасцяў, напрыклад лекаў.

У якасці ёмістасцяў для спецый выкарыстоўвалі разнастайныя невысокія (да 3—5 см) і невялічкія (з дыяметрам венца да 7 см) піялападобныя начынні накшталт сучасных парцэлянавых сальнічак, толькі са злёгку ўвагнутымі ўнутр краямі (замак) (мал. 67 : *5*, *6*). Дакладна сальнічкаю можна лічыць маленькае купалападобнае начынне са шматлікімі маленькімі адтулінамі ў купалку (мал. 67 : *4*).

Акрамя посуду сярод паліваных керамічных вырабаў 17—18 стст. прысутнічаюць фрагменты разнастайных падсвечнікаў. Найбольш простая форма іх — у выглядзе тонкага (дыяметрам 3—3,5 см) высокага (звыш 10 см) бакала ўсечана-канічнай формы з петлепадобнаю ручкаю пасярэдзіне ці бліжэй да венца (мал. 67 : *8*, *10*). Знойдзены як непаліваныя, так і паліваныя фрагменты ад іх на тэрыторыі замка і ў мястэчку. Другі тып падсвечнікаў, знойдзены толькі ў замку, уяўляе сабой полы цыліндрык на фігурнай ножцы са стапой, шырэйшай за дыяметр цыліндра пад свечку (мал. 67 : *7*). Аналагічныя па форме падсвечнікі пашыраны ў 17—18 стст. у Магілёве (мал. 68 : *2*). У мястэчку знойдзены два фрагменты непаліванага падсвечніка з фігурнай ножкай і дыскам на тулаве (мал. 67 : *9*, *11*). Акрамя падсвечнікаў, для асвятлення памяшканняў у гэты час выкарыстоўваліся свяцільнікі, у якія налівалі масла (мал. 68 : *1*).

Яшчэ адзін від дробнай пластыкі — люлькі. Керамічныя люлькі вырабляліся на ганчарным крузе ці ў двухчасткавых формах. Пасля прасушкі нарыхтоўкі паліваліся або спачатку аздабляліся штампаваным арнаментам, глянцаваннем ці на іх наносіўся арнамент у тэхніцы рыфлення (мал. 67 : *15—20*). На тэрыторыі замка знойдзены паліваныя і непаліваныя люлькі (мал. 69, 70). Першай паловай 17 ст. датуюцца чырвонагліняныя люлькі з зялёнай палівай (іх даволі шмат у замку). З сярэдзіны 17 ст. люлькі сталі рабіць з гліны больш светлых таноў.

Акрамя люлек з вырабаў дробнай пластыкі ў калекцыі ёсць цацкі-свісцёлкі (мал. 67 : *12*, *13*). Кавалкі фрагментарныя, але можна з упэўненасцю сказаць, што належаць яны свісцёлкам у выглядзе птушак (мал. 67 : *12*; 71), конікаў (мал. 67 : *13*; 72) і, мяркуючы па чалавечай постаці, коннікаў (мал. 67 : *14*).

Адным экземплярам сярод замкавай керамікі прадстаўлены грузік для сетак авальнай формы (мал. 73).

Трэцюю па шматлікасці фрагментаў групу посуду, згодна з асаблівасцямі тэхналогіі вытворчасці, складае дымленая кераміка.

Як ужо не раз узгадвалася, дымлены посуд найчасцей паўтарае форму адпаведнага паліванага (мал. 74—76, 77 : *9, 10*), але не заўсёды.

Гэтае паўтарэнне формы добра бачна на прыкладзе гаршкоў, кубкаў, макотраў, місак (мал. 78), талерак. Аднак ёсць віды посуду, што не знаходзяць адпаведнікаў у паліванай кераміцы і развіваюцца цалкам самастойна. Гэта датычыцца ў першую чаргу гладышоў (мал. 77 : *1—8*) як з замка, так і з мястэчка. Форма гладышоў, асабліва афармленне венца, мае агульнабеларускія рысы (мал. 35, 77). Аналагічнасць формы паліванага і дымленага посуду 16—17 стст. пазбаўляе нас ад неабходнасці падрабязна апісваць форму дымленага посуду. Адзначым толькі, што ў атрыманні найбольш поўнага ўяўлення пра памеры і тыпалагічную разнастайнасць дымленых начынняў вялікую ролю адыграла менавіта калекцыя дымленага посуду з мястэчка. Тут акрамя фрагментаў знойдзена шмат цэлых формаў разнастайных пасудзін. Ды і ў цэлым у керамічнай калекцыі з мястэчка доля дымленага посуду значна вышэй, чым з замка.

Яшчэ адной адметнасцю керамічнай калекцыі з мястэчка з'яўляецца адсутнасць у ёй фрагментаў паліхромнага посуду, што прысутнічае ў замкавых матэрыялах. У замку знойдзены чатыры фрагменты начыння, пакрытыя эмаллю двух колераў — белага і блакітнага. Паколькі яны былі нанесеныя адначасова і мелі аднолькавую тэмпературу плаўлення, пад час абпалу на талерках і кубачку ўтварыліся прыгожыя рознакаляровыя пацёкі (мал. 80).

Яшчэ адзін фрагмент паліхромнай талеркі належыць белаглінянаму начынню. Кожны з нанесеных колераў на ёй дадаткова абведзены рыфленымі стужкамі, што нагадвае тэхніку перагародчатай эмалі на ювелірных вырабах дамангольскага часу. Хутчэй за ўсё гэтая талерка не мясцовага вырабу, але пра цэнтр, з якога яна паходзіць, пакуль гаварыць цяжка.

Сярод матэрыялаў 17 ст. з замка прысутнічае амаль цэлая талерка, распісаная кобальтам па сырой эмалі. Гэтая тэхніка атрымае далейшае развіццё на Беларусі ў 18 ст. Тры тонкія адтуліны, прабробленыя ў кольцавым паддоне талеркі, сведчаць пра яе выкарыстанне для ўпрыгожвання інтэр'ераў — функцыя, аналагічная прызначэнню большасці распіснога начыння гэтага і больш позняга часу.

Пэўную ролю ў развіцці асартыменту, аздобы мясцовага посуду адыграла, верагодна, і прывазная кераміка. Яна магла парадзіць пэўныя спробы пераймання. На наш погляд, менавіта такой спробай з'яўляецца знойдзены ў замку гаршчочак з петлепадобнай ручкай на трох ножках (мал. 81). Традыцыя вырабу гаршкоў на ножках розных памераў існавала з 13 ст. у Германіі. Шматлікія фрагменты паліваных гаршкоў на трох ножках знойдзены пад час даследаванняў у Клайпедзе. На Беларусі з начынняў на ножках атрымала распаўсюджанне толькі рынка. Аднак, мяркуючы па ўзгаданаму гаршчочку на ножках, такія пасудзіны таксама былі вядомыя ў нас, але па нейкіх прычынах не прыжыліся тут.

Магчыма, не без уплыву паліваных белагліняных начынняў узнікла ці распаўсюдзілася ідэя арнаментацыі посуду карбоўкай.

Пра ўздзеянне яшчэ адной групы прывазных вырабаў — керамікі з «каменнай масы»— цяжка меркаваць. Наяўнасць такіх фрагментаў безумоўна сведчыць пра гандаль з прырэйнскімі гарадамі. Даволі значная колькасць яе фрагментаў 16—17 стст. знойдзена ў культурных напластаваннях на замкавым двары і каля яго, у той час як у мястэчку іх няшмат (з-за дарагоўлі прывазнога тавару для простага насельніцтва).

Сярод замкавай керамікі найбольш раннія і цікавыя фрагменты — кавалкі збана з карычневай глазурай і выявай чалавека ў круглым медальёне 16 ст. з раскопу II. Па тулаве збана бачны рэшткі надпісу.

Фрагмент яшчэ аднаго збана (паліхромнага), дакладней, яго горла, з выявай маскарона таксама знайшлі разам з матэрыяламі з замка 16 — пачатку 17 ст. (мал. 82).

Верхняя частка начыння з карычневай салянай глазурай належыць хутчэй за ўсё тарнаму начынню (мал. 83).

З начынняў для пітва ў калекцыі ёсць паліхромныя фрагменты высокіх куфляў 16 ст. Найбольш шматлікія — кавалкі керамічных цыліндрычных бутэлек з петлепадобнай ручкай (мал. 84) і часам надпісам «Nassau» (менавіта такія бутэлькі знойдзены ў мястэчку).

Такім чынам, мы бачым, што ў 16 ст. асноўная маса бытавога посуду складалася з непаліваных гаршкоў, макотраў і нязначнай колькасці латак. Посуд фармаваўся спіральна-стужкавым спосабам, у масе меў значныя дамешкі буйной жарствы. Тады ж пачаў ужывацца паліваны посуд (гаршкі, кубачкі, рынкі, талеркі, збаны). Непаліваны посуд амаль не арнаментаваўся. На працягу 17 ст. якасць фармовачнай масы паляпшаецца, адпаведна паляпшаецца апрацоўка паверхняў. Непаліваны посуд па-ранейшаму не арнаментуецца, паліваны ж — гаршкі, талеркі, кубкі, куфлі, збаны і часам рынкі — багата аздоблены з дапамогаю розных відаў карбоўкі і грабеньчыка. У другой палове 17 ст. на гаршках і талерках пагоршылася якасць палівы, яна наносіцца тонкім слоем, неахайна, праз слой палівы прабіваецца пясок. Паліваныя гаршкі арнаментуюцца зрэдку. Па форме паступова як непаліваныя, так і паліваныя гаршкі набліжаюцца да формы чыгунка. У канцы 17—18 ст. арнаментуецца пераважна дымлены посуд (гладышы, гаршкі, талеркі, міскі і макотры выглянцоўваюцца поўнасцю ці часткова).

Найбліжэйшыя аналогіі мірскаму бытавому посуду маюцца на тэрыторыі Гродзеншчыны (Лідскі, Гальшанскі, Крэўскі замкі, гарады Слонім, Гродна), аднак тэндэнцыі ў развіцці формаў, паасобных відаў посуду агульныя для ўсіх вядомых нам беларускіх гарадоў, асабліва што датычыцца формы паліванага і дымленага посуду.

## КАФЛЯ

Пад час раскопак Мірскага замка і мястэчка намі сабрана вялікая колькасць разнастайнай кафлі.

Самы старажытны тып мірскай кафлі знойдзены ў археалагічным слоі паселішча 15 ст., якое існавала на месцы замка і было знішчана моцным пажарам на мяжы 15—16 стст. Сярод кухоннага посуду ў пластах другой паловы 15 ст. знойдзены кавалкі гаршковай кафлі, якая мела круглае вусце. Яна сфарміравана на ганчарным крузе з пластычнай глінянай масы і па форме нагадвае цыліндр. Кафля мае вышыню 11,5 см, дыяметр днішча 7 см, дыяметр вусця 12,5 см, таўшчыня сценак 0,5 см.

У слоі пажару, які знішчыў паселішча, мы натрапілі на развал печы, складзенай з гаршковай кафлі розных тыпаў. Под печы зроблены з гліны і дробных камянёў і мае невялікія памеры (каля 1 кв. м) (мал. 86). Мяркуючы па аналагах, сама печ уяўляла сабой гліняны купалок на драўляным або сплеценым з лазы каркасе [18]. У глінянае скляпенне печы

[18] Historia kultury materialnej Polski w zarysie. T. II. S. 314.

ўстаўлялася гаршковая кафля днішчам да агню, а вусцем — у памяшканне. Тоўстыя сценкі кафлі добра захоўвалі цяпло, якое ішло з глыбокіх кафляў-гаршкоў. Такім чынам, гаршковая кафля ў асноўным выконвае ролю калярыфера. І толькі з канца 14 ст., калі форма яе вусця паступова змяняецца, яна пачынае набываць і дэкаратыўную функцыю.

Цікава, што цеплавое люстэрка мірскай печы складала кафля адной вышыні, але з рознымі па форме вусцямі. Больш за ўсё знойдзена кафлі з круглым вусцем (першы тып). Яе вышыня 14 см, дыяметр днішча 10,5 см, дыяметр вусця 14 см, таўшчыня сценак 1 см (мал. 85 : *11*, *12*; 87).

Кафля зроблена на ганчарным крузе з глінянага цеста з дамешкамі жарствы. Чарапок яе ў зломе ў асноўным трохслойны, бо абпальвалася кафля пры невялікай тэмпературы, таму маса ў сярэдзіне чарапка шэрага колеру. Некаторыя чарапкі аднаслойныя, што сведчыць аб больш высокай тэмпературы абпальвання.

Да другога тыпу адносяцца кафлі, якія маюць вусце ў выглядзе чатырохпялёсткавай разеткі (квадрыфолія), якая несла дэкаратыўную функцыю. Такая кафля існавала на Беларусі на працягу 15 ст. Розныя варыянты кафлі з квадрыфольным вусцем знойдзены ў час даследавання замкаў у Лідзе і Крэве [19] (мал. 85 : *13*).

Кафля трэцяга тыпу мае квадратнае вусце. Рабілася такая кафля спачатку на ганчарным крузе, а потым апрацоўвалася ў драўлянай форме, якая дазваляла рабіць кафлю аднолькавага памеру. Гэты тып кафлі з'явіўся ў канцы 14—пачатку 15 ст. і існаваў да пачатку 16 ст. У канцы 15—пачатку 16 ст. такая кафля трансфармуецца ў так званую міскавую кафлю за кошт скарачэння тулава і пашырэння вусця. Даследчыкі лічаць, што з кафлі з квадратным або прамакутным вусцем можна скласці цеплавое люстэрка печы па плошчы ў некалькі разоў большае, чым са звычайнай кафлі [20]. Таму і форма печаў пачынае змяняцца. Гаршковая кафля поўнага профілю знойдзена намі ў 1991 г. пад час раскопак перадбрам'я ў слаях канца 15—першай паловы 16 ст. (мал. 85 : *14*). Донцы і сценкі гаршковых кафляў, якія добра абпалены і маюць светла-карычневы цагляны колер, знойдзены таксама ў раскопах побач з паўночнай і заходняй сценамі замка.

Нязначная колькасць кавалкаў гаршковай кафлі 16 ст. з прамакутным, круглым і квадрыфольным вусцем сабрана ў гістарычным цэнтры мястэчка.

Самыя першыя каробчатыя кафлі, знойдзеныя ў Мірскім замку, датуюцца па даных стратыграфіі і аналагах сярэдзінай—другой паловай 16 ст. Гэта зялёнапаліваныя і тэракотавыя экземпляры з масіўнай румпай (мал. 88 : *4, 7*; 89 : *13*). Яны маюць паглыбленую вонкавую паверхню.

Упрыгожаны яны геаметрычным арнаментам. Вонкавая паверхня аднаго экземпляра мае разетку буйнога рэльефу. Найбольшую цікавасць з іх уяўляе фрагмент непаліванай кафлі з выявай Св. Юрыя (Георгія) на кані, які забівае цмока (мал. 89 : *13*). Гэта адна з самых ранніх выяў такога тыпу, выкананых у рэнесансавай тэхніцы.

З 1568 г. гаспадарамі замка сталі Радзівілы, якія ў канцы 16—пачатку 17 ст. дабудоўваюць яго, узводзяць трохпавярховы палац і розныя

---

[19] Трусаў А. А., Угрыновіч У. В. Тыпалогія і храналогія лідскай кафлі // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Мн., 1989. Мал. 95, 96; Дзярновіч А. І., Трусаў А. А., Чарняўскі І. М. Лёс Крэва. Мн., 1993. С. 39.

[20] Смирнов Т. Д. Производство красноглиняных печных изразцов и опыт реконструкции печей по материалам Старого Орхея // Известия Молдавского филиала АН СССР. 1956. № 4. С. 81.

гаспадарчыя і службовыя памяшканні, якія ўжо ў канцы 16 ст. мелі кафляныя печы.

Пісьмовыя крыніцы 17 ст. сведчаць пра багатае ўбранне палаца, які ацяплялі шыкоўныя печы, зробленыя з паліхромнай кафлі. У час шведскіх нападаў (1655 і 1706 гг.) палац шмат разоў гарэў і разбураўся. Таму ў другой палове 17—пачатку 18 ст. старыя печы паступова разабралі і зрабілі новыя з зялёнай паліванай кафлі [21].

Асноўная частка ўсіх кафлін датуецца канцом 16—першай паловай 17 ст.— часам найбольшага росквіту Мірскага замка. Прычым час бытавання некаторых з іх можна дакладна вызначыць па датах, якія на іх маюцца. Так, напрыклад, у калекцыі маецца датаваная 1583 г. кафля-каронка (мал. 90 : *1*). Яна знойдзена побач з паўночнай сцяной замкавага корпуса разам з двухзубым відэльцам, белагліняналй люлькай галандскага тыпу (ранняга) і шэрагам рэчаў канца 16—першай паловы 17 ст. Гэта сведчыць аб тым, што на той час паўночны корпус палаца, які пабудавалі Радзівілы, ужо дзейнічаў.

Усю калекцыю кафлі можна падзяліць на тры вялікія групы: непаліваную, зялёнапаліваную, паліхромную. З іх найбольшую цікавасць уяўляюць паліхромныя кафлі. Першыя паліхромныя печы зроблены пад час будаўніцтва замкавага палаца ў канцы 16 ст. Матэрыялы даследавання паказваюць, што ў замку ўжо тады існавала вялікая колькасць печаў розных памераў і прызначэння: вялікія і малыя, шарападобныя, выступаючыя ў памяшканне і прыціснутыя да сцяны, кутнія ці пастаўленыя пасярэдзіне, поўнасцю размешчаныя ў пакоі і тыя, што часткова выходзілі ў другое памяшканне. Тут былі печы кухонныя і ацяпляльныя, складзеныя з кафлі тэракотавай, паліванай зялёнай глазурай і паліхромнай. Простыя печы, найбольш таннейшыя, з цэглы і тэракотавай кафлі будаваліся ў службовых памяшканнях, сутарэннях і на першым паверсе. Печы з зяленай паліванай кафлі, відаць, былі прызначаны для святліц на другім паверсе. Печы ж з шыкоўных паліхромных кафляў ацяплялі толькі пакоі ўладароў замка на другім і трэцім паверхах.

Уявіць, як выглядалі пакоі з паліхромнымі печамі, можна, калі мы звернемся да апісання памяшкання таго часу з інвентара маёнтка Смаргонь [22], які належаў брэсцкаму ваяводзе Хрыстафору Зяновічу, а пазней перайшоў ва ўладанне Радзівілаў. У інвентары за 1621 г. мы чытаем апісанне дзвярэй, акон і мэблі ў святліцы. Каля кафлянай печкі былі два тапчаны і зэдлік на аднаго чалавека. Пакой быў абцягнуты чорным сукном. У ім вісела пяць партрэтаў, з іх тры — сям'і і два — каралеўскія. У вялікай сталовай ужо другое аздабленне: дзверы і касякі размаляваны фарбамі, балкон з балясамі, буфет сталярнай работы, дзевяць акон з гербамі, сем сталоў сталярнай работы, пяць зэдляў простых і абцягнутых чорным сукном. Уздоўж сцен лавы, столь размалявана рознымі фарбамі. Сярод пакою два пазалочаныя падсвечнікі з дзвюма меднымі трубкамі для свечак. Другі падсвечнік з ласінымі рагамі і галавой дракона наверсе. Падвешаны яны на пабеленых ланцугах. Печка з рознакаляровымі кафлямі, на якіх гербы яго міласці, і з дымаходам. Увесь пакой, а таксама лавы абцягнуты чорным сукном. Насупраць гэтага пакою — другая святліца, дзе дзверы маюць інкрустацыю з чорнага дрэва...

---

[21] Иодковский И. И. Замок в Мире // Древности. Труды комиссии по сохранению древних памятников. Т. 6. М., 1915. С. 70.

[22] Инвентари магнатских владений Белоруссии 17—18 вв.: Владение Сморгонь. Мн., 1977. С. 24.

Адным словам, мы бачым, што гэта — самыя раскошныя пакоі, у якіх дзверы, вокны, мэбля, асвятленне, нарэшце, печы — як правіла, дарагія, зробленыя з густам, па-мастацку. Абцягнутыя чорным сукном сцены, дзверы з чорнага дрэва і нават мэбля падкрэсліваюць шматкаляровы роспіс столі і каляровае шматгалоссе кафляных печак. Па сутнасці, печка становіцца галоўным кампазіцыйным цэнтрам прасторы пакою не толькі па паліхроміі, вертыкалі і памерах, але і па змесце, што нясуць рэльефы каляровых кафляў.

Аб паліхромных печах Мірскага замка, пра іх знешні выгляд, агульныя памеры, тэматыку выяўленчых матываў, іх мастацкае ўздзеянне на прасторавае асяроддзе пакою недакладна, але ўсё ж можна меркаваць па кафлях, выяўленых у час археалагічных раскопак. Усяго знойдзена восем тыпаў паліхромнай кафлі з рознымі іх варыянтамі. Кожнаму тыпу адпавядае характар дэкору, які ад яго месцазнаходжання ў люстэрку печы надаваў патрэбную трактоўку агульнаму сюжэту.

Найбольшую колькасць ся~~род знойдзеных тыпаў~~ складаюць «сценныя» квадратныя кафлі з бокам 20 см і ганчарнай румпай даўжынёй каля 7—9,5 см. Дэкор на іх двух відаў — раслінны і геральдычны. Шырэй прадстаўлены раслінныя, у нізкім рэльефе, арнаментальныя матывы, падпарадкаваныя чатырохбаковай сіметрыі. Фон кафлі цёмна-сіні, парасткі, кветкі і лісце белыя, дробныя дэталі жоўтыя, рамка па краях жоўта-зялёная. Раслінны арнамент стылізаваных лісцяў і кветак (яго ўмоўна можна назваць «агурковым» за падабенства з агуробнікам) шырока распаўсюджаны не толькі ў Міры, дзе гэты від малюнка ёсць на тэракотавых і зялёных паліваных кафлях у замку і мястэчку. Яго інтэрпрэтацыі шырока вядомы ў Мінску, Лідзе, Полацку, Мсціславе і іншых беларускіх гарадах і сведчаць аб мясцовым паходжанні. Выява на геральдычнай кафлі ўяўляе сабой фамільны герб Радзівілаў. На жоўтым фоне — аднагаловы цёмна-карычневы арол, сімвал сілы і ўлады. Распасцёртыя крылы і шырока расстаўленыя ногі з кіпцюрамі строга сіметрычныя. На грудзях — сіні шчыт з паляўнічымі рагамі — напамінак пра паходжанне ад простага паляўнічага. Краі кафлі акрэслены жоўта-зялёнай рамкай. Агульны каларыт яркі, кідкі (мал. 88 : *18*).

Другой цікавай разнавіднасцю паліхромнага малюнка з арлом з'яўляецца кафля крыху пазнейшага часу, большая па памерах, прамакутная. Карычневы арол на белым фоне ў кіпцюрах трымае лаўровыя галінкі (мал. 88 : *21*).

У Мірскай калекцыі маецца 6 тыпаў кафлін з выяваю арла. Сустракаліся зялёнапаліваныя, тэракотавыя і паліхромныя фрагменты.

Тып 1. На кафлі закампанаваны радзівілаўскі арол з галавой, павернутай налева. На грудзях арла — шчыт — выцягнуты трохкутнік з трыліснікам (стылізаваныя паляўнічыя ражкі), закручаным управа (мал. 88 : *13*).

Тып 2. Зялёнапаліваная кафля з падвоенаю рамкаю, якая пракрэслена радамі арнаменту, складзенага з трохкутнікаў. Галава арла, якая ўвенчана каронай, нахілена ўправа. У левай лапе арол трымае скіпетр, у правай — шаблю. На грудзях арла крыху скруглены шчыт (мал. 88 : *17*).

Тып 3. Сустракаліся зялёнапаліваныя і паліхромныя, а таксама тэракотавыя адзінкі. Галава арла павернута направа, трыліснік на шчыце — улева (мал. 88 : *18*).

Тып 4. Зялёнапаліваная, непаліваная і паліхромная з падвоенаю рамкаю кафля. Галава арла ў кароне павернута ў левы бок, на грудзях

авальны шчыт з трылісьнікам, закручаным направа. Лапамі арол абапіраецца на скрыжаваныя пальмавыя галіны (мал. 88 : *21, 22*).

Тып 5. Знойдзены зялёнапаліваныя і паліхромныя фрагменты. Галава арла ў кароне павернута ўлева. Лапамі арол абапіраецца на скрыжаваныя пальмавыя галіны. У кутах — трылісьнікі — «лапкі».

Тып. 6. Знойдзены толькі зялёнапаліваныя і тэракотавыя экземпляры. Кафля мае падвойную рамку. Паміж знешняй і ўнутранай размешчаны рады кропачак, якія надаюць асаблівае багацце рамцы. У цэнтры, у круглай рамцы, аздобленай па знешняй і ўнутранай паверхні зубчыкамі, закампанаваны арол, галава якога ў кароне павернута ў правы бок. Тулава птушкі аздоблена кропачкамі. Паміж знешнімі рамкамі і ўнутранай круглай — кветкі лілеі (мал. 89 : *15*).

Да канца 16 ст. можна аднесці буйнарэльефныя кафлі, упрыгожаныя геральдычным арнаментам (тып кафлі з арлом 1, 3). Кафлі з Радзівілаўскім гербам выраблялісь, верагодна, па спецыяльнай замове і аналагаў на Беларусі пакуль не маюць.

Цікава, што ў мястэчку знойдзена толькі 20 фрагментаў кафлі з вывай герба Радзівілаў, у той час як у замку знаходкі кафляў з арлом на вонкавай пласціне налічваюцца сотнямі. Магчыма, што ў мястэчку такая кафля з гербам уладальніка замка аздабляла печы ў афіцыйных будынках (ратуша) або ў шпіталі, які быў падораны гораду Радзівілам.

Геральдычныя кафліны першай паловы—сярэдзіны 17 ст. выкананы ўжо ў іншай тэхніцы: рэльеф дробны, на галаве арла з'яўляецца карона, часам арол закампанаваны ў круг (тып 6).

Калі аналізаваць суадносіны знаходак тэракотавых, зялёнапаліваных, паліхромных кафлін на тэрыторыі замка, то можна здагадацца, якія печы былі ў розных памяшканнях замка. Так, у раскопах побач з паўднёвай сцяной замка, дзе былі гаспадарчыя прыбудовы, сабраны толькі зялёнапаліваныя і тэракотавыя адзінкі, прычым апошніх было значна больш. У раскопах каля перадбрам'я сустракаліся розныя тыпы кафлі, у тым ліку і паліхромныя фрагменты. Найбольшая колькасць паліхромных кафлін была сабрана каля паўночнай сцяны замка, дзе быў размешчаны паўночны корпус Радзівілаўскага палаца.

Па сваім функцыянальным прызначэнні пячная кафля падзяляецца на кафлі-каронкі, кафлю паясковую і гзымсавую, сценную кафлю як поўнага фармату, так і палавіннага, і кутнія кафлі, а таксама керамічныя медальёны і дахоўку для пакрыцця верху печы (мал. 88 : *14*).

Паясковыя і гзымсавыя кафлі таксама сустракаюцца як звычайныя, так і кутнія. Медальёны — для ўпрыгожвання печы (са слядамі закуранасці) і інтэр'ерныя (з чыстай унутранай паверхняй).

У Мірскім замку пад час раскопак былі знойдзены некалькі кафлін-медальёнаў без румпы. На тыльнай іх частцы няма слядоў закуранасці. Большасць з іх знойдзены ў раскопах побач з паўночным корпусам палаца. Два медальёны з арламі маюць ззаду невялікія мацавальныя шыпы. Адзін зялёнапаліваны (мал. 88 : *15*), другі — паліхромны.

На двух фрагментах паліхромнага медальёна маецца відарыс каня (мал. 89 : *11*). Дэталі вупражы і похвы паказваюць на тое, што на страчанай частцы быў вершнік. Верагодна, гэта выява «Пагоні».

Наступны медальён мае сляды сажы на тыльным баку. Ён таксама паліхромны. Знойдзены тры яго кавалкі побач з усходнім корпусам палаца (мал. 96).

Нам сустрэліся, на жаль, толькі крайнія часткі медальёна, аздобленыя складаным раслінна-геаметрычным арнаментам.

4. Зак. № 542

Сценныя кафлі ў час пабудовы паліхромнай печы клалі не роўна адну на другую, а так, каб другі, вышэйшы рад клаўся ад сярэдзіны кафлі ніжэйшага рада, што стварала натуральны «замок» і павышала трываласць.

Завяршалі куты печы кутнія кафлі. Яны састаўляліся з цэлай сценнай і палавінкі, змацаваных пад прамым вуглом румпай. Дэкор, як правіла, заставаўся той жа, што і на сценных кафлях,— раслінны і геральдычны.

Падкрэслівалі прапорцыі аб'ёму печы кафлі паясковыя, рэльефы якіх мелі адцягнены міфалагічны змест. У іх матывах пераважаюць сярэднявечныя алегорыі: над лістамі-цмокамі, якія сімвалізуюць злыя варожыя сілы, ганарова ўздымаецца арол — герб князя, асобна вынесены на кафлю-медальён. Размяшчалася яна, відаць, у самым цэнтры.

Зусім новы змест нясуць кафлі гзымсавыя, якія служылі сувязнымі пераходнымі формамі паміж рознымі аб'ёмамі печы. Сюжэты на гэтых кафлях міфалагічнага, расліннага, рэлігійнага характару. Яны раскрываюць тэму мары аб шчасці, славе, наканаванні лёсу.

Аб гэтым сведчаць букеты, перавітыя гірлянды, ланцужкі дубовага лісця на кафлях-каронках і «гарадках» у версе печы. Асабліва цікавая кафля-каронка з букетамі і лічбай 1583. Яна, магчыма, сведчыла аб заканчэнні будаўніцтва паўночнага корпуса і яго інтэр'ераў.

Верх печаў перакрывалі кафлі-дахоўкі з тыповым і распаўсюджаным малюнкам «рыбінай лускі» (мал. 88 : *14*). Аналагічная кафля, толькі непаліваная або пакрытая зялёнай палівай, знойдзена ў Лідскім замку [23].

Усе тыпы кафляў набіраліся ў розных камбінацыйных варыянтах, дзе колькасць і іх месца былі абумоўлены памерам памяшкання і відам печы. Ад гэтага залежаў і агульны колер печаў. Калі вонкавае люстэрка печы набіралася з кафлі, аздобленай расліннымі матывамі з пераважна сінімі фарбамі, то каларыт гучаў у халоднай, спакойнай гаме. Калі ж ужываліся выявы з цёмным арлом, дзе было шмат жоўтага светлага фону, то гэтая гама гучала ўжо кантрастна, узбуджана, трывожна і разам з тым сцвярджальна.

Каляровая палітра кафляў не дужа багатая. Прымянялася белая заглушаная глазура, сіняя глухая — кобальтавая, цёмна-карычневая празрыстая — марганцавая, глухая жоўтая — зафарбаваная вокісламі сурмы і светла-зялёная — сумесь жоўтай і сіняй. Выразнасць малюнка падкрэсліваў рэльеф.

Вытворчасць кафлі была разлічана на масавы тыраж. У драўлянай форме адціскалася з гліны вонкавая пласціна з невысокім дэкаратыўным рэльефам, прымацоўвалася ганчарная румпа і пасля высыхання кафля абпальвалася. Затым вонкавая паверхня кафлі размалёўвалася і зноў абпальвалася. Аб двайным абпальванні сведчаць памеры вырабаў, дзе тэракотавыя кафлі крыху большыя, чым каляровыя, што сведчыць аб усадцы пасля другой тэрмічнай апрацоўкі.

Па аналогіі з печамі Вавельскага замка ў Кракаве можна лічыць, што печы Мірскага палаца па форме былі падобныя на познагатычныя вежы: унізе двух'ярусны квадрат або прамакутнік, а над ім — купал, аздоблены спецыяльнай кафляй-дахоўкай з малюнкам «рыбінай лускі» [24].

---

[23] Трусаў А. А. Старадаўніх муроў адраджэнне: Мінулае і сучаснасць Лідскага замка. Мн., 1990. С. 40.

[24] Piakiewicz-Dereniowa M. Rekonstrukcja dawnych Wawelskich pieców kaflowych // Biuletyn Historii sztuki. 1960. T. XXII. S. 331—332.

У некаторых памяшканнях паўночнага корпуса замкавага палаца былі печы толькі з зялёнай кафлі. Асноўныя аб'ёмы іх складаліся з кафляў, аздобленых геаметрычным арнаментам. Гзымсы гэтых печаў былі зроблены з кафлі, якая мела складаны профіль. Ніжняя частка яе ўпрыгожана выявамі анёлаў з крылцамі, а верхняя — малюнкамі дубовых лістоў (мал. 89 : *10*). У шурфе падэшвы курціны бастыённай сістэмы каля ўсходняга корпуса замкавага палаца ў 1991 г. знайшлі фрагмент паліхромнай кафлі-маскарона 17 ст. з выявай галавы анёла з крыламі. Па версе печы ішлі кафлі-гарадкі стрэлападобнай формы (мал. 90 : *7*).

Вялікую цікавасць уяўляюць фрагменты сюжэтнай паліхромнай кафлі. Зроблена рэканструкцыя карнізнай і паясковай кафлі з рознымі сюжэтамі. На цёмна-сінім фоне шырокай часткі гзымсавай кафлі маюцца выявы фігур людзей-анёлаў і фантастычных птушак, пакрытыя белай палівай, а таксама светла-зялёныя кветкі. Вузкая частка кафлі аздоблена малюнкам птушыных (магчыма, арліных) пер'яў (мал. 89 : *9*).

У сярэдзіне паясковай кафлі на белым фоне змешчана светла-жоўтая кветка-карона, ад якой у абодва бакі адыходзяць галінкі з лістамі, падобнымі да дубовых. Канцы гэтых галінак завяршаюць маленькія цёмна-карычневыя галовы цмокаў, аздобленыя невялічкімі каронамі (мал. 88 : *16*). Памеры вонкавай пласціны паясковай кафлі 10×22 см. Знойдзены адзін фрагмент, дзе на цёмна-сінім фоне змешчаны малюнак белага каня-цмока (мал. 89 : *4*).

Сабраны кавалкі паліхромнай зялёнай кафлі з выявамі фігур міфалагічных ільвоў або грыфонаў (мал. 89 : *8*). Асаблівае распаўсюджанне гэты матыў атрымаў у гарадах паўночнай і ўсходняй Беларусі (Віцебск, Магілёў, Мсціслаў, Крычаў, Чачэрск). У якасці прыкладу можна прывесці віцебскую кафлю [25].

Спецыфічна мірскім варыянтам арнаменту можна лічыць сіметрычныя выявы хімер — фантастычных істот, якія нясуць на сабе адбітак індывідуальнасці мясцовага майстра. Гзымсавая кафля з такім малюнкам (мал. 89 : *3, 5, 7*), як непаліваная, так і пакрытая зялёнай палівай, знойдзена на тэрыторыі замка і мястэчка. У мястэчку знойдзена таксама цікавая сценная кафля з рэалістычнай выявай рыбіны (мал. 89 : *17*).

У нашай калекцыі ёсць амаль цэлая гзымсавая кафля, якая мае складаны профіль (мал. 89 : *10*). На ніжняй шырокай частцы размешчана галава анёла з крыламі, а верхняя аздоблена раслінным арнаментам. Кафля з рознымі варыянтамі анёлаў з крылцамі вядома амаль у кожным беларускім горадзе 17 ст. Найбольшае падабенства да мірскай мае навагрудская кафля [26].

Мірскія печы ўпрыгожвалі разнастайныя кафлі-каронкі. У цэнтры, пад пячным карнізам, размяшчаліся вялікія каронкі, а па ўсяму карнізу ішлі маленькія (вышыня адной з іх, што захавалася цалкам, 11 см). Найбольшую цікавасць уяўляе фрагмент вялікай паліхромнай каронкі з датай 1583 г. і выявай кветак у вазоне (мал. 90 : *1*).

Выяўлена шмат кавалкаў кафлі з раслінным арнаментам. Цікавасць уяўляюць два фрагменты зялёнай кафлі з малюнкам кветкі ў вазоне — раннебарочны стыль (мал. 88 : *8, 9*).

Шырока былі распаўсюджаны ў 16—першай палове 17 ст. сценныя кафлі з чатырохчасткавым раслінным або геаметрычным арнаментам.

---

[25] Левко О. Н. Витебские изразцы 14—18 вв. Мн., 1981. Рис. 3, 8, 12.

[26] Овсянников О. В. Архитектурно-декоративная керамика 16—17 вв. из Новогрудка // Кратк. сообщ. Ин-та археологии АН СССР. 1969. Вып. 120. Рис. 53 : 2.

Найбольш раннія — кафліны другой паловы 16 ст., у якіх знешняя пласціна падзелена на чатыры часткі-квадраты з паглыбленымі плоскасцямі (мал. 88 : *1—3, 5*).

Амаль цэлая кафля другой паловы 16 ст. знойдзена ў шурфе каля падмурка паўночнай сцяны замка. Яе вонкавая пласціна (17,5×17,5 см) упрыгожана геаметрычным арнаментам, які развіўся на аснове квадрата. Плошча пласціны падзелена на чатыры роўныя часткі-квадраты, сярэдзіна якіх заглыблена да 1,5 см. Кафля мае квадратную румпу вышынёй 6 см, у якой ёсць скразная адтуліна для дроту, зробленая пальцам. Для лепшага замацавання на вонкавай паверхні румпы маюцца баразны. Кафля зроблена з гліны з дамешкамі пяску, у сярэдзіне чарапка ёсць палоска масы шэрага колеру, што сведчыць пра невысокую тэмпературу абпалу. Таўшчыня вонкавай пласціны кафлі 2 см, румпы — 1 см.

Геаметрычны арнамент (поле, падзеленае на чатыры квадраты) сустракаецца толькі на зялёнай кафлі з такім арнаментам. Гэтая кафля мела дзве вонкавыя пласціны, якія стваралі вугал у 90°. Кожная пласціна роўная палове памеру сценнай кафлі. Шырыня адной з пласцін 9 см. На некаторых кафлях з геаметрычным арнаментам сустракаюцца лацінскія літары M i L (мал. 88 : *3*).

Памеры пласціны кафляў з геаметрычным арнаментам канца 16— першай паловы 17 ст. вагаюцца ад 17,1×17,3 да 10,1×20,2 см. Таўшчыня пласціны 1,2 см, румпы — 0,9—1,5 см, вышыня румпы — 8,3—9 см. Да кафлі з чатырохчасткавай сіметрыяй можна аднесці выраб з крыху паглыбленай вонкавай паверхняй з дыяганальна пракрэсленымі рэбрамі. Датуецца ён сярэдзінай—другой паловай 16 ст. Памеры яго 14,3×14 см (мал. 88 : *7*).

Некалькі кавалкаў зялёнай карнізнай кафлі ўпрыгожана рэльефным малюнкам, які нагадвае рыбіну луску. Падобная кафля вядома з раскопак Вільнюскага замка [27]. Сабраны фрагменты сценнай тэракотавай і зялёнай кафлі, вонкавая пласціна якой аздоблена арнаментам, што складаецца з геаметрычных і раслінных элементаў (поле, падзеленае на плоскасці косымі штрыхамі; кожная палоска запоўнена малюнкамі невялічкіх лісткоў, якія крыху падобныя на лісткі канюшыны).

Варыянты кафлі, вонкавая пласціна якіх аздоблена малюнкам, пабудаваным на прынцыпах чатырохчасткавай сіметрыі, вельмі разнастайныя. Мы вылучаем 9 асноўных варыянтаў.

1-ы варыянт. Памеры вонкавай пласціны 18,5×18,5 см, таўшчыня рамкі 0,6 см. Гэта квадрат, падзелены двума крыжамі — косым і прамым, на дыяганалях косага крыжа маюцца па два лісты аканту, адгорнутыя да знешніх кутоў квадрата. Сустракаліся зялёнапаліваныя і тэракотавыя экземпляры (мал. 91 : *17*).

2-гі варыянт. Памеры 18,7×18,7 см; таўшчыня рамкі 0,5—0,8 см. Датуецца канцом 16—пачаткам 17 ст. У цэнтры кампазіцыі размешчаны па дыяганалі падвоены квадрат, унутры якога сіметрычныя кропачкі і стрэлкі. Ад кутоў квадрата адыходзяць лініі-лопасці, якія ўтвараюць крыж. У кутах па дыяганалі размешчаны стылізаваныя кветкі лілей. Існуе некалькі назваў гэтага варыянта (мал. 91 : *1—3*).

3-ці варыянт. Памеры 18,5×20,8 см; рамка падвоеная, агульная шырыня яе 0,7 см, датуецца 17 ст.; сустракаліся сценныя і кутнія кафлі. Былі зялёнапаліваныя і тэракотавыя адзінкі. У кутах квадрата дзевяці-

---

[27] Таутавичюс А. Изразцы Вильнюсского замка 16—17 вв. Вильнюс, 1969. Мал. 69.

пялёсткавая кветка ў кругах, злучаных паміж сабой паўкругамі і ромбамі (мал. 91 : *18*).

4-ты варыянт. Памеры 19,5×19,5 см; датуецца канцом 16—пачаткам 17 ст., таўшчыня рамкі 0,9—1 см, сустракаліся зялёнапаліваныя, паліхромныя (2 тыпы расфарбоўкі), як сценныя, так і кутнія. У цэнтры кампазіцыі квадрат, размешчаны па дыяганалі з чатырохпялёсткавай кветкай у цэнтры. Ад кутоў квадрата разыходзяцца лопасці, завершаныя ланцужком кропачак і кветкамі-званочкамі. У кутах па дыяганалі знаходзяцца стылізаваныя лілеі (мал. 91 : *4—6*).

5-ты варыянт. Памеры 21×21 см, падвоеная рамка агульнай таўшчынёй 1,5 см; датуецца канцом 16—пачаткам 17 ст. Сустракаліся ў асноўным паліхромныя экземпляры, як сценныя, так і кутнія. Аднак знойдзена і некалькі тэракотавых кафлін (мал. 92). У цэнтры размешчана чатырохпялёсткавая кветка з рассечанымі пялёсткамі, у кутах — замкнутыя раслінныя валюты, злучаныя паміж сабой перамычкамі. Валюты і перамычкі ўтвараюць вакол кветкі дванаццацікутнік. Прастору паміж валютамі насупраць сярэдзін бакоў квадрата займаюць паловы чатырохпялёсткавых кветак, такіх самых, як цэнтральная (мал. 91 : *8*). Кафлі з такім малюнкам з'яўляюцца спецыфічнымі для Міра, для іншых гарадоў Беларусі нехарактэрныя.

6-ты варыянт. Памеры 19,5×20 см, таўшчыня рамкі 0,7 см, сустракаліся непаліваныя, зялёнапаліваныя і паліхромныя адзінкі, сценныя і кутнія. У цэнтры кампазіцыі — размешчаны па дыяганалі квадрат, у які ўпісана чатырохпялёсткавая кветка (але ў адрозненне ад варыянта 5 яна больш нагадвае крыж). Насупраць кутоў цэнтральнага квадрата размешчаны павернутыя да знешняга боку кветкі-званочкі. У кутах — па дыяганалі — стылізаваныя лілеі (мал. 91 : *4—6*).

7-мы варыянт. Памеры 18,7×18,7 см, шырыня падвоенай рамкі 0,7—0,8 см, датуецца канцом 16—пачаткам 17 ст., вядомы сценныя і кутнія кафлі з такім малюнкам. Сустракаліся зялёнапаліваныя і паліхромныя фрагменты. Арнамент складаецца з маўрэсак, 4 з якіх утвараюць крыж у цэнтры і 4 закампанаваны па кутах. Сустракаюцца паліхромныя фрагменты з сінім фонам і белым малюнкам і наадварот (мал. 91 : *7, 9*).

8-мы варыянт. Зялёнапаліваная кафля памерам 18,5×18,7 см, шырыня рамкі 0,7 см, датуецца канцом 16—пачаткам 17 ст. У цэнтры па дыяганалі размешчана шматпялёсткавая кветка, па кутах — маўрэскі (мал. 91 : *11*).

9-ты варыянт. Сустракаліся тэракотавыя і зялёнапаліваныя вырабы, памеры 18,7×19 см, шырыня рамкі 0,7 см, датуецца кафля канцом 16—пачаткам 17 ст. У цэнтры размешчана чатырохпялёсткавая кветка з міндалепадобнымі пялёсткамі. Па кутах размешчаны стылізаваныя лілеі, разгорнутыя вонкі (мал. 91 : *19*). Знойдзена таксама непаліваная кафля з вонкавай пласцінай, аздобленай малюнкам, які можна лічыць варыянтам 9а (мал. 91 : *10*).

З усіх прыведзеных вышэй варыянтаў кафлі з раслінным і геаметрычным арнаментам найбольш пашыраны на Беларусі ў першай палове 17 ст. варыянт 6[28].

Кафля першай паловы—сярэдзіны 17 ст., знойдзеная ў мястэчку, шмат у чым падобная да кафлі з Мірскага замка. Аднак сярод кафлі з мястэчка можна выдзеліць два тыпы кафлі, не ўласцівыя для замка. У

---

[28] Розенфельдт Р. Л. Белорусские изразцы // Древности Восточной Европы. М., 1969. С. 180. Мал. 1 : 2.

першую чаргу гэта геральдычная кафля (мал. 95), кафля з выявай гронкі вінаграду (мал. 88 : *9, 10*).

Пасля шматлікіх войнаў і разбурэнняў сярэдзіны 17 ст. Мірскі замак аднаўляецца, і ўсе аднаўленчыя працы былі закончаны да 1690 г.[29]

У канцы 17 ст. у замку ўжо амаль не засталося печаў з паліхромнай кафлі, бо пад час раскопак мы знайшлі толькі некалькі фрагментаў бязрамачнай кафлі канца 17—пачатку 18 ст., пакрытых шматкаляровай палівай (мал. 91 : *14*). Пры расчыстках падмуркаў аднапавярховых пабудоў, зробленых у 17 ст., было сабрана шмат непаліванай кафлі другой паловы—канца 17 ст., аздобленай у стылі позняга барока (у цэнтры вонкавай пласціны размешчаны картуш складанай формы) (мал. 93). Прычым сабрана як сценная, так і кутняя кафля[30].

Відаць, да сярэдзіны—другой паловы 17 ст. адносіцца фрагмент тэракотавай кафлі, на якой вельмі нізкім рэльефам зроблены малюнак трускалак (мал. 91 : *15*). Аналагічная кафля знойдзена і ў мястэчку.

Акрамя цэлай кафлі сабрана шмат тэракотавых кавалкаў ад кутніх калонак печаў і гзымсавай кафлі другой паловы 17 ст.

Тры вялікія фрагменты кутняй калонкі печы (шырыня 8 см) упрыгожаны малюнкам, які нагадвае перавітую жгутам балясіну (мал. 90 : *10*).

У канцы 17—пачатку 18 ст. печы ў замку і мястэчку пачалі абліцоўвацца бязрамачнай кафляй з дывановым арнаментам[31] (мал. 91 : *16*).

У 18—пачатку 19 ст. печы ў Міры складаліся з гладкіх тэракотавых, зялёнапаліваных, пакрытых белай ці светла-блакітнай палівай сценных і прафіляваных гзымсавых кафлін без арнаменту. Па кутах размяшчаліся кутнія кафлі з вітымі балясінамі.

Пасля войнаў канца 18 і пачатку 19 ст. замак зноў разбураецца і прыходзіць у заняпад. Толькі ў 20—30-я гады 20 ст. апошні гаспадар Мірскага замка, князь Святаполк-Мірскі, аднавіў усходнюю частку палаца і тры замкавыя вежы. У адноўленых памяшканнях зрабілі каміны і печы з белай, карычневай і сіняй паліванай кафлі. Але пад час Вялікай Айчыннай вайны замак значна пацярпеў і інтэр'еры ўсіх памяшканняў палаца і замкавых вежаў былі канчаткова страчаны.

З 1983 г. ідзе рэстаўрацыя Мірскага замка. Адзінымі крыніцамі для ўзнаўлення яго старадаўніх інтэр'ераў могуць быць толькі пісьмовыя сведчанні і археалагічныя матэрыялы.

Сабраны, апрацаваны і часткова адрэстаўраваны матэрыял, асабліва цэлыя экземпляры паліхромнай кафлі, значна папоўніць нашы веды пра развіццё беларускага кафлярства і дапаможа рэстаўратарам аднавіць інтэр'еры Мірскага палаца.

## БУДАЎНІЧЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ

**Цэгла.** Пры раскопках Мірскага замка было сабрана шмат вялікапамернай цэглы пачатку 16 ст. Сярэднія памеры асноўнага фармату цэглы, з якой складзены замкавыя муры ў пачатку 16 ст., дасягаюць 29,5—30×14,5×9—9,5 (да 10) см. Сустракаецца цэгла і іншых фарматаў, але ў меншай колькасці (28—28,5×14×8,5—9,5 см і 29,5—30×15,5—16×9—9,5 см). У муроўцы замкавых сцен ужывалася і перапаленая цэгла-клінкер цёмнай афарбоўкі. Цэгла аналагічнага колеру і фарматаў

[29] Калнин В. В. Мирский замок. Мн., 1986. С. 17.
[30] Трусаў А. А. Беларускае кафлярства. Мн., 1993. С. 38.
[31] Краўцэвіч А. К., Якшук Г. М. Стары Мір. С. 58, Мал. 17 : 13.

прасочана А. М. Кушнярэвічам пры абследаванні муроўкі касцёла ў Іўі, які быў збудаваны да 1499 г.[32]

Цэгла з Мірскага замка (за выключэннем клінкера) чырвонага колеру, на верхняй шырокай паверхні (пасцелі) цагліны слабыя адбіткі пальцаў, гліняная маса мае розныя дамешкі. На некаторых экземплярах можна заўважыць сляды дажджу і адбіткі лап розных жывёл (у першую чаргу катоў і сабак). Адна цагліна нават мае адбітак нагі дзіцяці (мал. 85 : *18—23*).

Акрамя звычайнай цэглы будаўнікі Мірскага замка ўжывалі і профільную цэглу, з якой выкладвалі розныя дэталі. Профільная цэгла з Мірскага замка выразалася са звычайнай цэглы-сырца прамакутнай формы і затым абпальвалася (мал. 85 : *18, 19*; 97).

На некаторых цаглінах Мірскага замка маюцца клеймы цагельнікаў. Упершыню на іх звярнуў увагу і надрукаваў цагліну з двума клеймамі па тычку з муроўкі цэнтральнай вежы-брамы В. В. Калнін[33] (мал. 85 : *26*).

Мы знайшлі яшчэ некалькі цаглін з клеймамі ў Мірскім замку. Дзве цагліны знаходзяцца ў муроўцы сцен цэнтральнай вежы-брамы (мал. 85 : *27, 29*), другія дзве з клеймамі на тычках выяўлены ў муроўцы заходняй сцяны замка, на поўнач ад вежы-брамы (мал. 85 : *29*), і адзін кавалак цагліны з кляймом знойдзены ў культурным слоі (мал. 85 : *25*).

Цікава, што адзін тычок перапаленай цагліны-клінкера цалкам запоўнены адбіткам штампа майстра-цагельніка 16 ст. (мал. 85 : *27*). Уся вышэйзгаданая цэгла адносіцца да першага «гатычнага» будаўнічага перыяду і датуецца першай паловай 16 ст.

Другі будаўнічы перыяд Мірскага замка прадстаўлены цэглай канца 16—пачатку 17 ст. Так, перадбрам'е ля галоўнай вежы Мірскага замка складзена з добра абпаленай цэглы-пальчаткі чырвонага колеру. Яе сярэднія памеры 27,5—24×13,5—12,5×6—6,5 см. З такой жа цэглы (памеры 26,5—27×12,5—13×6,5—6,7 см) складзены і Мірскі касцёл, збудаваны ў гэтыя часы.

На адной з цаглін перадбрам'я мы знайшлі на тарцы адбітак пальцаў цагельніка (мал. 85 : *30*).

Замкавы палац складзены з цэглы-пальчаткі памерам 27—27,5×13—13,5×7,5 см. На адной з цаглін муроўкі палаца выяўлена метка цагельніка (мал. 85 : *24*).

Шмат цэглы 17 ст. знойдзена і ў мястэчку. Яе фармат падобны да фармату цэглы перадбрам'я, замкавага палаца, аднапавярховых прыбудоў да замкавых муроў, а таксама цэглы, з якой збудаваны Мікалаеўскі касцёл. Непадалёку ад касцёла А. К. Краўцэвіч прасачыў падмуркі будынка 17 ст., дзе акрамя камянёў ужывалася цэгла-пальчатка фарматам 27—27,5×12×6,5 см. У гэтым будынку ён раскрыў ніжнюю частку кафлянай печкі другой паловы 17 ст. Яна была складзена з цэглы памерам 27,5×13,5×8 см і 28×7×9 см на гліне.

Побач з гэтым будынкам даследчык знайшоў рэшткі ганчарнага горна. Цікава, што цэнтральная частка горна — «дзядок» была зроблена з 10 цаглін-сырцоў, пакладзеных крыж-накрыж. Сярэднія памеры гэтай цэглы 27,5—28,5×14—14,5×7,5—8 см (мал. 98).

**Дахоўка.** Знойдзены шматлікія фрагменты пляскатай дахоўкі з

---

[32] Кушнярэвіч А. М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993. С. 48—49.

[33] Калнин В. В. Замок в Мире; Ён жа. Мирский замок. Мн., 1986. С. 9.

акруглым наском і прамакутнай пяткай, на якой размешчаны мацавальны шып. У першай палове 16 ст. выкарыстоўвалася дахоўка чырвонага колеру з акруглым ці трохкутным мацавальным шыпом. Яе даўжыня 42—43 см, шырыня 16—17 см, таўшчыня 1,8—3,5 см (мал. 85 : *1, 2, 4*). Лістападобная дахоўка ішла на вежы з востраверхай формай даху (мал. 85 : *3*). У гэты час выкарыстоўвалася і спецыяльная каньковая дахоўка з доўгім (9 см) дэкаратыўным шыпом з падвоеным ці вострым канцом (мал. 100). Да кроквау яна мацавалася з дапамогай цвіка, для якога ў верхняй частцы дахоўкі мелася спецыяльная адтуліна (мал. 85 : *6—9*). Унутраны бок такой паўцыркульнай дахоўкі часам мае барозны, якія перакрыжоўваюцца, для лепшага мацавання на вапнавай рошчыне (мал. 85 : *10*). У 1983—1991 гг. былі знойдзены фрагменты зялёнапаліванай каньковай дахоўкі. Кавалкі аналагічнай вільчаковай зялёнай паліванай дахоўкі знойдзены намі пад час раскопак на тэрыторыі Старога замка ў Гродне[34]. Некалькі кавалкаў дахоўкі 17 ст., пакрытай зялёнай палівай, раскапаны таксама на тэрыторыі мястэчка.

Да 17 ст. адносіцца аналагічная па форме, таксама пляскатая, але танчэйшая дахоўка з прамакутным ці трапецападобным мацавальным шыпом (мал. 85 : *4*). У 18 ст. дахі крыліся таксама дахоўкай, але хвалістай, т. зв. «галандскай» (мал. 85 : *5*).

**Пліткі падлогі.** Былі знойдзены квадратныя і шасціграныя керамічныя пліткі як часоў рамонту 20—30-х гадоў 20 ст., так і першапачатковыя (мал. 85 : *15—17*). Пліткі 20 ст. адрозніваюцца характарам глінянага цеста і апрацоўкай. У 17 ст. існавалі два наборы керамічных плітак падлогі таўшчынёй 3 і 4 см (мал. 101). Варта адзначыць, што акрамя непаліваных плітак падлогі чырвонага колеру ўжываліся і перапаленыя керамічныя пліткі цёмнага колеру (мал. 102). У канцы 19—пачатку 20 ст. акрамя плітак, падобных да першапачатковых узораў 17 ст., ужываліся і шасціграныя метлахскія пліткі, зробленыя на заводах Харкава. Пліткі падлогі прамакутнай ці шасцікутнай формы 17—18 стст. былі знойдзены і ў культурным слоі мястэчка.

## ВЫРАБЫ З КАМЕНЮ

У канцы 16—пачатку 17 ст. пры перабудове палаца ўжываліся каменныя (у асноўным вапняковыя) дэталі для абрамоўкі дзвярных і аконных праёмаў, вырабляліся каменныя кансолі (мал. 14 : 7) і балясіны для балконаў. З вапняку зроблены і дзвярны партал у Мікалаеўскім касцёле.

Да каменных вырабаў можна таксама аднесці кавалкі тачыльных брускоў, знойдзеных у мястэчку.

## ВЫРАБЫ СА ШКЛА *

Пад час даследаванняў замка была знойдзена вялікая колькасць шкляных вырабаў 16—20 стст. Усе яны паводле функцыянальнага прызначэння падзяляюцца на 2 вялікія групы: аконнае (і вітражнае) шкло

[34] Трусаў А. А., Собаль В. Е., Здановіч Н. І. Стары замак у Гродне XI—XVIII стст. Мн., 1993. Мал. 38.

* Шкляныя вырабы на працягу амаль усіх гадоў, акрамя 1990 і 1991, апрацоўваліся А. Б. Сташкевіч, а за 1990—1991 гг.— Д. Ю. Марухінай. Мы цалкам абапіраемся на вынікі гэтых даследаванняў.

і шкляны посуд (мал. 103, 104, 105). У апошняй групе найбольш фрагментаў належыць начынням для пітва (мал. 103, 104 : *16—18*). Стопкі прадстаўлены фрагментамі пляскатых масіўных ці ўвагнутых конусападобных донцаў (мал. 103 : *8, 11—13*). Знойдзены фрагменты і цэлыя стопкі таксама і на тэрыторыі мястэчка.

Найбольш шматлікі від посуду — шкляніцы канца 16—17 ст. на цыліндрычным петлепадобным паддоне ці без яго (мал. 103 : *3—5, 6—9*) і з конусападобным паддонам з накладным фігурным жгутом вакол донца ці без жгута (мал. 103 : *1, 2, 7*). Абодва тыпы шкляніц знойдзены і на тэрыторыі мястэчка (мал. 103 : *14, 17*).

Найбольш вытанчаны, прыгожы і тыпалагічна разнастайны від посуду сярод начынняў для пітва — гэта келіхі (мал. 104 : *1—11*). Храналагічныя адрозненні датычацца пераважна формы ножкі і стапы: ад сплюшчаных, пасаджаных амаль адзін на адзін «яблыкаў» да 1—2 балясін, што падзяляюцца дыскамі. Ножкі келіхаў 18—19 стст. дэкарыраваны гравіраваннем. Магчыма, гэта прадукцыя ўрэцка-налібоцкай мануфактуры. На адной з ножак келіха ёсць відарыс ільва і крыжа.

Сярод начыння для захоўвання вадкасцяў 17—18 стст. пераважаюць кварты з прамакутным ці квадратным тулавам з крыху ўвагнутым унутр донцам (мал. 105 : *3*). Яны рабіліся як адна-, так і двухразовым (двайным) наборам. Горлы цыліндрычнай формы афармлены жгутом. Як сведчыць фрагмент кварты з мястэчка (мал. 105 : *4*), на іх часам маглі ставіць пячаткі. Акрамя квартаў з цыліндрычным горлам ужываліся таксама кварты з горлам-раструбам (мал. 105 : *5, 6*).

Найбольш распаўсюджаным відам тарнага посуду з 18 ст. сталі бутэлькі, што мелі цыліндрычнае тулава і ўвагнутае донца. Горла іх афармлялася аналагічна горлу квартаў (мал. 105 : *8*).

Невялікія бутлікі (мал. 105 : 7) выконвалі ролю аптэчнага посуду.

Адзінкавымі экземплярамі прадстаўлены шкляныя куфлі і збаны (мал. 104 : *12, 14, 15*). Як правіла, тулава іх аздаблялася наляпнымі стужкамі.

Аконнае шкло як у замку, так і ў мястэчку мае прамакутную і акруглую форму (мал. 104 : *16—18*), але гэта не выключае магчымасці існавання шкельцаў складанай формы (трохкутнай, трапецападобнай і г. д.) згодна з формай аконных пераплётаў.

Сярод кавалкаў аконнага шкла ёсць фрагмент распіснога танкасценнага вітража, магчыма, венецыянскай работы. Не выключаецца таксама наяўнасць прывезеных з Венецыі шкляных начынняў 16 ст.

Цікавае начынне званападобнай формы, выяўленае пад час даследавання касцёла А. М. Кушнярэвічам (мал. 103 : *15*). Начынні падобнай формы знойдзены ў вялікай колькасці пры раскопках кармяліцкага касцёла ў Мсціславе[35]. Магчыма, яны выкарыстоўваліся ў якасці царкоўнага начыння ці выконвалі нейкую пэўную функцыю ў аздабленні інтэр'ера.

## ВЫРАБЫ З МЕТАЛУ І КОСЦІ

Металічныя вырабы з раскопак Мірскага замка ўжо станавіліся аб'ектам спецыяльнага вывучэння. Знаходкі з замка, здабытыя ў экспедыцыях 1980—1984 гг., публікаваліся ў асобным артыкуле разам з металіч-

[35] Яніцкая М. М., Сташкевіч А. Б. Мсціслаўскае шкло 16—19 стст. // Помнікі культуры: Новыя адкрыцці. Мн., 1985. С. 83—93.

нымі вырабамі, выяўленымі ў Лідскім замку [36]. Матэрыялы з раскопак у пасёлку разглядаліся ў адпаведным параграфе манаграфіі «Стары Мір» [37].

Калекцыя металічных вырабаў з раскопак у замку значна большая за мястэчковую па колькасці знаходак і разнастайнасці асартыменту. Гэта тлумачыцца як розніцай у раскапанай плошчы, так і球 рознымі сацыяльнымі статусамі аб'ектаў. У сядзібе феадала дарагія металічныя рэчы ўжываліся значна шырэй, чым у дамах мястэчкоўцаў.

Найбольш шматлікую катэгорыю знаходак складаюць цвікі. Яны падзяляюцца на будаўніча-мацавальныя, падкоўныя, дэкаратыўныя. Больш за ўсё знойдзена будаўніча-мацавальных цвікоў. Яны аднолькавыя што ў замку, што ў горадзе. Цвікі маюць розную даўжыню (ад 7—8 да 25 см), прамакутную ці квадратную ў сячэнні рабочую частку. Пачынаючы прыблізна з сярэдзіны даўжыні, яна раўнамерна звужваецца да вастрыя. Плешкам цвікоў нададзена розная форма: круглая, прамакутная, квадратная, сплюшчаная з двух бакоў, у выглядзе васьмёркі.

Падкоўныя цвікі (ухналі) маюць даўжыню каля 3—4 см, невялікую прамакутную ці квадратную плешку.

Невялікія па даўжыні цвікі (не даўжэй 5 см) з непрапарцыянальна вялікай круглай, як кажуць, моцна раскляпанай галоўкай (да 3 см у дыяметры) належаць да дэкаратыўна-мацавальных, яны ўжываліся для мацавання шпалераў, а таксама для ўпрыгожвання і мацавання фурнітуры на скрынях, шафах, дзвярах і г. д.

Не розняцца між сабой гарадскія і замкавыя абутковыя падкоўкі. Гэтая чыста утылітарная рэч, якая засцерагала абцасы ад хуткага зносу, не належала да ліку прэстыжных і мела шырокае распаўсюджанне сярод розных сацыяльных слаёў насельніцтва. Гэта адзіная катэгорыя металічных вырабаў, якая ў горадзе прадстаўлена раўнацэнна з замкам па колькасці, нягледзячы на розніцу ва ўскрытай плошчы.

Менавіта на падставе мірскіх знаходак прапануецца эвалюцыя формы падковак (мал. 106 : *1—5*). Самыя старажытныя падкоўкі, якія датуюцца канцом 15—16 ст., маюць выгляд высокай (да 2,5 см) дугападобнай пласціны з трыма шыпамі (па краях і ў цэнтры). Напачатку мы нават не маглі зразумець, як такая падкоўка мацавалася на абцасе. Дзякуючы знаходцы ў Менску падэшвы бота разам з падкоўкай высветлілася, што яна аблягала абцас звонку і ніжні яе край знаходзіўся трохі ніжэй абцаса. Падкоўка трымалася на боце дзякуючы шыпам, сагнутым пад прамым вуглом да плоскасці пласцінкі і ўвагнаным у абцас. Варта адзначыць, што падкоўкі выраблялiся з мяккага жалеза, сярод знаходак маюцца экземпляры, сцёртыя ад доўгага выкарыстання на значную частку вышыні. У далейшым змяненне формы падковак адбывалася шляхам памяншэння вышыні і павелічэння шырыні. Урэшце падкоўкі сталі пляскатымі, падобнымі да сучасных, шыпы зніклі, замест іх з'явіліся адтуліны для мацавальных цвікоў. У 17 ст., калі ўвайшлі ў моду вузкія абцасы, форма падковак не змянялася, толькі вар'іраваліся памеры.

У сярэднявечным побыце, як і ў сучасным, шырока выкарыстоўваліся нажы. Праз іх вывучэнне можна вывесці, што ў познім сярэднявеччы ў адрозненне ад 11—13 стст. найбольш распаўсюджаным відам быў нож не з чаранком, а з прыкляпанымі тронкамі (мал. 106 : *9*).

[36] Трусаў А. А., Краўцэвіч А. К., Сагановіч Г. М. Металічныя вырабы з раскопак Лідскага і Мірскага замкаў (14—18 стст.) // Весці Акадэміі навук БССР: Сер. грамад. навук. Мн., 1984. № 4. С. 73—83.

[37] Краўцэвіч А. К., Якшук Г. М. Стары Мір. С. 49—51.

Як на замку, так і ў горадзе выяўлены дэталі фурнітуры, і на замку, натуральна, яе намнога больш. Дзвярныя прабоі і фігурныя завесы ёсць і там і тут (варта адзначыць завесу ў выглядзе літары «S» з замка). А вось такія рэчы, як аконныя вугалкі, свінцовыя пераплёты шыб, вятроўніцы (прыстасаванне, якімі мацаваліся шыбы, мал. 106 : *8*), знойдзены толькі на замку. Відавочна, аконныя пераплёты са свінцу ці волава меліся ў 16—17 стст. і ў горадзе, але толькі ў асобных грамадскіх будынках, дамах багатых гараджан. Падобныя знаходкі цяжка выявіць на даволі вялікім па плошчы паселішчы.

У замку былі знойдзены тры конскія падковы 16—17 стст., якія адрозніваюцца паміж сабой асаблівымі формамі, колькасцю дзірак пад цвікі [38].

У калекцыі металічных вырабаў з замка знаходзяцца чатыры шпоры, дакладней, іх фрагменты. У раскопе 31 (пласт 6, квадрат 27) выяўлены амаль цэлы экземпляр, які датуецца 15—16 стст. (мал. 106 : *7,* раней не публікаваўся).

З рэдкіх знаходак варта адзначыць фрагмент алавянай талеркі з выявай герба Радзівілаў [39] і відэлец (мал. 106 : *6*).

Пасля публікацыі, прысвечанай металічным вырабам, знойдзеным у замку на працягу 1980—1984 гг., калекцыя папоўнілася новымі знаходкамі з экспедыцый 1989—1991 гг. У 1989 г. выяўлены трохшыпавыя абутковыя падкоўкі, замок трохкутнай формы (мал. 106 : *10*), сякера (мал. 106 : *11*), два нажы, дэталь клямкі, некалькі дзесяткаў каваных цвікоў. Усе названыя рэчы датуюцца 17 ст. Да 16—17 стст. можна аднесці палову ветраніцы для мацавання шыбы. Апрацоўку пяці медных манет зрабіў І. І. Сінчук. Тры з іх — солід 60-х гадоў 17 ст., а дзве — сярэдзіны 18 ст. (солід і грош).

Неабходна дадаць яшчэ некалькі слоў пра нумізматычны матэрыял з замка. Кожны год пад час раскопак знаходзілі ад 2 да 5 манет. Рэкордным стаўся 1983 г., калі была знойдзена 21 манета. Згодна з вызначэннем І. І. Сінчука, большасць з іх — соліды першай паловы 60-х гадоў 17 ст. Самая ранняя — солід 1596 г. Жыгімонта III Вазы, выбіты на рыжскім гарадскім манетным двары, а самыя познія — расійскія манеты і манеты Рэчы Паспалітай сярэдзіны—другой паловы 18 ст.

Невялікая калекцыя вырабаў з косці прадстаўлена арнаментаванымі ручкамі відэльцаў і ручкамі нажоў з накладных пласцінак (мал. 106 : *6, 9*).

Пад час шурфоўкі на замку ў 1990 г. знойдзены толькі дзве металічныя рэчы і абутковая падкоўка 17 ст., солід 1633 г. Георга Вільгельма (1619—1640 гг.) дыяметрам 16 мм, таўшчынёй 0,4 мм (вызначэнне І. І. Сінчука). Найбольш цікавай знаходкай з раскопак перадбрамнага ўмацавання ў 1991 г. стала ядро 17 ст. (мал. 106 : *12*).

Сабраная археолагамі калекцыя сярэднявечных рэчаў, нягледзячы на шматлікасць знаходак, не можа адлюстроўваць комплекс матэрыяльнай культуры пасёлка і замка ва ўсёй яго паўнаце. Несумненна, пад час далейшых раскопак будуць трапляцца кафліны з невядомым раней відам арнаменту, магчыма, новыя рэдкія формы керамічнага посуду, ці проста невядомыя унікальныя рэчы. У культурным слоі захавалася вельмі няшмат вырабаў арганічнага паходжання.

---

[38] Трусаў А. А., Краўцэвіч А. К., Сагановіч Г. М. Металічныя вырабы. Мал. 2 : 21, 22.

[39] Трусаў А. А., Краўцэвіч А. К., Сагановіч Г. М. Металічныя вырабы. Мал. 4; Трусов О. А., Чернявский И. М., Кравцевич А. К. Архитектурно-археологические исследования. Мал. 7.

Аднак ужо адкрытых да гэтага часу рэчаў цалкам дастаткова, каб скласці агульнае і адэкватнае ўяўленне аб характары побытавай матэрыяльнай культуры сярэднявечных жыхароў замка і паселішча, аб узроўні рамеснай тэхналогіі, аб прадуманасці і ўладкаванасці побыту. Як бачна з прадстаўленых матэрыялаў, бытавая культура замка і мястэчка ў нейкіх асноўных структурных элементах супадае. Гэтае супадзенне адлюстроўвае агульны ўзровень развіцця ганчарнай, кафлянай вытворчасці, вырабу будаўнічых матэрыялаў, шклянога посуду, развіцця вайсковай справы, будаўнічай тэхнікі і г. д. Разам з тым у побытавай культуры жыхароў замка і мястэчка маюцца пэўныя адрозненні, звязаныя з сацыяльным статусам іх носьбітаў. У замку мы бачым наяўнасць імпартнага (прывазнога) керамічнага і шклянога посуду ўжо ў 16—пачатку 17 ст., шырокае ўжыванне паліванай керамікі і паліхромнай кафлі, сталовых прыбораў на ўзор еўрапейскіх, фіксуем наяўнасць разнастайнага арнаменту на звычайных побытавых рэчах.

Сярод матэрыялаў з мястэчка прывазныя рэчы ў 17 ст.— рэдкасць, паліваная кераміка колькасна саступае дымленай, а пасля і глянцаванай, паўтараючы ў пераважнай большасці яе форму і арнаментыку.

У цэлым жа, мяркуючы па матэрыяльнай культуры, ішоў працэс безупыннага ўзаемадзеяння паміж двума слаямі адной сярэднявечнай культуры. Базуючыся на традыцыйнай народнай (у дадзеным выпадку мястэчковай) бытавой культуры, культура пануючага класа разам з тым з'яўлялася крыніцай, носьбітам еўрапейскіх навацый, якія пастурова засвойваліся і перапрацоўваліся ў адпаведнасці з народнымі традыцыямі і маёмаснымі магчымасцямі.

# Заключэнне

Даследаванне матэрыяльнай культуры Міра і Мірскага замка нельга лічыць закончаным. Тое, што прапанавана чытачу ў гэтай кнізе, уяўляе сабой хутчэй публікацыю сабраных пад час раскопак археалагічных матэрыялаў, чым аналітычную працу. Несумненна, больш дэталёвая апрацоўка знаходак з прыцягненнем аналагаў дазволіць здабыць яшчэ шмат каштоўнай інфармацыі.

Акрамя таго, магчымы працяг археалагічных раскопак у некаторых месцах каля замка і на многіх участках тэрыторыі пасёлка.

У пасёлку маецца вялікі прастор для археолагаў. Не завершана вывучэнне гарадскіх брамаў, не вырашана пытанне з месцазнаходжаннем ратушы, не даследавалася археалагічна Траецкая царква, рэшткі мураванай забудовы 19 ст. Не акрэслены дастаткова дакладна межы сярэднявечнага паселішча і г. д. Актуальнасць далейшага археалагічнага вывучэння пасёлка будзе ўзрастаць па прычыне інтэнсіўнай рэстаўрацыі замка. Каб належным чынам прымаць у замку замежных турыстаў, неабходна даводзіць да ладу пасёлак, праводзіць яго добраўпарадкаванне і аднаўленне гістарычнага вобліку. Тады спатрэбяцца буйныя даследаванні, у тым ліку і археалагічныя.

Галоўным вынікам нашай працы з'яўляецца амаль поўнае архітэктурна-археалагічнае вывучэнне аднаго з самых унікальных беларускіх замкаў — Мірскага. Упершыню быў прасочаны стратыграфічна некрануты слой паселішча другой паловы 15 ст., якое існавала да пабудовы замка. Знойдзеная ў гэтым пласце непаліваная кераміка і гаршковая кафля можа быць эталонам для датавання аналагічных знаходак з раскопак беларускіх гарадоў і мястэчак.

Найбольшую каштоўнасць уяўляе комплекс археалагічных знаходак 16—17 стст., які сведчыць аб высокім мастацкім і тэхналагічным узроўні тагачаснай беларускай матэрыяльнай культуры. Унікальная паліхромная кафля, венецыянскае шкло і паўднёванямецкая высокамастацкая кераміка гавораць аб тым, што тагачасная Беларусь з'яўлялася неад'емнай часткай заходнееўрапейскай цывілізацыі і нашы продкі былі яе носьбітамі.

У 1995 г. будзе святкавацца 500 год існавання Мірскага замка. Мы спадзяёмся, што наша кніга будзе сціплым укладам у скарбонку беларускай культуры, бо Мір і Мірскі замак заўжды застануцца яе візітнай карткай.

# Спіс ілюстрацый

Мал. 1. План-схема археалагічных даследаванняў у г. п. Мір.
Мал. 2. План-схема археалагічных даследаванняў у замку.
Мал. 3. Мірскі замак пасля аднаўленчых работ князя Святаполк-Мірскага ў 20—30-х гадах 20 ст. Архіўны здымак.
Мал. 4. Мірскі замак да пачатку рамонту 20—30-х гадоў 20 ст. Архіўны здымак.
Мал. 5. Замак. Раскоп 17 каля паўднёвай сцяны.
Мал. 6. Замак. Каля 30-х гадоў 20 ст. Каля цэнтральнай вежы бачны прыбудовы 17—18 стст.
Мал. 7. Замак. Раскопы 19—21, размешчаныя на месцы прыбудовы каля цэнтральнай вежы.
Мал. 8. Сістэмы муровак Мірскага замка: *1* — змешаная муроўка 16 ст.; *2* — гатычная дэкаратыўная муроўка 16 ст.; *3* — рэнесансавая муроўка канца 16 — пачатку 17 ст., *4* — падмурак перадбрам'я; *5* — падмурак палаца; *6* — муроўка сцяны перадбрам'я.
Мал. 9. *I* — рэшткі горна другой паловы 17 ст.; *II* — рэшткі пабудовы другой паловы 17 ст.; *III* — байніца пачатку 16 ст.; *IV* — арачны праход з галерэі па заходняй сцяне ў паўночна-заходнюю вежу, закладзены пры будаўніцтве палаца (*1* — белая тынкоўка, *2* — драўляныя дэталі 16 ст.).
Мал. 10. Замак. Раскопкі перадбрам'я.
Мал. 11. Сітуацыйны план замка пасля правядзення архітэктурна-археалагічных даследаванняў: *1* — развал кафлянай печы мяжы 15—16 стст. з першапачатковага паселішча; *2* — сметніца канца 16 — пачатку 17 ст.; *3* — позні вадасцёк, 20—30-я гады 20 ст.; *4* — рэшткі вадасцёкаў 16—17 стст.; *5* — рэшткі перадбрам'я канца 16 — пачатку 17 ст.; *6* — рэшткі кухні 17 ст.; *7* — рэшткі канюшні 17 ст.; *8* — фрагменты падмуркаў цаглянай вежачкі для захавання фуражу 17 ст.; *9* — рэшткі аднапавярховых гаспадарчых пабудоў 17 ст.; *10* — вылічаныя месцы размяшчэння цагляных слупоў-апораў мастка, які вёў у італьянскі сад; *10а* — выяўленыя падмуркі слупоў-апораў 17 ст.; *11* — падсыпка з бітай цэглы для апоры мастка; *12* — выемка для апоры мастка на грэбені курціны; *13* — рэшткі ганкаў палаца пачатку 17 ст.; *14* — фрагменты першапачатковай брукоўкі; *15* — рэшткі машчэння з плітак; *16* — фрагменты брукаванай пад'язной дарогі; *17* — калодзеж; *А* — сцены пачатку 16 ст.; *Б* — сцены канца 16 — першай паловы 17 ст.; *В* — прыбудовы 20—30-х гадоў 20 ст.
Мал. 12. Замак. Фрагменты абрамоўкі дзвярнога праёму. Архіўны здымак.
Мал. 13. Замак. Рэнесансавы палац. Вапняковае аздабленне дзвярных і аконных праёмаў. Архіўны здымак.
Мал. 14. Замак. Фрагменты рэнесансавых каменных дэталяў аздаблення палаца канца 16 — пачатку 17 ст.
Мал. 15. Замак. Перадбрам'е. Тычковая муроўка канца 16 — пачатку 17 ст.
Мал. 16. Замак. Падмуркі прыбудовы 17 ст. да паўднёвай сцяны.
Мал. 17. Замак: *1* — вадасцёк 20—30-х гадоў 20 ст.; *2, 3* — яма-сметніца канца 16 — першай паловы 17 ст.
Мал. 18. Замак. Аднаўленчыя працы на Мірскім замку ў 20—30-я гады 20 ст. Архіўны здымак.
Мал. 19. Замак. Аднаўленчыя працы на Мірскім замку ў 20—30-я гады 20 ст. Архіўны здымак.
Мал. 20. Г. п. Мір. Брукоўка двара канца 19 — пачатку 20 ст. (раскоп 1).
Мал. 21. Г. п. Мір. Шурф 1. Рэшткі розначасовых бруковак гандлёвай плошчы.
Мал. 22. Г. п. Мір. Рэшткі сутарэнняў мураванага будынка 17 ст. каля плошчы (шурф 6, квадрат 2).
Мал. 23. Г. п. Мір. Раскоп 2. Паўночны профіль.
Мал. 24. Г. п. Мір. Раскоп 4. Рэшткі кафлянай печкі другой паловы 17 ст. перад пачаткам разборкі развалу.
Мал. 25. Г. п. Мір. Раскоп 4. Кафляная печка другой паловы 17 ст. у працэсе разборкі развалу.

Мал. 26. Г. п. Мір. Траншэя 3. Муроўка сцяны Віленскай брамы.
Мал. 27. Г. п. Мір. Траншэя 4. Падмуркі Менскай брамы.
Мал. 28. Замак. Усходні профіль раскопу 29. Выразна бачна будаўнічая праслойка канца 15 — пачатку 16 ст. над пясчанай «падушкай».
Мал. 29. Замак. *I* — усходні профіль раскопу 29; *II* — усходні профіль раскопу 5.
Мал. 30. Замак. Непаліваны керамічны посуд з раскопу 5.
Мал. 31. Замак. Раскоп 31. Керамічны посуд з ямы-сметніцы каля замкавай сцяны.
Мал. 32. Г. п. Мір. Раскоп 1.
Мал. 33. Г. п. Мір. Шурф 1. Заходні профіль.
Мал. 34. Тыпалагічная класіфікацыя непаліваных гаршкоў 16—18 стст.
Мал. 35. Дымлены гладыш 18 ст. з Мсціслава.
Мал. 36. Непаліваныя гаршкі канца 15—17 ст. (*1—3* — замак і *4*, *5* — мястэчка).
Мал. 37. Тыпы непаліваных гаршкоў, знойдзеных на тэрыторыі мястэчка (раскопкі А. К. Краўцэвіча 1982—1983 гг.).
Мал. 38. Непаліваныя гаршкі з ручкай 17—18 стст.
Мал. 39. Непаліваныя макотры другой паловы 15—16 ст.
Мал. 40. Непаліванае начынне 16—18 стст. (*1—8* — замак; *9—11* — мястэчка).
Мал. 41. Фрагменты непаліваных арнаментаваных макотраў 16 ст.
Мал. 42. Непаліваная латка канца 16—17 ст.
Мал. 43. Фрагменты непаліванага начыння невядомага прызначэння са сметніцы 16—17 стст.
Мал. 44. Керамічны выраб невядомага прызначэння са слою канца 16—17 ст.
Мал. 45. Тыпалагічная класіфікацыя паліванага посуду з замка.
Мал. 46. Паліваныя гаршкі, кубкі і фрагменты біклаг канца 16—17 ст. (*1—5*, *10*, *11* — замак; *6—9*, *12* — мястэчка).
Мал. 47. Чырвонагліняны гаршчок канца 16—17 ст., арнаментаваны карбоўкай.
Мал. 48. Фрагменты паліваных белагліняных гаршка і кубкаў з замка (16 ст.).
Мал. 49. Фрагменты паліваных гаршкоў (*1—10*) і кубкаў (*11—13*) з мястэчка (16 — пачатак 19 ст.).
Мал. 50. Паліваная рынка 16—17 стст. з замка.
Мал. 51. Глыбокая рынка сярэдзіны — другой паловы 17 ст. з замка.
Мал. 52. Фрагменты глыбокіх (*1*, *2*) і плыткіх (*3—5*) рынак 16—17 стст. з замка.
Мал. 53. Ручкі рынак.
Мал. 54. Рынка тыпу II з сеткавым арнаментам па борціку (16 ст.).
Мал. 55. Паліваныя і распісныя талеркі 16—17 стст. з замка.
Мал. 56. Паліваная талерка, арнаментаваная з дапамогай шматрадковага грабеньчыка.
Мал. 57. Фрагменты талеркі канца 16 — першай паловы 17 ст., арнаментаванай карбоўкай.
Мал. 58. Паліваная талерка з надпісам ангобам па вонкавай паверхні.
Мал. 59. Талерка 17 ст. з роспісам чырвоным ангобам па белым ангобным фоне.
Мал. 60. Фрагменты распісных талерак 17 ст.
Мал. 61. Міска з вертыкальным борцікам 19 — пачатку 20 ст.
Мал. 62. Цэлыя паліваныя міскі 16—18 стст. з замка.
Мал. 63. Паліваныя і распісныя начынні для пітва 15—17 стст. (*1—4* — замак; *5—8* — мястэчка).
Мал. 64. Фрагменты посуду з роспісам па ангобным фоне.
Мал. 65. Паліваная біклага 17 ст. Мястэчка.
Мал. 66. Паліваны (*1*, *3—6*) і маёлікавы (*2*) посуд канца 16 — пачатку 20 ст. (*1*, *3—4*, *6* — замак; *2*, *5* — мястэчка).
Мал. 67. Керамічныя вырабы 16—18 стст. (*1—2*, *4—7*, *12*, *13*, *18—20* — замак; *3*, *8—11*, *14—17* — мястэчка).
Мал. 68. Паліваныя падсвечнікі 17 — пачатку 18 ст. з Магілёва.
Мал. 69. Паліваная арнаментаваная люлька другой паловы 17 ст.
Мал. 70. Непаліваныя белагліняныя люлькі 17—18 стст.
Мал. 71. Непаліваная цацка-свісцёлка з замка.
Мал. 72. Фрагмент цацкі-свісцёлкі «Конь» ці «Коннік».
Мал. 73. Непаліваны рыбалоўны грузік.
Мал. 74. Тыпалагічная класіфікацыя дымленых гаршкоў і макотраў 17—18 стст. (замак).
Мал. 75. Дымлены посуд 17—18 стст. (*1—4* — замак; *5—7* — мястэчка).
Мал. 76. Дымлены і глянцаваны посуд 18—19 стст. (*1—5* — замак; *6—10* — мястэчка).
Мал. 77. Дымлены посуд (збаны і гладышы) 17—18 стст. (*1—3*, *8—10* — замак; *4—7* — мястэчка).
Мал. 78. Фрагменты глянцаваных місак 18 — пачатку 19 ст. са Старога замка ў Гродне.

Мал. 79. Дымленая талерка з глянцаваным арнаментам канца 17—18 ст. з замка.
Мал. 80. Фрагменты паліхромнай керамікі канца 16 — першай паловы 17 ст.
Мал. 81. Паліваны гаршчочак на трох ножках канца 16—17 ст.
Мал. 82. Горла збана з «каменнай масы» з выявай маскарона 16 — пачатку 17 ст.
Мал. 83. Фрагмент верхняй часткі тарнага начыння 17 ст.
Мал. 84. Фрагменты бутэлькі з «каменнай масы» 18—19 стст.
Мал. 85. Замак. Архітэктурна-будаўнічая кераміка.
Мал. 86. Замак. Развал печы з гаршковай кафлі другой паловы 15 ст.
Мал. 87. Замак. Гаршковая кафля з круглым вусцем. Канец 15 — пачатак 16 ст.
Мал. 88. Кафля 16—17 стст.
Мал. 89. Кафля 16—17 стст.
Мал. 90. Гзымсавая кафля і кафлі-каронкі 16—17 стст. (*10* — кутняя кафля 18 ст.).
Мал. 91. Кафля канца 16—17 ст.
Мал. 92. Замак. Непаліваная кафля канца 16 — першай паловы 17 ст.
Мал. 93. Замак. Непаліваная кафля другой паловы 17 ст.
Мал. 94. Г. п. Мір. Паліваная кафля 17 ст. з раслінным арнаментам.
Мал. 95. Г. п. Мір. Паліваная кафля 17 ст. з геральдычным арнаментам.
Мал. 96. Замак. Фрагменты паліхромнай кафлі-медальёна.
Мал. 97. Замак. Круглая дэкаратыўная ніша на вежы-браме выкладзена з прафільнай цэглы 16 ст.
Мал. 98. Г. п. Мір. Горан другой паловы 17 ст. Цэгла-сырэц у апорным слупку.
Мал. 99. Замак. Фрагменты пляскатай дахоўкі пачатку 16 ст.
Мал. 100. Замак. Фрагменты дэкаратыўнага шыпа ад вільчаковай дахоўкі першай паловы 16 ст.
Мал. 101. Замак. Кавалкі плітак падлогі 17 ст.
Мал. 102. Замак. Падлога ганка каля ўсходняга корпуса палаца.
Мал. 103. Шкляніцы, чаркі і стопкі 16—18 стст. (*1—13* — замак; *14—17* — мястэчка).
Мал. 104. Келіхі і аконнае шкло 16—19 стст. (*1—7*, *9—18* — замак; *8* — мястэчка).
Мал. 105. Кварты, бутэлькі, бутлі 17—18 стст. з замка (*1—3*, *5—8*) і мястэчка (*4*).
Мал. 106. Металічныя вырабы.

Шурфы, раскопы, траншэі

Найстаражытны культурны слой

Распаўсюджанне культурнага слою ў 15-16 ст.ст.

Распаўсюджанне культурнага слою ў 17 ст.

Шурфы NN 1-11 – раскопкі А.М. Кушнярэвіча ў 1987 г.

Шурфы NN 1-12 – 1982 г.

Шурфы NN 13-24, раскопы 1,2 – 1983 г.

Раскоп 3 – 1984 г.

Траншэі NN 1-4, шурфы NN 25-32 – 1988 г.

Шурфы NN 1-10 у наваколлі Мікалаеўскага касцёла – раскопкі 1989 г.

Мал. 1. План-схема археалагічных даследаванняў у г. п. Мір



Мал. 3. Мірскі замак пасля аднаўленчых работ князя Святаполк-Мірскага ў 20—30-х гадах 20 ст. Архіўны здымак



Мал. 4. Мірскі замак да пачатку рамонту 20—30-х гадоў 20 ст. Архіўны здымак



Мал. 5. Замак. Раскоп 17 каля паўднёвай сцяны

Мал. 6. Замак. Каля 30-х гадоў 20 ст. Каля цэнтральнай вежы бачны прыбудовы **17—18 стст.**



Мал. 7. Замак. Раскопы 19—21, размешчаныя на месцы прыбудовы каля цэнтральнай вежы




Мал. 8. Сістэмы муровак Мірскага замка: *1* — змешаная муроўка 16 ст., *2* — гатычная дэкаратыўная муроўка 16 ст., *3* — рэнесансавая муроўка канца 16 — пачатку 17 ст., *4* — падмурак перадбрам'я, *5* — падмурак палаца, *6* — муроўка сцяны перадбрам'я




Мал. 9. *I* — рэшткі горна другой паловы 17 ст., *II* — рэшткі пабудовы другой паловы 17 ст., *III* — байніца пачатку 16 ст., *IV* — арачны праход з галерэі па заходняй сцяне ў паўночна-заходнюю вежу, закладзены пры будаўніцтве палаца (*1* — белая тынкоўка, *2* —драўляныя дэталі 16 ст.)




Мал. 10. Замак. Раскопкі перадбрам'я




Мал. 11. Сітуацыйны план замка пасля правядзення архітэктурна-археалагічных даследаванняў: *1* — развал кафлянай печы мяжы 15—16 стст. з першапачатковага паселішча, *2* — сметніца канца 16 — пачатку 17 ст., *3* — позні вадасцёк, 20—30-я гады 20 ст., *4* — рэшткі вадасцёкаў 16—17 стст., *5* — рэшткі перадбрам'я канца 16 — пачатку 17 ст., *6* — рэшткі кухні 17 ст., *7* — рэшткі канюшні 17 ст., *8* — фрагменты падмуркаў цаглянай вежачкі для захавання фуражу 17 ст., *9* — рэшткі аднапавярховых гаспадарчых пабудоў 17 ст., *10* — вылічаныя месцы размяшчэння цагляных слупоў-апораў мастка, які вёў у італьянскі сад, *10а* — выяўленыя падмуркі слупоў-апораў 17 ст., *11* — падсыпка з бітай цэглы для апоры мастка, *12* — выемка для апоры мастка на грэбені курціны, *13* — рэшткі ганкаў палаца пачатку 17 ст., *14* — фрагменты першапачатковай брукоўкі, *15* — рэшткі машчэння з плітак, *16* — фрагменты брукаванай пад'язной дарогі, *17* — калодзеж: *А* — сцены пачатку 16 ст., *Б* — сцены канца 16 — першай паловы 17 ст., *В* — прыбудовы 20—30-х гадоў 20 ст.



Мал. 12. Замак. Фрагменты аблямоўкі дзвярнога праёму. Архіўны здымак



Мал. 13. Замак. Рэнесансавы палац. Вапняковае аздабленне дзвярных і аконных праёмаў. Архіўны здымак




Мал. 14. Замак. Фрагменты рэнесансавых каменных дэталяў аздаблення палаца канца 16 — пачатку 17 ст.



Мал. 15. Замак. Перадбрам'е. Тычковая муроўка канца 16 — пачатку 17 ст.



Мал. 16. Замак. Падмуркі прыбудовы 17 ст. да паўднёвай сцяны




Мал. 17. Замак: *1* — вадасцёк 20—30-х гадоў 20 ст.; *2, 3* — яма-сметніца канца 16— першай паловы 17 ст.



Мал. 18. Замак. Аднаўленчыя працы на Мірскім замку ў 20—30-я гады 20 ст. Архіўны здымак



Мал. 19. Замак. Аднаўленчыя працы на Мірскім замку ў 20—30-я гады 20 ст. Архіўны здымак



Мал. 20. Г. п. Мір. Брукоўка двара канца 19 — пачатку 20 ст. (раскоп 1)



Мал. 21. Г. п. Мір. Шурф 1. Рэшткі розначасовых брукавак гандлёвай плошчы



Мал. 22. Г. п. Мір. Рэшткі сутарэнняў мураванага будынка 17 ст. каля плошчы (шурф 6, квадрат 2)



Мал. 23. Г. п. Мір. Раскоп 2. Паўночны профіль



**Мал. 24. Г. п. Мір. Раскоп 4. Рэшткі кафлянай печкі другой паловы 17 ст. перад пачаткам разборкі развалу**



Мал. 25. Г. п. Мір. Раскоп 4. Кафляная печка другой паловы 17 ст. у працэсе разборкі развалу



**Мал. 26. Г. п. Мір. Траншэя 3. Мураўка сцяны Віленскай брамы**



Мал. 27. Г. п. Мір. Траншэя 4. Падмуркі Менскай брамы



**Мал. 28.** Замак. Усходні профіль раскопу 29. Выразна бачна будаўнічая праслойка канца 15 — пачатку 16 ст. над пясчанай «падушкай»




Мал. 29. Замак. *I* — усходні профіль раскопу 29, *II* — усходні профіль раскопу 5































Мал. 30. Замак. Непаліваны керамічны посуд з раскопу 5




Мал. 31. Замак. Раскоп 31. Керамічны посуд з ямы-сметніцы каля замкавай сцяны




Мал. 32. Г. п. Мір. Раскоп 1



0 20 40 60 80 100 см

- Дзённая паверхня, гумус
- Камень
- Жвір
- Пясок
- Бітая цэгла
- Вапна
- Светла-шэры слой
- Цёмна-шэры слой
- Гліна
- Суглінак

Мал. 33. Г. п. Мір. Шурф 1. Заходні профіль




Мал. 34. Тыпалагічная класіфікацыя непаліваных гаршкоў 16—18 стст.



Мал. 35. Дымлены гладыш
18 ст. з Мсціслава




Мал. 36. Непаліваныя гаршкі канца 15—17 ст. (*1—3* — замак, і *4—5* — мястэчка)




Мал. 37. Тыпы непаліваных гаршкоў, знойдзеных на тэрыторыі мястэчка (раскопкі А. К. Краўцэвіча 1982—1983 гг.)




Мал. 38. Непаліваныя гаршкі з ручкай 17—18 стст.




Мал. 39. Непаліваныя макотры другой паловы 15—16 ст.




Мал. 40. Непаліванае начынне 16—18 стст. (*1—8* — замак, *9—11* — мястэчка)



Мал. 41. Фрагменты непаліваных арнаментаваных макотраў 16 ст.



Мал. 42. Непаліваная латка канца 16—17 ст.



Мал. 43. Фрагменты непаліванага начыння невядомага прызначэння са сметніцы 16—17 стст.



**Мал. 44. Керамічны выраб невядомага прызначэння са слою канца 16—17 ст.**




Мал. 46. Паліваныя гаршкі, кубкі і фрагменты біклаг канца 16—17 ст. (*1—5*, *10*, *11* — замак, *6—9*, *12* — мястэчка)



Мал. 47. Чырвонагліняны гаршчок канца 16—17 ст., арнаментаваны карбоўкай



Мал. 48. Фрагменты паліваных белагліняных гаршка і кубкаў з замка (16 ст.)




Мал. 49. Фрагменты паліваных гаршкоў (*1—10*) і кубкаў (*11—13*) з мястэчка (16 — пачатак 19 ст.)



**Мал. 50. Паліваная рынка 16—17 стст. з замка**



Мал. 51. Глыбокая рынка сярэдзіны — другой паловы 17 ст. з замка




Мал. 52. Фрагменты глыбокіх (*1*, *2*) і плыткіх (*3—5*) рынак 16—17 стст. з замка



Мал. 53. Ручкі рынак



**Мал. 54. Рынка тыпу II з сеткавым арнаментам па борціку (16 ст.)**




Мал. 55. Паліваныя і распісныя талеркі 16—17 стст. з замка



Мал. 56. Паліваная талерка, арнаментаваная з дапамогай шматрадковага грабеньчыка



Мал. 57. Фрагменты талеркі канца 16 — першай паловы 17 ст., арнаментаванай карбоўкай




**Мал. 58. Паліваная талерка з надпісам ангобам па вонкавай паверхні**



**Мал. 59. Талерка 17 ст. з роспісам чырвоным ангобам па белым ангобным фоне**



Мал. 60. Фрагменты распісных талерак 17 ст.



Мал. 61. Міска з вертыкальным борцікам 19 — пачатку 20 ст.




Мал. 62. Цэлыя паліваныя міскі 16—18 стст. з замка




Мал. 63. Паліваныя і распісныя начынні для пітва 15—17 стст. (*1—4* — замак, *5—8* — мястэчка)

Мал. 64. Фрагменты посуду з роспісам па ангобным фоне



Мал. 65. Паліваная біклага 17 ст. Мястэчка




Мал. 66. Паліваны (*1*, *3—6*) і маёлікавы (*2*) посуд канца 16 — пачатку 20 ст. (*1*, *3—4*, *6* — замак, *2*, *5* — мястэчка)




Мал. 67. Керамічныя вырабы 16—18 стст. (*1—2*, *4—7*, *12*, *13*, *18—20* — замак, *3*, *8—11*, *14—17* — мястэчка)



Мал. 68. Паліваныя падсвечнікі 17 — пачатку 18 ст. з Магілёва



Мал. 69. Паліваная арнаментаваная люлька другой паловы 17 ст.



Мал. 70. Непаліваныя белагліняныя люлькі 17—18 стст.



Мал. 71. Непаліваная цацка-свісцёлка з замка



Мал. 72. Фрагмент цацкі-свісцёлкі «Конь» ці «Коннік»



Мал. 73. Непаліваны рыбалоўны грузік




Мал. 74. Тыпалагічная класіфікацыя дымленых гаршкоў і макотраў 17—18 стст. (замак)




Мал. 75. Дымлены посуд 17—18 стст. (*1—4* — замак, *5—7* — мястэчка)




Мал. 76. Дымлены і глянцаваны посуд 18—19 стст. (*1—5* — замак, *6—10* — мястэчка)




Мал. 77. Дымлены посуд (збаны і гладышы) 17—18 стст. (*1—3*, *8—10* — замак, *4—7* — мястэчка)



Мал. 78. Фрагменты глянцаваных місак 18 — пачатку 19 ст. са Старога замка ў Гродне



Мал. 79. Дымленая талерка з глянцаваным арнаментам канца 17—18 ст. з замка

Мал. 80. Фрагменты паліхромнай керамікі канца 16 — першай паловы 17 ст.



Мал. 81. Паліваны гаршчочак на трох ножках канца 16—17 ст.



Мал. 82. Горла збана з «каменнай масы»
з выявай маскарона 16 — пачатку 17 ст.



Мал. 83. Фрагмент верхняй часткі тарнага начыння 17 ст.



Мал. 84. Фрагменты бутэлькі з «каменнай масы» 18—19 стст.




Мал. 85. Замак. Архітэктурна-будаўнічая кераміка



Мал. 86. Замак. Развал печы з гаршковай кафлі другой паловы 15 ст.



Мал. 87. Замак. Гаршковая кафля з круглым вусцем. Канец 15 — пачатак 16 ст.

9. Зак. № 542




Мал. 88. Кафля 16—17 стст.




Мал. 89. Кафля 16—17 стст.




Мал. 90. Гзымсавая кафля і кафлі-каронкі 16—17 стст. (*10* — кутняя кафля 18 ст.)




Мал. 91. Кафля канца 16—17 ст.



Мал. 92. Замак. Непаліваная кафля канца 16 — першай паловы 17 ст.



Мал. 93. Замак. Непаліваная кафля другой паловы 17 ст.



**Мал. 94. Г. п. Мір. Паліваная кафля 17 ст. з раслінным арнаментам**



Мал. 95. Г. п. Мір. Паліваная кафля 17 ст. з геральдычным арнаментам




Мал. 96. Замак. Фрагменты паліхромнай кафлі-медальёна



Мал. 97. Замак. Круглая дэкаратыўная ніша на вежы-браме выкладзена з профільнай цэглы 16 ст.



Мал. 98. Г. п. Мір. Горан другой паловы 17 ст. Цэгла-сырэц у апорным слупку



Мал. 99. Замак. Фрагменты пляскатай дахоўкі пачатку 16 ст.



Мал. 100. Замак. Фрагменты дэкаратыўнага шыпа ад вільчаковай дахоўкі першай паловы 16 ст.



Мал. 101. Замак. Кавалкі плітак падлогі 17 ст.



Мал. 102. Замак. Падлога ганка каля ўсходняга корпуса палаца




Мал. 103. Шкляніцы, чаркі і стопкі 16—18 стст. (*1—13* — замак, *14—17* — мястэчка)




Мал. 104. Келіхі і аконнае шкло 16—19 стст. (*1—7*, *9—18* — замак, *8* — мястэчка)




Мал. 105. Кварты, бутэлькі, бутлі 17—18 стст. з замка (*1—3*, *5—8*) і мястэчка (*4*)




Мал. 106. Металічныя вырабы

## ЗМЕСТ



Навуковае выданне

**Здановіч Ніна Іванаўна, Краўцэвіч Алесь Канстанцінавіч, Трусаў Алег Анатольевіч**

**МАТЭРЫЯЛЬНАЯ КУЛЬТУРА МІРА І МІРСКАГА ЗАМКА**

Загадчык рэдакцыі *Л. І. Пятрова.* Рэдактар *В. І. Марціновіч.* Мастак *В. Р. Кавалеўская.* Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец.* Тэхнічны рэдактар *С. А. Курган.* Карэктар *М. С. Макрыцкая.*

Здадзена ў набор 17.05.94. Падпісана ў друк 12.10.94. Фармат 70×108 1/16. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,80+укл. на мял. пап. 6,45. Ум. фарб.-адб. 12,25. Ул.-выд. арк. 10,65. Тыраж 1800 экз. Зак. № 542.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. 220141. Мінск, Жодзінская, 18. ЛВ № 437. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220141. Мінск, Жодзінская, 18.